Істотныя хібы дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры прывялі да рэзкага зніжэння ў ёй ролі свайго і запанаванне чужога пачатку, што абумовіла сур'ёзнае абвастрэнне беларускага нацыянальнага пытання на сучасным этапе. Па розных прычынах яно абыходзіцца ў навуковай літаратуры, у ідэалагічнай працы з людзьмі, не з'яўлялася прадметам абмеркавання ў вышэйшых эшалонах улады, што і схіліла аўтара дадзенай кнігі ўзяцца за пяро. Добра разумеючы, што грунтоўнае раскрыццё нацыянальнага пытання падуладна толькі цэламу калектыву высокаэрудзіраваных даследчыкаў, у кнізе яно асвятляецца толькі ў самых агульных рысах больш за ўсё з мэтай прыцягнуць увагу палітыкаў, ідэолагаў, прагрэсіўныя колы грамадства да тэрміновага развязвання гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы. Кніга ў першую чаргу адрасуецца тым, каго непакоіць дэградацыя сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця беларускага народа.

Сваю кнігу прысвячаю
актыўнаму, самаадданаму ўдзельніку
беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння,
высакароднаму Чалавеку Надзеі Сармант

## Ад аўтара

Усе найважнейшыя дасягненні чалавецтва ў сферы духоўнага жыцця сталі магчымымі дзякуючы развіццю нацыянальных культур шматлікіх народаў планеты Зямля. Там жа, дзе хто-небудзь з іх па сваёй ці навязанай яму волі спрабаваў духоўна вызначыцца не праз уласную, а чужую культуру, атрымліваліся сумныя вынікі. Пераканаўча пацвярджаецца гэта і гаротнай практыкай беларускага народа, самыя адукаваныя і заможныя пласты якога, за рэдкім выключэннем, працяглы час знаходзіліся спачатку ў палоне польскай, а затым рускай культур, што самым адмоўным чынам адбілася на развіцці яго нацыянальнай культуры. Яе творцамі і носьбітамі з'яўлялася пераважна вясковае насельніцтва, якое і тады і пазней істотна ўступала гарадскому паводле ўплыву на культурнае развіццё грамадства. Сутнасць такой залежнасці культуры на Беларусі ад геаграфічнага і сацыяльнага фактару заключалася ў тым, што адукаваныя і заможныя станы выступалі ў ролі пасіўных і актыўных носьбітаў польскай і рускай культур, а шараговыя людзі жылі і тварылі ў рэчышчы сваіх прыродных культурна-моўных традыцый. Гэта не толькі стрымлівала духоўны прагрэс беларускага народа, адмоўна ўплывала на фарміраванне этнічнай самасвядомасці, але і ўносіла разлад у яго сацыяльныя ўзаемадачыненні, не давала яму магчымасці гарманічна развівацца. Шкада, што ўсё гэта і па сённяшні дзень да канца не разумееца многімі нашымі дзяржаўнымі дзеячамі і значнай афіцыйнай часткай інтэлігенцыі. І як вынік, сур'ёзных праблем ў сучасным нацыянальным жыцці не менш, чым за часамі Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза. Як у самыя горшыя ў гісторыі беларускага народа часы перад ім і зараз на ўвесь рост, рубам стаіць нацыянальнае пытанне. Парадаксальна, што ўсё гэта адбылося і адбываецца ва ўмовах існавання суверэннай Рэспублікі Беларусь. Ці не ставіць гэта пад сумненне наяўнасці ў яе такога высокага нацыянальна-дзяржаўнага статусу? Бо сусветная цывілізацыя не ведае выпадку, каб па-сапраўднаму суверэнная дзяржава не забяспечвала ўсіх неабходных умоў дзеля бесканкурэнтнага, дынамічнага развіцця нацыянальнай культуры ўласнага народа, не аддавала ёй прыярытэту перад іншымі

культурамі, якія самымі рознымі шляхамі могуць пранікнуць і прыжыцца на яе гістарычнай тэрыторыі. На вялікую бяду, ні беларуская культура, ні беларуская адукацыя, ні беларуская мова больш як тры стагоддзі не карысталіся такім прыярытэтам у сваім родным доме. І сучасная дзяржава ў шмат разоў больш асігнуе матэрыяльных і фінансавых сродкаў на панаванне ў духоўным жыцці нашай краіны ўсяго рускага, чым беларускага. Значная частка беларускага народа апусціла рукі, змірылася з такой ганебнай дзяржаўнай палітыкай у сферы культуры, таму павярнуць людзей тварам да сваіх прыродных духоўных каштоўнасяў нельга разглядаць за лёгкую, простую справу. Мяняць становішча ў нацыянальны бок давядзецца не толькі з дапамогай правядзення самага шырокага комплексу культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, г. зн. чыста дэмакратычным шляхам, але і праз ажыццяўленне найперш самімі дзяжаўнымі органамі адпаведных адміністрацыйных захадаў, хаця і не ўсе яны будуць знаходзіць падтрымку ў адарваных ад роднай глебы людзей. Сусветны вопыт пераканаўча сведчыць, што ўсё тое, што на працягу стагоддзяў навязвалася народу чужымі рэжымамі ці залежным ад іх сваім, не так лёгка паддаецца выдаленню. З цягам часу народ прыціраецца і да навязаных яму чужых духоўных каштоўнасцяў, а самае страшнае, што многія пад уплывам тонка прадуманай, дасканала праведзенай ідэалагічнай апрацоўкі ставяць іх вышэй за родныя, не зацікаўлены ў вяртанні апошніх ва ўласную паўсядзённасць. Гэтага нам ніяк нельга выпускаць з-пад увагі ў сваіх клопатах, практычных дзеяннях па выхаванні ў зрусіфікаваных беларусаў жадання ісці сваім шляхам, не паразітаваць на чужой культуры, што якраз і парадзіла сабой абвастрэнне беларускага нацыянальнага пытання, з чым амаль не сутыкаюцца па-сапраўднаму суверэнныя дзяржавы.

**З уласнага і чужога досведу**

Няма мо не толькі ў Еўропе, але нават і ва ўсім свеце, народа, як беларускі, таленавітыя сыны і дочкі якога так шмат працавалі на чужыя культуры: спачатку на польскую, затым – на рускую. Калі ж ісці ад адваротнага, дык напрошваецца выснова: няма не толькі ў Еўропе, а мо нават і ва ўсім свеце народа, як беларускі, на нацыянальную культуру якога так мала працавалі б таленавітыя сыны і дочкі іншых народаў. Часта, калі на яго зямлю траплялі здольныя ў тым ці іншым жанры культуры асобы з суседніх і аддаленых краін, яны працягвалі тварыць альбо ў рэчышчы сваёй культуры, або культуры, якая ўкаранялася звонку: спачатку – польская, затым руская. У выніку ўсіх гэтых фактараў на Беларусі ўжо на працягу некалькіх стагоддзяў яе прафесійная культура ўступала спачатку польскай, а затым – рускай, што як мага лепш адпавядала афіцыйнай палітыцы паланізацыі і русіфікацыі беларускага народа. Змаганне з гэтай пачварнай з’явай ў яго заўжды забірала шмат сіл і энергіі, сеяла сумненні ў магчымасць выжывання, што штурхала адораных людзей краю, каб толькі не змарнаваць свой прыродны талент, працаваць на карысць запанаваных тут чужых культур, спрыяючы гэтым самым, як на здзек, асіміляцыі сваіх суродзічаў.

* * *

Беларусы ўжо чацвёртае стагоддзе знаходзяцца ў плавільным асіміляцыйным катле. Звычайна яго распальвае народ, які з’яўляецца гаспадаром сваёй зямлі і плавіць у ім тых, хто ў моц розных прычын трапляе на яе. Проста не пералічыць колькі звялося іншапляменных людзей на чужых для іх тэрыторыях. У нас жа ўсё атрымлівалася і атрымліваецца наадварот: на беларускай зямлі здаўна касцёр пад катлом раскладвалі чужынцы і стагоддзямі плавілі ў ім не падобных да сябе па культуры і мове людзей, г. зн. самога гаспадара – беларуса. Асабліва старанна выплаўлялі ў яго ўсё роднае і дарагое, калі ў 1696 г. прапольскай скіраванасці ўлады Рэчы Паспалітай забаранілі ўжываць роднае слоўца беларусаў на іх бацькоўскай зямельцы. Калі ж па праву мацнейшага амаль увесь наш край захапіла Расійская імперыя, сухія бярозавыя дроўцы пад плавільны кацёл на Беларусі стаў разам з палякамі падкладваць яшчэ адзін “братні” славянскі народ – рускі. Беларусы не маўчалі, супрацiўляліся ў 1863 – 1864 гг. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага самаахвярна, не шкадуючы жыцця, змагаліся супроць расійскага дэспатызму, але былі бітыя. У 1867 г. ім нават

забаранілі выдавць кнігі на роднай мове, навучальныя ўстановы функцыявалі і стваралiся спрэс толькі рускамоўныя. На шчасце, у цара тады нетавала на гэта сродкаў, таму такія школкі ахоплівалі толькі нязначную частачку беларускіх дзетак, дый вучыліся яны там усяго год ці два. Каб царскія настаўнікі мелі нешта падобнае накшталт нашых сучасных васьмі ці дзесяці- адзінаццацігодак, дык беларускай мове ўжо заняло б дзесьці на сконе XIX альбо на заранку XX ст. Шмат зрабілі па яе выкараненні з жыцця нашага народа праваслаўная царква і касцёл, асабліва першая.

На зло ўсім крыўдзіцелям народ наш працягваў жыць, але жыў не так, як усе нармальныя людзі. Шмат, вельмі шмат незваротна страчана ім. Мільёны беларусаў пад уплывам мэтанакіраванай дзяржаўнай асімілятарскай палітыкі трансфармаваліся ў палякаў і рускіх, захаваўшы ад свайго роднага толькі прозвішчы, назвы населеных пунктаў, дый то часта перакручаныя на чужы лад.

Стагоддзем нечуванай нацыянальнай катастрофы для беларусаў з’явілася XX. І калі нічога не зменіцца да лепшага на агульнанародным, агульнадзяржаўным узроўнях, магчыма яно ў іх жыцці стане апошнім поўным стагоддзем. Пішу апошнім таму, што сённяшнія працэсы культурна-моўнай асіміляцыі на Беларусі, паколькі да іх актыўна падключыліся самі ўладныя структуры, магутныя ідэалагічныя службы, з’яўляюцца больш жорсткімі і маштабнымі, чым яны былі не толькі сто, але і чвэрць стагоддзя таму назад. Калі раней зададзеная тэмпература ў плавільным асіміляцыйным катле падтрымлівалі спальваннем звычайных драўняных паленцаў, дык цяпер у гэтых пачварных мэтах выкарыстоўваецца магутны атамны рэактар, які працуе на цвёрдым паліве. І як на здзек, патрэбны тэмпературны рэжым у рэактары забяспечваецца самімі беларусамі, а ў іх, дай божа, які багаты вопыт у асіміляцыі адзін аднаго. Зараз лепш за беларускія ўлады ніхто не выканае гэтай злачыннай акцыі. І самае страшнае: ні ў які Міжнародны суд не паскардзішся, не звернешся па дапамогу да сусветнай цывілізацыі, бо беларусаў жа русіфікуюць не якія-небудзь інтэрвенты, а самі дзяржаўныя дзеячы гэтай нацыі, набліжаная да іх частка інтэлігенцыі.

Каб кожнаму з вас, дарагія нашыя супляменніцы і супляменнікі, пераканацца, як мы далёка зайшлі ў асіміляцыі, прыслухайцеся, калі ласка, хто ў вашым асяроддзі гаворыць па-беларуску, паспрабуйце на пальцах – дастаткова будзе адной рукі – падлічыць, колькі высокіх дзяржаўных асобаў публічна карыстаюцца гэтай мовай і вы, не

сумняваюся, нашай агульнанацыянальнай хваробе паставіце прыкладна такі дыягназ: рак унутраных органаў, інсульт, СНІД. І ў гэтай архітрагічнай сітуацыі ўсё ж асмелюся заклікаць усіх да сумесных рашучых дзеянняў па выратаванні ад навіслай над намі цёмнай хмарай русіфікацыі. Пагадзіцеся, усенароднага супраціўлення ёй, асабліва з боку элітнай часткі грамадства, няма. З гэтай злыбедой пакуль што змагаемся ў адзіночку, таму і станоўчага выніку не маем. Хочацца спадзявацца, што азнаямленне са зместам маёй кнігі хоць трохі павялічыць шэрагі нацыянальных адраджэнцаў, актывізуе іх змаганне за выратаванне беларускага народа ад так рэальнага для яго на сёння этнічнага вымірання.

* * *

Паколькі ў выніку працяглай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі адбылася карэнная дэфармацыя беларускага нацыянальнага арганізму, не будзе аніякай бяды, калі дзяржава, абапіраючыся на цесна звязаную з ёю інтэлігенцыю, пяройдзе да мэтанакіраванага прышчаплення народу нацыянальнай самасвядомасці зверху. Такім шляхам давялося прайсці многім краінам, урады якіх хацелі развівацца не на чужых, а на сваёй культурна-моўнай аснове, ад чаго свет цывілізацыі стаў толькі больш разнастайным, духоўна багатым. Разлічваць, што ў нашага адарванага ад прыроднага грунту народа нацыянальная самасвядомасць будзе аднаўляцца, мацнець і развівацца сама па сабе, няма аніякіх падставаў. Наадварот, яна будзе яшчэ больш дэфармавацца, улічваючы рэальныя на сёння суадносіны ў грамадскім жыцці нашай краіны паміж беларускім і рускім элементамі. А каб такога, не дай бог, не здарылася, дзяржава павінна, не баючыся быць недэмакратычнай у правядзенні нацыянальнай палітыкі, адкрыта стаць на бок беларускага народа, каб ратаваць яго ад асіміляцыі. Акурат толькі ў выніку такога падыходу да развязвання нацыянальнага пытання ўраду Фінляндыі ўдалося ў свой час (да далучэння ў 1869 г. да Расіі) пакончыць з панаваннем на яе тэрыторыі шведскай культуры і мовы. Яны засталіся, але ў такім аб’ёме, які нікольківі не пагражае, не стрымлівае развіцця фінскай культуры і мовы. Нешта падобнае з фінскай нацыяй адбылося і пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г., калі яна, дзякуючы энергічнаму змаганню за нацыянальную незалежнасць, змагла выйсці з-пад непажаданай апекі Савецкай Расіі. Сёння ні культуры, ні мове фінскага народа нішто не пагражае, не існуе аніякіх сур’ёзных праблем з эканамічным, сацыяльна-эканамічным развіццём яго краіны. Фіны вызначаюцца здаровай,

трывалай нацыянальнай самасвядомасцю, да чаго так далёка нам, беларусам.

* * *

Калі ўважліва прасочваеш пройдзены рознымі краінамі гістарычны шлях, заўважаеш, што ў кожнай з іх ёсць нейкае прадвызначэнне, ці то боскае, ці то д’ябальскае. Так, на плячах Партугаліі і Іспаніі ляжаў абавязак адкрываць новыя краіны і кантыненты, Германіі – распачынаць сусветныя войны, Расіі – пераадольваць перыядычны недахоп прадуктаў харчавання (гэтая няўдзячная функцыя з утварэннем СССР перайшла ад яе і на дадзенае дзяржаўнае фармаванне), Злучаным Штатам Амерыкі – уціхамірваць ваенныя канфлікты, ну а Беларусі – ваяваць з уладамі чужых краін і уласнай, каб вырваць з іх кіпцюроў права на стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі і забеспячэнне рэальнага статусу дзяржаўнай для роднай мовы свайго карэннага насельніцтва. Калі першыя дзве з пералічаных краін ужо справіліся са сваёй місіяй, а трэцяя не марыць пра развязванне трэцяй па ліку сусветнай вайны, дык у Расіі, ЗША і Беларусі працы зусім не ўбавілася. І калі глянуць на сённяшнее разбаласаванае нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі і стаўленне да яго афіцыйных уладаў, абсалютнай бальшыні інтэлектуалаў, зусім няма ніякіх гарантый, што яна хутчэй справіцца з рэалізацыяй сваіх прадвызначэнняў, чым Расія і ЗША.

* * *

Практычна кожная нацыя, што мае сёння на сваёй тэрыторыі трывалыя пазіцыі роднай мовы, часам звярталася да самых жорсткіх адміністрацыйных захадаў дзеля яе захавання і развіцця, прычым часта зусім не лічачыся з інтарэсамі іншаземных народаў. У нас дзеля падмацавання фактамі такой думкі звычайна прынята спасылацца на сумнавядомы вопыт Расійскай імперыі. Я спашлюся таксама на поліэтнічную імперыю – Аўстрыйскую. З гісторыі вядома, што яе імператар Іосіф II 27 студзеня 1787 г. пастанавіў, “каб у равіны не выбіраліся тыя, якія не прайшлі нямецкай школы. Да вывучэння талмуда не дапускаўся ні адзін малады чалавек, пакуль не здаў экзамена ў нямецкай мове.

Кожны жыд, які пажадаў ажаніцца, павінен быў падаць пасведчанне, што зрабіў поспехі ў нямецкай мове”. Гэты ж імператар загадаў яўрэям “замяніць свае прозвішчы нямецкімі і метрыкі свае весці на нямецкай

мове”[1]. Жорстка. Не хацеў бы, каб такімі метадамі ратавалася беларуская мова. Але нейкія адміністрацыйныя захады тут непазбежны.

* * *

Мы справядліва крытыкуем царызм за яго антынацыянальную палітыку ў дачыненні да беларускага народа. Але здаралася і такое, што ў дарэвалюцыйны час нашыя грамадска-палітычныя, культурныя дзеячы, навукоўцы мелі куды больш, чым іх сённяшнія калегі, правоў гаварыць народу праўду пра рэальны стан яго культуры і мовы. Вось, да прыкладу, што пісалася ў 1912 г. на старонках аднаго з нумароў беларускай газеты “Наша ніва”: “Нязменны закон, якім кіруецца ўвесь свет: ствараць культурныя рэчы ўсясветнай вартасці можна толькі ў сваёй роднай мове… Замяніць жа народу яго мову – гэта значыць забіць душу таго народа, яго асобую творчую здольнасць”. Для таго часу сказана праўдзіва і смела, а галоўнае – ўсё абылося без вынясення якіх-небудзь санкцый супроць рэдакцыі газеты. Сёння такога не асмеліцца сказаць аніводзін з афіцыйных ідэолагаў, журналістаў, хаця ў пераважнай бальшыні нашая творчая інтэлігенцыя і стварае сваю прадукцыю не на роднай, а на рускай мове, хаця ўлады амаль цалкам замянілі першую другой. Прыведзеныя з газеты “Наша ніва” стогадовай даўнасці словы не адважыцца паўтарыць аніводны журналіст нават беларускамоўнай афіцыйнай газеты з-за страху вылецець з працы. Во што значыць мець суверэнную дзяржаву, усенародна абраны парламент?! Такое і не снілася нашаніўцам у 1912 г.

* * *

Сусветная практыка сведчыць, што тэрытарыяльныя этнічныя асяродкі валодаюць зайздроснаю жывучасцю, знаходзячыся ў іншародным ачоленні. Спаслацца тут можна на невялікі славянскі рэгіён унутры Германіі, на тэрыторыі якога спрадвеку жывуць лужыцкія сербы. Аднак асіміляцыя дэфармавала іх нацыянальны духоўны ўклад жыцця ненамнога больш, чым такое сталася з беларускім, хоць яго носьбіты належаць да карэнных насельнікаў тэрыторыі свайго пражывання, амаль скрозь суседнічаюць з блізкароднаснымі славянскімі народамі.

[1] Е. де-Виттс. Действительность. Выпуск 11-й. Онемечение. Борьба народностей. Моравия. Почаев. 1911. С. 156, 157.

Унікальнай з’явай можа пахваліцца Грузія. У міжваенны перыяд на яе зямлі невялікая колькаць эстонцаў заснавала для сябе населены пункт і стала будаваць у ім жыццё паводле сваіх нацыянальна-культурных традыцый. Гэтаму усяляк спрыялі мясцовыя ўлады, дзякуючы чаму купка эстонцаў не агрузінілася.

Аўтару гэтых радкоў даводзілася ў 50-я гады мінулага стагоддзя сустракацца з прысутнасцю на тэрыторыі Уфімскага раёна Башкірскай АССР некалькіх вёсак, жыхары якіх размаўлялі паміж сабой толькі па-ўкраінску. Іх дзеці наведвалі суседнія рускамоўныя школы, а дома карысталіся толькі ўкраінскай мовай. Аналагічна паводзіла сябе моладзь гэтых вёсак, што вучылася ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах альбо знаходзілася на службе ў розных гарадах. Дарэчы ёсць вопыт – прычым даволі паказальны – свядомага стварэння, працяглага існавання этнічных паселішчаў і ўнутры беларускага асяроддзя. Рабілася такое ў дачыненні да прадстаўнікоў татарскага народа, якія з канца XIV ст. сталі сяліцца на нашых землях. Каб мець належныя ўмовы для самастойнага жыцця, гэтая этнічная супольнасць усяляк імкнулася да канцэнтрацыі сваіх людзей у паасобных населеных пунктах. Відаць, разумелі, што ў такіх варунках больш гарантыі не растварыцца сярод іншародных і значна большых па колькасці жыхароў. Насустрач такім пажаданням ішлі не толькі дзяржаўныя ўлады, але і магнацкія роды. Так, клопатам Мікалая Радзівіла Чорнага і яго сына Мікалая Радзівіла Сіроткі абавязаныя сваім узнікненнем у XVI ст. найстарэйшыя ў нас татарскія пасяленні Асмолава, Іванава і Арда. Калі ў бліжэйшы час кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь не адумаецца і не пачне ратаваць свой тытульны народ ад так рэальнай для апошняга этнічнай смерці, ёсць прамы сэнс найбольш шчыра адданую нацыянальнаму ідэалу частку беларусаў (пажадана з колькасцю хаця б адзін мільён чалавек) аддзяліць ад сваіх безнадзейна зрусіфікаваных суродзічаў і кампактна рассяліць у якім-небудзь рэгіёне краіны, найбольш аддаленым ад Расіі.

* * *

Пры глыбокім аналізе моўных працэсаў, што адбываліся і адбываюцца ў свеце, прыходзіш да высновы, што ў абсалютнай бальшыні выпадкаў двухмоўе ўзнікала на базе сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту аднаго народа другім. Каланізацыя Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі дае масу такіх прыкладаў. Ды і наш уласны досвед пераканаўча сведчыць, каб Беларусь, жывучы ў складзе Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, не

знаходзілася ў прыгнечаным стане, мы б не ведалі, што такое паланізацыя і русіфікацыя, значная частка нас не адцуралась б роднай мовы і не размаўляла б раней па-польску, а цяпер – па-руску. Таму памыляюцца тыя, хто ў двухмоўі бачыць толькі фактар збліжэння, сяброўства нацый. У 1947 г., калі Індыя вызвалілася з-пад улады Велікабрытаніі і стала незалежнай дзяржавай, у яе на той час было самае развітое нацыянальна-англійскае двухмоўе, што, аднак, не перашкодзіла ёй разарваць палітычныя адносіны з самай вялікай і магутнай у свеце каланіяльнай метраполіяй. Дзеля таго, каб Беларусь сябравала з Расіяй, Украінай, Польшчай… насельніцтва першай зусім неабавязкова павінна быць двухмоўным беларуска-рускім, беларуска- ўкраінскім, беларуска-польскім. Патрэбы сяброўскіх сувязяў паміж гэтымі народамі ў стане выканаць і адна беларуская мова, як гэта ў Расіі робіць руская, на Украіне – украінская, у Польшчы – польская. Любая аднамоўная нацыя была, ёсць і застанецца адкрытай для збліжэння з іншымі нацыямі, таму нам, беларусам, зусім не варта баяцца распачаць вяртаць сваю родную мову на яе законны пасад. Гэта не адкіне ад нас ні Расію, ні Украіну, ні Польшчу, ні якую-небудзь іншую краіну, наадварот, такой павагай да ўласных культурна-моўных традыцый мы толькі ўмацуем свой аўтарытэт у свеце, пакажам, што і мы здольныя ўзбагаціць яго арыгінальнымі духоўнымі каштоўнасцямі, а не злепкамі, падробкамі з якіх-небудзь іншых культур. Розныя мовы толькі раз’ядноўваюць адзін і той жа народ пэўнай краіны, а не цэлыя народы паасобных краін. Калі б у жыцці ўсё было не так, афіцыйнае двухмоўе панавала б скрозь ва ўсіх народаў, а сумежныя краіны з рознымі нацыянальнымі мовамі не выходзілі б са стану вайны паміж сабою.

* * *

Не сумняваюся, каб нават палову з таго, што за перыяд з 1772 г. і па сёння было зроблена ў нас для ўкаранення і ўмацавання пазіцый рускай мовы, выканалі ў гэтых мэтах для кітайскай мовы, яна мела б такое самае шырокае распаўсюджанне сярод беларускага народа, і ён, пры належнай ідэалагічнай апрацоўцы, прагаласаваў бы за наданне ёй аднолькавага з роднай мовай сацыяльнага статусу.

* * *

Мы вельмі часта крытыкуем моцна паважаных у савецкай гісторыі дзяржаўных, партыйных дзеячоў. Нямала дасталася і самаму аўтарытэтнаму з іх Уладзіміру Леніну. А між іншым у яго поглядах

багата чаго каштоўнага, і каб іх удалося дастасаваць да нашай практыкі, яны ў многім дапамаглі б палепшыць расхлябанае нацыянальнае жыццё беларусаў. Ну вось, напрыклад, такія словы У.Леніна: “Члены РКП (Расійскай камуністычнай партыі. – *Л. Л.*) на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца і гаварыць ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы русіфікатарскім спробам адцясніць украінскую мову на другі план…” Несумненна, пры нагодзе такія словы ён сказаў бы і пра беларускую мову, што толькі пайшло б ёй на карысць. Сёння ж нізашто не прамовіць такіх слоў аніводзін з дзяржаўных дзеячоў суверэннай Рэспублікі Беларусь, бо іх палітыка ў моўнай сферы носіць антынацыянальны, варожы карэнным інтарэсам тытульнага народа характар.

* * *

Цяпер у нас многа гавораць і пішуць пра выхад у еўрапейскую цывілізацыю, пра неабходнасць вучыцца ў яе народаў любіць і шанаваць родную культуру, будаваць на ўласным нацыянальным падмурку ўсё сваё духоўнае жыццё. Гэтаму, бадай, ніхто не стане пярэчыць. І ў той жа час нам не трэба цурацца вывучаць станоўчы вопыт нацыянальна-культурнага адраджэння краін, якія стагоддзямі пакутвалі пад каланізатарскім прыгнётам, а вызваліўшыся з-пад яго, настойліва шукалі шляхі вяртання да страчаных вытокаў, як толькі маглі ўзводзілі на дзяржаўны п’едэстал родную мову. Ці ж нічога карыснага не даюць нам словы, выказаныя індыйскім пісьменнікам С. Ватсайя ў час, калі яго краіна перастала быць брытанскім дамініёнам і рабіла першыя крокі па шляху нацыянальнага адраджэння, заканамерна ставячы ў цэнтр яго родную мову сваіх індыйскіх асноўных народаў. “Грамадства, – пісаў ён, – не можа жыць на замежнай мове, а поспех адзіночак (ствараць на ёй свае літаратурныя творы. – *Л. Л.*) роўна нічога не даказвае. Менш за ўсё прыдатнае для гэтых эксперыментаў грамадства, якое паралельна з гэтым змагаецца за свабоду і за набыццё ў гэтай свабодзе ўласнай годнасці. Яно (грамадства. – *Л. Л.*) жыве ўласнай мовай або пакутуе ад адчужэння і страты цэльнасці…” Гэтым пісьменнікам прызнавалася, што ў Індыі ёсць “амаль цэлае пакаленне не ў арыгінале, а ў перакладзе. Жыве ў перакладзе, не ведаючы арыгінала, без упэўненасці, што ён дзесьці ёсць ці быў на свеце ўвогуле…” [1]

[1]. Салганик М. Война языков? Иностранная литература. 1968. №9. С. 223, 224.

* * *

У пасляваеннай (маецца на ўвазе Першая сусветная вайна) незалежнай Чэхаславакіі, дзякуючы ўзважанай палітыцы дзяржавы, намаганням нацыянальна-самасвядомай часткі грамадства і найперш інтэлігенцыі, проста на вачах адбывалася тое, пра што так марыў яе славуты славацкі і чэшскі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч Ян Колар (1793 – 1852): “Мова, якая выклікае сляпую нянавісць немцаў, заклеймаваная імі, як мова рабоў, прагучыць ізноў пад зводамі замкаў… Касцюмы, норавы, песні нашага народа – усё будзе панаваць на берагах Сены і Лабы”. [1] Усё гэта сталася рэальнасцю пасля таго, як чэхі і славакі вызваліліся з ланцугоў германскага імперыялізму і стварылі сабе ў 1918 г. незалежную Чэхаславацкую рэспубліку. Гэта толькі небаракі беларусы не без дапамогі дзяржавы і ў сваёй незалежнай краіне працягваюць гнуць калені перад рускай культурай і мовай нібыта такога свайго няма ў іх. Во якое ліха!

* * *

Неўзабаве пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г. у Расіі наш славуты нацыянальны дзеяч, мовазнавец, публіцыст Язэп Лёсік выказаў думку: калі беларусы створаць сваю Краёвую раду, “тагды не будзе таго, каб цэлы край (маецца на ўвазе Беларускі. – *Л. Л.*), заселены народам з светлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлены быў вышэйшых навучных інстытуцый (зразумела, нацыянальна-беларускіх. – *Л. Л.*)…” Выходзіць, што прароцтва Я.Лёсіка не збылося нават і на схіле дваццатага стагоддзя. А ён жа спадзяваўся на такое на яго пачатку, дакладней: у першай чвэртцы.

* * *

Нацыянальнае самагубства – праклятая з’ява не толькі беларусаў. Яна характэрна многім народам, не выключаючы і яўрэяў, якіх з усіх нацый свету прынята лічыць найбольш адданымі сваім культурна-моўным традыцыям. Пагаджаючыся з гэтым, аднак заўважу, што ні хто іншы, а менавіта створаныя ў 1919 г. у складзе бальшавіцкай партыі Расійскай Федэрацыі, Украіны, Беларусі і іншых савецкіх рэспубліках Яўрэйскія секцыі аб’явілі старажытную яўрэйскую мову іўрыт рэакцыйнай мовай,

[1]. Милюков П.Н. Национальный вопрос. Берлин. 1925. С.97.

мовай буржуазіі і сіяністаў і распачалі мэтанакіраваную дзейнасць па замене яго ідышам. Несумненна, такую варожую пазіцыю ў дачыненні

да іўрыта Еўсекцыі занялі не без уплыву высокага кіраўніцтва партыі бальшавікоў. А вось урад Рэспублікі Беларусь не пусціў родную мову сваёй тытульнай нацыі ў грамадскае жыццё галоўным чынам па ўласнай ініцыятыве, хаця з гэтых злачынных учынкаў нельга цалкам выключаць і Маскву, якая мела і будзе мець прамую зацікаўленасць да шырокага распаўсюджвання рускай мовы на ўсёй постсваецкай тэрыторыі. І трэба прызнаць, што такое адбываецца не зусім безвынікова.

* * *

Паколькі з ініцыятывы саміх дзяржаўных органаў і пры падтрымцы значнай часткі інтэлігенцыі беларуская мова ў нас ці цалкам выключана з тых або іншых сфераў грамадскага жыцця (дзейнасць абедзвюх палат парламента, Савета Міністраў РБ і падначаленых яму міністэрстваў і ведамстваў, вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы) ці зведзена да мінімуму (дашкольныя ўстановы, агульнаадукацыйныя школы, сістэма прафесійна-тэхнічнага навучання, выдавецтвы, сродкі масавай інфармацыі, тэатральнае, вакальна-інструментальнае мастацтва), мы зараз проста не маем добрых магчымасцяў не толькі для развіцця, а нават і для захавання беларускай нацыянальнай культуры і найперш прафесійнай. Цяпер у нас існуюць у дзесяткі разоў лепшыя ўмовы для развіцця рускай нацыянальнай прафесійнай культуры, чым беларускай, і ўсё гэта толькі праз выцясненне роднай мовы карэннага насельніцтва з усіх найважнейшых – і не толькі! – дзялянак дзейнасці чалавека. Што без нацыянальнай мовы няма нацыянальнай культуры, а адсутнасць апошняй немінуча вядзе да знікнення этнасу, палітыкі, адукаваныя людзі ведалі дзвесце і болей гадоў таму назад, а мы і сёння не можам як след разабрацца з гэтым пытаннем, цешым сябе, што на беларускай мове створана некалькі дзесяткаў класаў у гарадскіх агульнаадукацыйных школах, выходзяць дзве – тры рэспубліканскія газеты, што сяды-тады пачуеш яе па радыё і тэлебачанні, у час выступленняў артыстаў. Усяго гэтага крайне мала, каб выжыць беларускай мове, культуры і яе носьбітам на роднай зямлі сваіх бацькоў. У тых абставінах, якія ў нас склаліся, не моўныя рэферэндумы галоўнае (на гэта вялікага розуму не трэба), а стварэнне дзяржавай такіх умоў, каб усё грамадства і кожны яго індывідум мелі патрэбу ў веданні беларускай мовы, востра адчувалі комплекс сваёй непаўнавартасці у выпадку адсутнасці звычак гаварыць і пісаць на ёй. “Творцам мовы, – пісаў адзін з самых буйных савецкіх вучоных у галіне сацыялінгвістыкі К.Ханазараў, – з’яўляецца народ. Менавіта ён узбагачае і развівае яе. Відавочна, што пры іншых роўных

умовах… чым больш шматлікі носьбіт мовы, тым большымі патэнцыяльнымі магчымасцямі для развіцця сваёй мовы ён валодае”. [1] У выніку адпаведнай палітыкі мінулых гадоў і сучаснай зараз у нас такімі патэнцыяльнымі магчымасцямі валодае крайне абмежаваная колькасць беларускага народа, намнога менш за тую крытычную масу, якая магла б забяспечыць нармальныя варункі для жыцця роднага слова карэннага насельніцтва краю. Яе трэба неадкладна павялічваць, прыклад аб чым павінны паказаць кіруючыя асобы, занятыя ва ўсіх сферах дзяржаўнай, грамадска-палітычнай, адміністратыўна-гаспадарчай дзейнасці, у навуцы, культуры, адукацыі. Спадзявацца застацца з беларускай мовай толькі ў разліку на патэнцыяльныя магчымасці пісьменнікаў, невялікай колькасці настаўнікаў, журналістаў і вясковых жыхароў, лік якіх працягвае змяншацца, зусім безнадзейная справа. Выратаванне беларускай мовы – гэта агульнанародная задача, вырашаць якую першымі павінны пачаць палітыкі, інтэлектуальная частка грамадства.

* * *

Дзеля развязвання беларускага нацыянальнага пытання кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь нават і дзесятай долі не робіць з таго, на што у свой час скіроўваў увагу камуністаў іх правадыр Іосіф Сталін. Улічваючы, што сярод сучасных палітыкаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі ёсць нямала яго прыхільнікаў, якія досыць актыўна ўплываюць на фармаванне нацыянальных дачыненняў, на моўную сітуацыю, не лішнім будзе нагадаць ім наступныя сталінскія словы: “…Дзеля таго, каб Савецкая ўлада стала і для іншанацыянальнага сялянства роднай, – неабходна, каб яна была зразумелай для яго, каб яна функцыявала на роднай мове, каб школы і органы ўлады будавалія з людзей мясцовых, якія ведаюць мову, норавы, звычаі, быт нярускіх людзей”. Толькі ведаць усё гэта трэба нашым чыноўнікам сваіх, а не нярускіх людзей.

* * *

Калі выдатны рускі пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі (1892 – 1968)

[1] Ханазаров К.Х. Сближение наций и национальные языки в СССР. Ташкент. 1963. С. 37.

пісаў, што “сапраўдная любоў да сваёй краіны няўяўна без любові да сваёй мовы”, што “чалавек раўнадушны да роднай мовы – дзікун”, ён гэтым непрыстойным словам характэрызаваў не толькі тых, хто

абыякава ставіўся да рускай, але і іншых моваў, якіх у тагачасным СССР толькі пісьмовых, літаратурных мелася некалькі дзесяткаў. Беларускія палітыкі так былі занятыя мабілізацыяй народных мас на пабудову развітога сацыялізму, што не знайшлі часу пачытаць К.Паўстоўскага і мо рады гэтаму, бо тады трэба было б нешта рабіць дзеля амаль цалкам выключанай з грамадскага ўжытку беларускай мовы.

* * *

Ніводзін у свеце народ, акрамя мо толькі яўрэяў, не зрабіў для чужых культур больш за беларусаў. Але калі яўрэі тварылі на карысць чужых культур удалечыні ад роднага дому, дык беларусы робяць гэта пераважна на сваёй гістарычнай радзіме. Вялікай падзякі за свае стараннi ўзбагаціць чужы духоўны патэнцыял не атрымалі ні яўрэі (спаслацца тут можна на Германію), ні беларусы, дапрацаваўшыся да таго, што спачатку іх атаясамлівалі з палякамі, а пазней і зараз з рускімі. З гэтага напрошваецца выснова: творчая інтэлігенцыя ніводнага народа не зрабіла так шмат для асіміляцыі ўласнага народа, як беларуская. І з поўнай верагоднасцю можна сцвердзіць: у гэтай антынацыянальнай творчасаці яна яшчэ далёка не поўнасцю выкарыстала атрыманы ад прыроды патэнцыял. Яго хопіць (з лішкам), каб давесці беларускі народ да поўнай русіфікацыі. Такога не здарыцца толькі ў тым выпадку, калі да ўлады прыйдуць са здаровай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю асобы і пераканаюць вялікую армію моцна зрусіфікаваных педагогаў, супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі, артыстаў, кампазітараў, і нават кагосьці з прдстаўнікоў пісьменніцкай інтэлігенцыі, што ў сваёй творчасці яны павінны аддаваць перавагу беларускай культуры. Гэта ж велізарная дурнота, шукаць на сваёй зямлі беларускую культурную нішу ў рускім кантэксце!

* * *

Недаравальна моцна памыляліся ў 1919 г. многія нашыя палітычныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі інтэлігенцыі ў сваіх спадзяванняхаднавіць, пабудаваць суверэнную беларускую дзяржаву з дапамогай суседняй нам Польшчы, начальнікам якой тады быў Юзаф Пілсудскі. Не дапамаглі б нават і яго беларускія карані.

* * *

Накшталт таго, як у нас сярод беларусаў ёсць прыхільнікі захавання ў афіцыйным жыцці краіны рускай мовы, так і ў Індыі раней многа дзе

назіралася аналагічнае стаўленне да англійскай мовы, асабліва ў тых правінцыях, дзе роднай мовай насельніцтва не з’яўлялася мова самага буйнога народа Індыі, што размаўляў і размаўляе на хіндзі, якая, меркавалася, і павінна была выштурхнуць з усёй краіны мову колішніх каланізатараў – англійскую. Адзін з самых найстарэйшых і папулярных паэтаў краіны Фірак Горакпуры заяўляў: “Ні адна з індыйскіх моваў не развіта настолькі, каб стаць мовай сувязі для ўсёй Індыі. Ад англійскай нікуды не падзенешся – яна неабходна як для мэтаў усеіндыйскай адміністрацыі, так і для сучаснай вышэйшай адукацыі”. Ён жа папярэджваў урад і грамадскасць, што “без англійскай (мовы. – *Л. Л.*) Індыя рассыплецца на часткі”. Аднак такія разважанні не спынілі дзейнасць цэнтральнага ўрада, прагрэсіўнай грамадскасці Індыі па мэтанакіраваным абмежаванні сацыяльных функцый англійскай мовы і перадачы іх асноўным індыйскім мовам. У адной з цэнтральных газет Індыі “Нью эйдж” з усёй упэўненасцю адзначалася ў 1959 г., “што ў нашага вялікага (індыйскага. – *Л. Л.*) народа знойдзецца дастаткова жыццяздольнасці і нерастрачаных сіл для таго, каб замяніць англійскую ўласнымі мовамі”. [1] Хаця аж да апошняга часу такое дасягаецца з вялікай цяжкасцю, прагрэсіўныя колы індыйскага грамадства і пасёння працягваюць змаганне за максімальнае абмежаванне сацыяльнай ролі англійскай мовы ў іх краіне і маюць на гэта права.

* * *

У культурна-моўным плане зараз становішча на Беларусі шмат у чым нагадвае тое, што існавала ў яе ў XVII – XVIII стст., з той толькі розніцай, што ў той час выгадаваныя на польскіх духоўных каштоўнасцях заможныя і адукаваны пласты беларускага народа здраджвалі яму і далучаліся да польскасці, а сённяшнія рускамоўныя беларусы нясуцца на злом галавы ў расейшчыну. Страціўшы натуральную мову, яны ўжо не могуць быць і носьбітамі беларускай культуры. Ім цяпер куды бліжэй тая культура, што створана і развіваецца на мове, якой яны стала карыстаюцца паміж сабой, г. зн.
руская культура. Магутнасць яе пазіцыі ў нашым краі была і застанецца

[1] Салганик М. Война языков? – Иностранная литература. 1968. №9. С. 235, 236.

прама прапарцыянальнай колькасці яго рускамоўных жыхароў.

* * *

Нашай дзяржаве ёсць што каштоўнае запазычыць з выдавецкай справы міжваеннай беларусізацыі. Вось як, да прыкладу, глядзела на гэтую актуальную ва ўсе часы нацыянальна-культурнага Адраджэння праблему КП(б)Б: "У выдавецкай рабоце найбольшы працэнт аддаваць выданням на беларускай мове (у адпаведнасці з патрэбамі вёскі і школы), забяспечыўшы працэнт выдання на іншых мовах, прыкладна адпаведна з колькасцю насельніцтва". [1]

* * *

Ніводзін народ Еўропы не набыў столькі горкага досведу ладкавання духоўнага жыцця на чужых культурна-моўных асновах, як беларускі. Спачатку такія асновы ў яго прафесійнай культуры былі пераважна лаціна-польскія, а затым – рускія. І што характэрна, асобы, якія базавалі сваю творчую дзейнасць на такіх чужых культурна-моўных асновах усяляк апраўдвалі адыход ад уласна беларускіх, тлумачачы гэта тым, што толькі ў падобных варунках можна забяспечыць сапраўдны прагрэс беларускаму народу, ніколькі не ставячы яго пад смяротны ўдар асіміляцыі. Дзякаваць богу, апошнім часам з'яўляецца ўсё больш і больш людзей, якія добра разумеюць страшэнную небяспеку для лёсу беларускага народа ад панавання ў яго культуры чужых культурна-моўных каштоўнасцяў. Гэта ўпарта не прызнаюць толькі тыя творцы, якія ніколі не працавалі і не збіраюцца працаваць з такога роду беларускімі каштоўнасцямі і актыўна працягваюць уносіць свой уклад у развіццё рускай культуры на беларускай зямлі, ведаючы, што гэта ўсяляк будзе падтрымана не толькі ўладнымі структурамі нашай краіны, але і шырокімі коламі палітыкаў, інтэлігенцыі суседняй Расіі, якія не ўтойваюць свайго імкнення любымі шляхамі захаваць колішнюю прысутнасць рускай культуры і мовы на ўсёй постсавецкай прасторы. Адсюль вынікае, як няпроста будзе нацыянальнай скіраванасці творчай інтэлігенцыі закласці прыродны культурна-моўны падмурак пад сваю прафесійную дзейнасць. А такое патрэбна зрабіць і прычым тэрмінова, бо духоўнае жыццё Беларусі ў яго элітарных, прафесійных сферах мае вельмі мала чаго нацыянальна-самастойнага. Ужо не першы год яно больш рускае, чым беларускае, што без усялякіх сумненняў, адкрыта прызнаюць не толькі айчынныя, але і замежныя творцы. Калі толькі небяспечны адыход ад нацыянальнага можна было неяк зразумець (толькі не апраўдаць!) за Савецкім Саюзам з яго заганнай палітыкай

[1] Резолюции пленума ЦК КП(б)Б. 25 – 29 января 1925 г. Мн.,1925. С. 6.

збліжэння і зліцця культур усіх нацый і народнасцяў, дык зараз, калі Беларусь адносіць сябе да разраду незалежных дзяржаў, зусім не апраўдана, каб у яе духоўным жыцці так выразна пераважаў рускі культурна-моўны фактар.

* * *

І сёння мы грашым тым, чым грашылі сто і болей гадоў таму. Ці ж нельга пра нас, у т. л. і пра дзяржаўную інтэлектуальную эліту, выказацца словамі Францішка Багушэвіча з яго прадмовы да “Дудкі беларускай”: “…гора, гора ж над намі! А ўсяму вінаваты мы самі, бо мову прыродну мы забываем, апратку, звычай на чужы мяняем”.

* * *

Нямала сіл і часу ўбіта на русіфікацыю беларускага краю. Сёння ў нас ужо дастаткова падстаў сцвярджаць амаль пра поўную завершанасць гэтай подлай акцыі. Нарэшце здзейснілася тое, за што так энергічна, доўга змагаліся на нашай зямлі розныя плыні рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. Ім хацелася, каб тут функцыянавала адзіная руская дзяржаўная мова. Такога дасягнула палітычнае кіраўніцтва суверэннай Рэспублікі Беларусь. Гэтымі ж шавіністамі сто і болей гадоў таму выказвалася патрабаванне, каб у Беларусі праводзілася “выкладанне ва ўсіх урадавых, грамадскіх і прыватных школах выключна на рускай мове” [1] , і яно (патрабаванне) стала рэальнасцю нашага часу. Як усяму гэтаму абрадавалася б рэдакцыя газеты “Окраины России”, у нумары якой ад 22 лістапада 1908 г. пісалася, што “афіцыйнай мовай для беларусаў павінна служыць толькі руская мова”.

* * *

У гады вайны з фашысцкай Германіяй і то хапіла ў нас розуму, каб з 161 падпольных газет, якія выходзілі на Беларусі ў 1943 – 1944 гг., 87 выдаваць на рускай, 61 – на беларускай, 13 – на гэтых дзвюх мовах. Цяпер жа ў нас мірны час, таму ёсць усе ўмовы, каб вырашыць гэтую праблему, зусім не ўшчамляючы правы роднага слова карэннага

[1] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI стст. Кн. 1. Мн., 2011. С. 291.

насельніцтва ў такой важнай справе, як перыядычны друк. Як да крайнасці мала ў ім нашага, беларускага. Не прывядзе да дабра нас такое.

* * *

Як вядома, добра спрактыкаванымі спрытнюгамі па правядзенні match рознага роду апытвання нашага насельніцтва пра мову навучання дзяцей ў школах праявілі сябе палякі. Даволі часта такой практыкай займаліся яны ў 1919 – 1920 гг., калі гаспадарылі ў нашым краі. І трэба аддаць ім належнае: з дапамогай тонка прадуманай растлумачальнай працы, да якой прыцягваліся самыя шавіністычна настроеныя польскія сілы, разам з імі супроць выкладання беларускай мовы ў навучанні дзетак выступалі і многія беларусы.

Такую “жыццёвую сілу” гэтая практыка паказала і ў перыяд, калі нашым нядобразычліўцам удалося ў 1921 г. значную частку беларускай этнічнай тэрыторыі незаконна аддаць пад уладу Польшчы. Пазбавіўшы беларускі народ права мець сваю нацыянальную сярэднюю спецыяльную і вышэйшую школу і гэтым самым стварыўшы крайне неспрыяльныя варункі для яго роднай мовы, польскія дзяржаўныя дзеячы і інтэлектуалы зусім беспамылкова палічылі, што цяпер ужо далёка не ўсе бацькі будуць занадта актыўна выступаць за захаванне яе і ў першапачатковым навучанні. Сярод іх абавязкова знойдзецца дастаткова такіх, што самі кінуць дзяцей у польскі асіміляцыйны кацёл. У 1924 г. у Польшчы прымаецца звонку вельмі прагрэсіўны, архідэмакратычны закон, згодна з якім мову навучання ў школах дазвалялася вызначаць самім бацькам, які, як і разлічвалася, праз 10 гадоў прывёў амаль да поўнай ліквідацыі беларускіх школ у Заходняй Беларусі, хаця за іх захаванне вельмі ўпарта выступалі яе нацыянальна-патрыятычныя колы. За беларускамоўнае навучанне вялі ўпартае змаганне і бацькі, якія мелі на мэце даць сваім дзеткам толькі першапачатковую адукацыю. А вось тыя, хто хацеў, каб іх нашчадкі займаліся ў навучальных установах больш высокага тыпу, за рэдкім выключэннем, польскамоўных, праяўлялі пэўную пасіўнасць у такім змаганні. Як бачым, і ў мірны час увішным палітыкам удаецца рукамі народа капаць яму магілу.

Не магу на ўсе сто працэнтаў сцвярджаць, што архітэктары майскага рэферэндуму 1995 г. ведалі пра “эфектыўнасць” вышэй выкладзенага польскага вопыту. Але ў першага вельмі шмат паралеляў з апошнім. Ведаючы, да якіх трагічных вынікаў прывёў польскі вопыт апытання бацькоў беларускіх дзяцей пра мову іх школьнага навучання, наша сённяшняя дзяржава павінна была ўжо даўно ўнесці карэнныя карэктывы ў майскі рэферэндум 1995 г., каб яе не называлі душагубцам беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі і мовы, як гэта ў нашай

навуковай літаратуры называецца польскі ўрад Юзафа Пілсудскага і яго пераемнікаў.

* * *

На вялікі жаль, пераважная бальшыня народаў была, ёсць і яшчэ вельмі доўгі час будзе глінай у руках тонкіх палітыкаў, якія зробяць з яе ўсё, што толькі патрэбна будзе. У многіх цывілізаваных краінах, каб не выклікаць сярод палітыкаў такога жадання, не звяртаюцца да падобнай практыкі, а больш за ўсё абапіраюцца на галоўныя законы чалавечага развіцця, у адпаведнасці з якімі сваё заўсёды знаходзіцца на першым месцы, без чаго на зямлі не існавала б такой культурнай размаітасці.

* * *

Заглядваючы ўглыб нацыянальнай гісторыі, мы ўсё больш і больш пераконваемся: ніштo такой велізарнай бяды не прынесла нашаму краю, як гвалтоўнае, неабмежаванае ў сваіх памерах укараненне ў яго жыццё польскай і рускай культур, адукацый і моваў. У выніку такога ўкаранення яно абяскроўлівалася, губляла сваю прыродную, беларускую адметнасць і прыгажосць. Мо час адмовіцца ад заняцця гэтай заганнай практыкай?

* * *

Што-што, а пра дзяржаўны суверэнітэт любяць пагутарыць палітыкі і ідэолагі Рэспублікі Беларусь. Затое ні гу-гу пра родную мову яе карэннага этнасу, пра беларускую нацыянальную тоеснасць, бо і першую і другую недаацэньваюць, як толькі можна імкнуцца зблізіцца з рускімі адпаведнікамі. А іншага і нельга чакаць ад засіміляваных кіраўнічых асобаў, якія толькі і думаюць пра шчаслівае, бясхмарнае жыццё вось-вось у неўзабаве народжанай адзінай руска-беларускай дзяржаве. Вялікую важнасць арганічнага адзінства мовы з дзяржаўнасцю і нацыянальнасцю не раз падкрэсліваў наш вядомы вучоны Мітрафан Доўнар-Запольскі. Добра вынікае гэта з яго наступных слоў: “…ідэя падтрымання беларускай мовы цесна звязана з ідэяй падтрымання беларускай народнасці і любоўю да бацькаўшчыны. Гэта была нацыянальная ідэя. Думка аб мове злівалася з ідэяй палітычнай самастойнасці ў дзяржаўным і культурным сэнсе”.

* * *

Хоць і моцна разбалансавана нашае жыццё з-за чужых уплываў, усё ж грамадству пры самым актыўным удзеле ўладных структураў трэба неяк сабрацца з сіламі і паступова адыходзіць па ўсіх пазіцыях стратнага для

яго руска-беларускага культурна-моўнага двухаблічча, якое, як мы ўсё больш пераконваемся на сваім горкім вопыце, становіцца выразна рускім, няўхільна вядзе нас да канчатковай русіфікацыі. Ну няма ж на планеце Зямля аніводнага народа з дзвюма роўназначнымі культурамі і дзвюма мовамі. Навошта ж беларусам надрываць свае пупы? Калі штосьці эксперыментавалася з народамі дзеля такога культурна-моўнага развіцця, дык ва ўсіх выпадках заканамерна атрымліваўся такі вынік: адна з культур, адна з моваў выціскалася другой культурай і мовай. На вялікую бяду, не заўсёды роднай. Існуе больш чым дастакова падставаў сцвярджаць, што менавіта да такога трагічнага лёсу прывядзе сучаснае руска-беларускае культурна-моўнае двухаблічча і беларусаў. Так бязлітасна ахвяроўваць лёсам гэтага з багатай гісторыяй, арыгінальнай, самабытнай культурай народа дзеля поўнага запанавання на яго гістарычнай тэрыторыі рускай культуры – найвялікшае злачынства, за якое давядзецца панесці ад новых пакаленняў беларусаў, ад сусветнай цывілізацыі самую суровую кару, зразумела, найперш палітычнаму кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь.

* * *

Мы шмат чаго трацім з прычыны таго, што даволі часта ключавыя дзялянкі культурнага жыцця ўзначальваюцца іншанацыянальнымі асобамі, для значнай часткі якіх беларускае ў ім мае толькі другаснае значэнне. Галоўнае – задаволіць густ аматараў мастацтва, а што ў выніку такога падыходу рахістваецца ўжо і так сур’ёзна здэфармаваны нацыянальны патэнцыял роднай культуры краіны – гэта не бярэцца пад увагу. Я цалкам не падтрымліваю вельмі папулярнага ў пачатку мінулага стагоддзя лозунга “Саюза рускага народа” і “Рускага ўкраінскага саюза”: “Расія для рускіх, і рускія павінны ёю кіраваць”, але штосьці з яго мо і карысна было б узяць, каб выратаваць беларускую нацыянальную культуру ад канчатковай русіфікацыі.

* * *

Як дваццаць – трыццаць і болей гадоў таму, так і зараз эстэтычная місія беларускай мовы ў сваім бацькоўскім доме вельмі і вельмі нікчэмная. Зусім не яна вызначае ў ім змест і характар культурнага жыцця, якое і раней і цяпер нельга назваць нават сімвалічна нацыянальным. Нельга не заўважыць, што сёння многія прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі свядома ўхіляюцца будаваць сваю творчасць на беларускай мове. І робяць гэта далёка не з-за непавагі да апошняй. Так

паступаюць яны галоўным чынам таму, што глыбока аналізуючы моўную палітыку дзяржавы, прыйшлі да высновы, што яна (палітыка) не пакідае за беларускай мовай аніякіх перспектыў, што сучаснае пануючае становішча рускай мовы ў нашай краіне з цягам часу стане яшчэ больш трывалым і таму толькі на ёй ёсць поўны рэзон ладзіць сваю творчасць. І сапраўды, каму гэта з творцаў хочацца рабіць нешта такое, што патрэбна толькі сёння і што ўжо заўтра будзе выкінутае за борт гісторыі. На такое могуць пайсці толькі шчырыя беларускія нацыянальныя патрыёты, якіх, на жаль, крайне мала ў нас, бо само жыццё не стварае ўмоваў для іх колькаснсга і якаснага росту. З улікам зусім не простай па характары вырашэння і зусім не другараднай для інтарэсаў беларускай нацыі праблемы, дзяржава, каб належным чынам адрэагаваць, выйсці з такога стратнага становішча, павінна стварыць усе ўмовы, каб у афіцыйных навуковых і грамадска-палітычных, літаратурна-мастацкіх перыядычных выданнях разгарнулася шырокая, прадметная дыскусія аб сучасным стане і перспектывах беларускай культуры і мовы. Нельга ж, як гэта робіцца сёння, маўчаць, нібыта вады ў рот набраўшы, пра тое, што на нашых вачах гіне. Бо гіне ж акурат тое, што стварае аснову, з’яўляецца самой душой беларускай нацыі. Верыць у існаванне апошняй пры страце ёю нацыянальнай культуры і мовы могуць толькі ці круглыя невукі, ці пазбаўленыя ўсялякай любові і павагі да Беларусі асобы. Заўважу, што нават у часы брэжнеўшчыны, характэрнага ім застою адкрыта пісалася на старонках партыйнага, навуковага, мастацкага друку пра лёс культур і моваў нацыянальных мяншыняў, жыццю якіх пагражалі працэсы інтэрнацыяналізацыі ў галіне духоўнага жыцця. А мы маўчым! І на здзіў маўчым, стварыўшы і жывучы ў суверэннай дзяржаве?! Адбываецца тое, пра што пісаў Уладзімір Караткевіч: “Спіць народ, нібы зерне ў раллі”. Я зусім не падзяляю думкі тых, хто заяўляе, што за нацыянальна-культурнае адраджэнне дзяржава павінна сур’ёзна ўзяцца пасля дасягнення буйных пазітыўных зрухаў у эканоміцы, сапраўднай дэмакратызацыі жыцця. А калі гады будуць бегчы і бегчы, а такія зрухі адсоўваюцца на ўсё больш і больш позні час, дык што, тады чакаць яшчэ мацнейшага правалу і трагізму з нашай культурай і мовай? Ажыццяўленне дзяржавай палітыкі нацыянальна-культурнага адраджэння павінна ісці раўналежна з развязваннем іншых надзённых праблем, бо апошняе – мо хто і здзівіцца – напрамую залежыць ад першага. Невыпадкова абсалютная бальшыня колішніх саюзных рэспублік дамагліся прыкметнага прагрэсу ў эканоміцы, дэмакратызацыі дзяжаўнага, грамадска-палітычнага жыцця толькі таму, што яны не

адсоўвалі, як кіраўніцтва РБ, на задні план праблему нацыянальна-культурнага адраджэння сваіх народаў. І не памыліліся. Беларусы ж з-за няспыннай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі апынуліся на мяжы этнічнага вымірання.

* * *

Даводзіцца чуць і такое ад далёка не шараговых асобаў з ліку палітыкаў, што наша дзяржава не бярэцца за нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа з прычыны таго, што не верыць у рэальнасць такой задумы ва ўмовах так франтальна і грунтоўна праведзенай яго русіфікацыі. З падобным меркаваннем аніяк нельга пагадзіцца. Дзяржава не робіць нічога па выратаванні сваёй тытульнай нацыі ад этнічнай смерці толькі таму, што не жадае ставіць перад сабой такой высакароднай мэты. Адносна таго, ці ёсць шанец засцерагчы беларусаў ад поўнага апускання ў багну асіміляцыі, скажу, што ім і на ўсіх папярэдніх этапах барацьбы за этнакультурнае адраджэнне ніколі не было лягчэй. Прапольскія ўлады Рэчы Паспалітай, а затым расійскае самаўладдзе да такой ступені дабілі свой братні славянскі народ, што калі ён пад уздзеяннем ідэй рамантызму, markdown рознага роду прагрэсіўнага парадку падзей, што адбываліся на пачатку XIX ст. у Еўропе, задумаў і сам стаць на шлях адраджэння (заўважу, насуперак жаданню дзяржавы), дык даводзілася ўсё гэта рабіць практычна на голым месцы, бо ледзь не ўсе папярэднія духоўныя набыткі, у т. л. і літаратурная, пісьмовая мова, па віне крыважэрных асімілятараў знаходзіліся на стадыі поўнага паралічу. У якасці літаратурнай мовы, як галоўнага фактару нацыянальнага адраджэння, давялося ўзяць гутарковую, жывую мову народа, у якой мала чаго было агульнага з колішняй старабеларускай мовай, вытуранай з грамадскага жыцця прапольскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі Рэчы Паспалітай.

* * *

Беларусь мае найбагацейшы вопыт дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў. Толькі шкада, што за рэдкім выключэннем, гэты вопыт адмоўны для беларускай мовы, бо ўсё гэта рабілася ў інтарэсах польскай, рускай моваў. Але пачнем гаворку пра яго са станоўчага, пра тое, што забяспечвала нашай мове жыццё, давала магчымасць быць асноўнай, пануючай у сваім родным доме. Такому прыстойнаму становішчу ў грамадстве старабеларуская мова (тады называлі яе “рускай”, руськай”) была найперш абавязана стваральнікам Літоўскага

статута рэдакцыі 1566 г. Гэта ўжо быў час, калі ў нашай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім – даволі рэальна абазначыўся ўплыў на моўныя працэсы магутнай, шырока распаўсюджанай ў Еўропе латыні. Добра павысілі, шкада толькі, што на вельмі кароткі тэрмін, аўтарытэт беларускай мовы ў грамадскім жыцці падчас міжваеннай беларусізацыі. Як на вялікі здзіў, беларуская мова не стала косткай у горле фашыстскіх акупантаў. Каля пяці гадоў някепска пачувала сябе наша роднае слова пасля прыняцця 26 студзеня 1990 г. “Закона “Аб мовах у Беларускай ССР”. Усе ж астатнія сотні гадоў беларускую мову бязлітасна душылі, прымаючы адпаведныя нарматыўныя акты, але часта і без іх, а проста па злой волі паланізатараў і русіфікатараў. Дабіла ж яе ледзь не да смерці наша ўласная дзяржава суверэнная Рэспубліка Беларусь сваім праведзеным у маі 1995 г. рэферэндумам.

* * *

У нас набралася такая велізарная маса спецыфічных, не ўласцівых для сённяшняй Расіі пытанняў нацыянальна-адраджэнскага парадку, што перад тым, як ісці на глыбокую і шматбаковую палітычную інтэграцыю з ёю усё ж больш разумным было б спачатку развязаць хоць нейкую частачку самых важных пытанняў культурнай сферы. Інтэграцыя з Расіяй, як і з іншымі краінамі, нікуды і ніколі не збяжыць ад нас, а вось калі ўлады, грамадскасць будуць марудзіць з правядзеннем рашучых захадаў па пераадоленні негатыўных з’яў у культурна-моўным жыцці беларусаў, тады захаванне яго самабытнасці ў супольнай дзяржаве, а тым больш забеспячэнне ўмоваў для дынамічнага развіцця значна ўскладняцца і нават стане вельмі праблематычным само наша нацыянальнае адраджэнне.

* * *

З кожным годам у краіне становіцца ўсё менш і менш творчых людзей, здольных плысці супроць цячэння. Вось чаму і атрымліваецца так, што куды іх цягнуць розныя цёмныя сілы, туды яны моўчкі, без усялякага супраціву і рушаць. Сказанае цалкам датычыць і стаўлення сучасных беларусаў да дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Як яны арганічна ўпісваюцца ў сэнс наступных вершаваных радкоў Максіма Багдановіча:

“Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды

Тое цягнуць, што скончыла жыць” (падкрэслена мною. – *Л.Л.*).

* * *

Чаму абсалютная бальшыня беларусаў карыстаецца не сваёй, а чужой рускай мовай, жыве створанай на яе аснове культурай, ведаюць калі не ўсе, то многія. Вінаватая ж ва ўсім праклятая дзяржаўная палітыка русіфікацыі, за якую вельмі актыўна ўзяліся пасля майскага рэферэндуму 1995 г. і ўсе структуры Прэзідэнцкай улады Рэспублікі Беларусь. А вось дзеля чаго гэта робіцца, я да канца не разумею. Але лічу, што не дзеля інтарэсаў культуры Беларусі, бо калі будаваць яе на рускай культурна-моўнай аснове, яна (культура Беларусі) ўжо перастане быць для апошняй нацыянальнай, будзе весці яе народ толькі да русіфікацыі. Думаю, што дзеля гэтага беларусам не патрэбны ні руская культура, ні руская мова. Дый самім гэтым духоўным чыннікам непатрэбная беларуская прыслуга з ліку мастацкай інтэлігенцыі, бо ў іх дастаткова ў сваёй краіне (Расіі) таленавітых творцаў. Нам жа, беларусам, трэба да сёмага поту, ад самага рання і да ночы апрацоўваць занядбаную нацыянальную культурную ніву. Калі ўласных сіл не будзе ставаць, трэба запрасіць таленты звонку, але толькі пры ўмове, што яны будуць працаваць у рэчышчы беларускай, а не ў запанаванай у нашай краіне рускай культуры. Калі мы хочам быць самабытным этнасам, ёй трэба адвесці ў Беларусі столькі месца, колькі, да прыкладу, у Польшчы адведзена нямецкай, у Германіі – французскай, у Францыі – англійскай… Іншага нам проста не дадзена!

* * *

Не раз і на працягу многіх гадоў здаралася такое, як толькі ў кампаніі сяброў я пачну выказваць свае клопаты пра страту беларусамі ўласнай нацыянальнай культуры, чую: “Ды што ты ўсё з гэтай культурай. Дай дзяржаве як след палепшыць стан эканомікі і тады ў краіне пачнуць самым сур’ёзным чынам займацца пытаннем развіцця яе нацыянальнай культуры”. Здаецца, у масе сваёй людзі сёння не галадаюць, але заняпад нацыянальнай культуры з-за моцнага ўціску на яе ўсяго рускага не спыняецца. Не, нам не трэба чакаць нейкіх казачных дасягненняў у эканоміцы. Іншыя краіны, у т. л. і нашы суседнія, ды ў пэўным сэнсе і мы самі, за развязванне праблем культурнага парадку браліся нават у часы, калі ішла вайна, бесперапынна бухалі з гармат.  Такога роду прыкладаў асабліва шмат далі Першая сусветная і Грамадзянская войны.

Беларусам, мо, як нікому з іншых еўрапейскіх народаў надзвычай цяжка ўдавалася ў той час паразумецца з суседзямі-славянамі па розных пытаннях арганізацыі культурнага жыцця і, вядома ж, у першую чаргу датычна афіцыйнага выкарыстання роднай мовы. Сведка тых падзей афіцэр Беларускага войска Данілюк у рапарце беларускаму каменданту Гародні ад 28 красавіка 1919 г. паведамляў, што пры ўходзе палякаў у г. Ваўкавыск імі "было загадана спыніць размову і афіцыйныя звароты да ўладаў на беларускай, рускай і іншых мовах, акрамя польскай", належала зняць усе шыльды на беларускай і рускай мовах, замяніўшы іх польскімі. [1]

Аналагічнае становішча склалася ў Беластоку, дзе палякі адразу ж "забаранілі друкаванне на беларускай, рускай і нямецкай мовах усялякіх брашур, аб'яў, афішаў і інш." На гэтых мовах людзям не дазвалялі гаварыць ва ўстановах. Асабліва небяспечна было ўжываць у грамадскіх месцах рускую мову, бо за гэта чалавека адразу залічвалі ў маскалі і бальшавікі. [2]

У Ваўкавыскай турме выпускалі на двор, каб некалькі хвілін падыхаць свежым паветрам, толькі тых, хто мог па-польску папрасіць пра гэта ахоўніка. [3] Во як ставіліся нашыя заходнія суседзі да роднай мовы ў першыя два гады жыцця адноўленай Польскай дзяржавы, калі панаваў поўны заняпад яе эканомікі!

* * *

Шукаючы, удакладняючы шляхі свайго нацыянальна-культурнага выратавання, мы не заўсёды абапіраліся на станоўчы вопыт іншых народаў, у т. л. і польскага, над якім не раз і на працягу доўгага часу таксама стаяла праблема этнічнага выжывання. Ці ж не нагадвае сённяшні культурна-моўны стан беларускага народа той, які склаўся ў нашага заходнягя суседа, калі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый (1576 – 1586; венгр па нацыянальнасці) "не толькі на

1. Езовитов К. Белоруссы и поляки. Ковна. 1919. С.61, 83.
2. Там же. С.84.
3. Там же. С.104.

соймах, але нават на прыватных пасяджэннях гаварыў па латыні (г. зн. не на роднай мове палякаў. – *Л. Л.*); аднак, жадаючы падабацца народу, ён выкарыстоўваў у сваіх размовах польскія выразы, натуральна, наколькі ўмеў і разумеў іх сам". [1] У тагачасным грамадстве, асабліва ў высокіх палітычных колах усталявалася ганебная практыка змешвання польскай

мовы з лацінаю, накшталт таго, як сёння ў нас беларускую мову свядома і падсвядома насычаюць рускімі выразамі і словамі з мэтай дэфармаваць яе арыгінальнасць і самабытнасць. Пазней, ад пачатку XVIII ст., на палякаў наваліўся французскамоўны шквал. “Мова лічылася тым больш дасканалай, чым больш выкарыстоўвалася чужых польскай мове выразаў… Людзі найвышэйшага звання… так адвыклі ад польскай мовы, што яна стала, нарэшце, здавацца ім беднай у выразах, недалікатнай у вымаўленні (рыхтык, як гэта сёння лічаць многія прадстаўнікі палітычных і інтэлігентных колаў Беларусі. – *Л. Л.*), недасканалай і не здольнай ствараць тыя прыгожыя вобразы, якія яны знаходзілі ў творах французаў. За псаваннем і выпустошваннем мовы ішло псаванне стылю, а адсюль і знявага да твораў, напісаных па-польску. Знявага чытачоў да літаратуры на польскай мове адбівала ў пісьменнікаў ахвоту ствараць карысныя творы або рабіць пераклады замежных твораў…” [2] Да гонару палякаў, яны знайшлі сілы справіцца з такой складанай моўнай праблемай, засталіся самабытным народам і сёння ўпэўнена глядзяць у будучыню. Чаго ж мы спім?

* * *

Дзякуючы вялікім дасягненням гісторыкаў, беларускі народ ведае, што некалі і ў яго даволі далёкім мінулым быў залаты век. Прыпаў ён на часы існавання Вялікага Княства Літоўскага, а пачаў паступова затухаць пасля яго аб’яднання ў 1569 г. з Каронай Польскай у супольную федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую. І хаця няўмольны бег часу дыстанцыянаваў нас ад таго залатога веку ў айчыннай гісторыі, перадавыя людзі працягвалі правільна разумець яго выключнае значэнне ў лёсе беларускага народа. Асабліва вялікую настальгію па перажытым зведвалі асобы, што добра бачылі ўсю небяспеку русіфікатарскай палітыкі царызму. У вершы Янкі Купалы “Над Нёманам” (1911) ёсць такія радкі:

Панам быў дома і слаўным за домам  
Мой патаптаны сягоння народ,  
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам, –  
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

---

[1] Калантай Гуго. Состояние просвещения в Польше в последние годы правления Августа III (1750 – 1764)// Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т. 1. М., 1956. С. 451, 452.

[2] Там жа.

У нашыя дні апошні радок гэтага верша набывае куды большую актуальнасць, чым сто гадоў таму, бо ў роднага слова беларусаў занадта сціплы кніжны ход: іх маладыя пакаленні ідуць ва ўсе тыпы навучальных устаноў амаль толькі з падручнікамі і дапаможнікамі на рускай мове, а беларускую кнігу ў некаторых кнігарнях даводзіцца і днём шукаць з агнём.

* * *

У гісторыі яшчэ не здаралася выпадку, каб народ ні з таго ні з сяго ўзяў ды выракся сваёй роднай мовы. Няўжо ж беларусы дурнейшыя за ўсе народы планеты Зямля, што без дай прычыны, добраахвотна цураюцца сваёй матчынай мовы?! Не, прычыны франтальнага адыходу беларусаў ад роднай мовы палягаюць у тым, што яна, за рэдкім выключэннем, ужо больш за тры стагоддзі з'яўляецца альбо зусім, альбо мала запатрабаванай грамадствам. Пра гэта вельмі добра паклапаціліся дзяржаўныя ўлады Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР з яго складовай часткай БССР. Не адышоў і не збіраецца адыходзіць ад гэтай заганнай палітыкі і ўрад сучаснай Рэспублікі Беларусь.

* * *

Як такога не хацелася б пісаць, але мушу: беларусы, як мала хто з іншых народаў, моцна любіць цара, лісліва пазірае ў вочы начальству, што практычна ніколі не прыводзіла і не прывядзе да дабра. Вось бы нам менталітэт паўночнага народа – фінаў. На іх зямлі да снежня 1917 г. (у гэты час на ёй узнікла незалежная ад Савецкай Расіі фінская дзяржава) на працягу больш як шэсць стагоддзяў статусам дзяржаўнай мовы карысталася толькі шведская, але родная людзьмі ніколі не забывалася. Гэта адыгрывала велізарную ролю ў няспынным змаганні фінаў за палітычную незалежнасць. Беларусы гэтым не маглі асабліва пахваліцца ні раней, ні сёння. Такому недахопу даў вельмі праўдзівую ацэнку беларускі паэт з латышскай Латгаліі Э. Вайвадзіш:

Напэўна пакаленні,
Што ўжо ідуць,
Падымуць нас з каленяў…
І праклянуць?

Сёння ж нават і ў прыход такіх пакаленняў не верыцца. Можа якая-небудзь рэакцыя ў здэнацыяналізаваных беларусаў з'явілася б тады, каб урад РБ пад страхам жорсткага пакарання забараніў ужываць іх мову ў

грамадскіх месцах, як гэта зрабіла ў 1944 г. Турцыя ў дачыненні да курдскай мовы?

* * *

Працэс этнічнай метамарфозы рускамоўных беларусаў мае багатую практыку, але не закончыўся яшчэ і пасёння. Выракшыся, не валодаючы роднай мовай, яны, спасылаючыся на свой асабісты менталітэт, заяўляюць, што няма аніякай розніцы паміж беларусамі і рускімі, што гэта адзін народ, якога нейкія цёмныя сілы падзялілі на дзве часткі, вымусілі жыць у дзвюх розных дзяржавах. Затое ніколі такой несусветнай бязглуздзіцы не пачуеш ад беларуса, які ведае, шануе, карыстаецца роднай мовай. Яму нават і ў сне не прысніцца, што ёй рускі.

Адыход ад нацыянальных каранёў з прычыны страты мовы і прыняцця нацыянальнасці народа, мова яго стала асноўнай для таго ці іншага чалавека або цэлай этнічнай супольнасці – з’ява досыць распаўсюджаная ў свеце. Пад уздзеяннем такога фактару з гістарычнай сцэны сышло больш плямёнаў і народнасцяў, чым іх знікла ў выніку войнаў ці глабальных маштабаў эпідэмій і паморкаў. Цяпер ужо набліжаецца час, што дадзены фактар будзе весці да этнічнага скону цэлыя даволі шматлікія па колькасці жыхароў нацыі і калі нічога не мяняць, першую такі гаротны лёс напаткае размешчаную ў цэнтры Еўропы нацыю – беларускую.

* * *

Неяк яшчэ можна было зразумець, але не апраўдаць за ігнараванне беларускай мовы першых сакратароў ЦК КП(б)Б К. Мазурава, П. Машэрава, Ц. Кісялёва, М. Слюнькова, Я. Сакалова, А. Малафеева. Усе яны былі стаўленнікамі агульнасаюзнага партыйнага цэнтра і таму не толькі няўхільна праводзілі курс апошняга, але і гаварылі на яго мове. Затое такога ніяк нельга сказаць пра сённяшніх высокіх дзяржаўных асобаў. Усіх іх ці выбірае народ Беларусі, ці яны прызначаюцца на самыя прэстыжныя пасады са згоды яе дзяржаўных органаў. Ужо адно гэта абавязвае такіх асобаў гаварыць на нацыянальнай, прыроднай мове дадзенай краіны. Іншага проста не можа быць. У нас жа свядома пайшлі на парушэнне гэтага разумнага правіла, якога прытрымліваюцца ва ўсіх цывілізаваных краінах свету, у т. л. і суседніх нам. Каб як-небудзь апраўдаць свае супярэчныя нацыянальным інтарэсам тытульнага народа паводзіны, буйныя палітыкі Беларусі разам з адданымі ім прадстаўнікамі інтэлігенцыі дамагліся таго, што ў нас у адпаведнасці з Канстытуцыяй

Рэспублікі Беларусь дзяржаўнай мовай аб'яўлена яшчэ і мова суседняй краіны, прычым без атрымання згоды ад яе народа – руская. Вось на ёй і шпарыць уся дзяржаўная, палітычная брацця ўсіх рангаў, якой падтаквае велізарная армія ўсялякага роду прыслужнікаў, сярод якіх вельмі багата і інтэлігенцыі. Павінен сказаць усім ім: які б высокі афіцыйны статус нашыя дзяржаўныя дзеячы не надалі рускай мове, яна ніколі не стане на этнічнай тэрыторыі Беларусі мовай роднай, нацыянальнай. Такой мовай на нашай зямлі была, ёсць і будзе толькі беларуская. Усе астатнія мовы – гэта другасныя, хоць адна з іх (руская) дзякуючы вялікім старанням уладных структур, і спрэс запаланіла ўсе сферы дзяржаўнага, грамдска-палітычнага, адміністрацыйна-гаспадарчага і культурнага жыцця нашай краіны, служыць адзіным сродкам зносін паміж сабой дзяржаўнай эліты, што адпаведным чынам уплывае на ўсе сацыяльныя катэгорыі насельніцтва.

* * *

Нашыя сучасныя палітыкі дый сама грамадскасць у цэлым аказаліся менш падрыхтаванымі да разумнага вырашэння моўнага пытання, чым невялічкая Славенія. Пасля абвяшчэння ў чэрвені 1991 г. дзяржаўнай незалежнасці яна прызнала адзінай дзяржаўнай мовай толькі мову свайго тытульнага народа і не дала такога права серба-харвацкай мове, хаця паміж імі вельмі шмат чаго блізкага і агульнага. Вопыт вучыць, што дзяржава павінна ўсяляк ухіляць з жыцця саперніцтва дзвюх моваў на адной і той жа тэрыторыі, бо рана ці позна адна з іх акажацца пераможанай. Добра ж, калі чужая, а як свая (напрыклад, у Беларусі) – лічы, што надыходзіць этнічнае сканчэнне яе прыроднага носьбіта.

* * *

За гады функцыянавання камуністычнага рэжыму ў СССР нашыя людзі так прывыклі да бяззменнасці яго палітычнага лідара, што іх нядужа хвалюе усталяванне такой практыкі і ў Рэспубліцы Беларусь пасля ўзвядзення прэзідэнцкага кіравання. Зараз споўніцца дваццаць гадоў такой сістэме ўлады. Пагадзіцеся – нямала. Аднак за гэты час мы не сталі сведкамі сур'ёзнага эканамічнага ўздыму, высокага жыццёвага ўзроўню, сапраўднага росквіту нацыянальнай, а не навязанай нам звонку чужой культуры. Такога не назіраецца і невядома ці будзе яно калі-небудзь. Нельга абмінуць увагай і такую акалічнасць. Як скрозь водзіцца, бяззменны на пасадзе прэзідэнт ёсць галоўная прычына ўсталявання ў любой з краін аўтарытарнага, таталітарнага рэжыму. Ён заўсёды імкнецца стварыць для сябе надзейную апору не толькі ў

сілавых структурах, але і ў асяроддзі маладога пакалення – будучыні кожнай краіны. Яскравыя прыклады таму – фашысцкая Германія, Савецкі Саюз, Кітай. Хутка адчулася вострая патрэба займець падтрымку маладой змены і ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. І такая змена з’явілася на свет, пачала актыўна дзейнічаць, бо трэба ж было нейкім чынам адпрацоўваць атрыманыя ад дзяржавы немалыя бюджэтныя сродкі. Такой арганізацыяй, як вядома, стаў створаны ў 2002 г. Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ). Прэтэнзій да яго аніякай ад улады. На ўсё гатоў, як у сталінскія часы камсамол. А вось з пазіцый беларускага нацыянальнага інтарэсу да гэтага моладзевага саюза ёсць усе падставы выказаць самыя сур’ёзныя прэтэнзіі. Ва ўсіх цывілізаваных краінах моладзь – гэта рухавік нацыянальнага прагрэсу, надзейны прадаўжальнік, носьбіт прыродных для сваёй краіны культурна-моўных традыцый. Яны цалкам ігнаруюцца БРСМ. Ён выступае ў класічнай форме рускамоўнай структуры, з’яўляецца калектыўным носьбітам рускай культуры – галоўнага руйнавальніка этнакультурнай самабытнасці беларускага народа. Рукамі і галовамі БРСМ палітычнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе многія распрацаваныя ім мерапрыемствы па стварэнні адзінай з Расіяй саюзнай дзяржавы, не лічачы патрэбным папярэдзіць, як у ёй праблематычна будзе захавацца беларусам самабытнай этнічнай асобнасцю з іх дашчэнту зрусіфікаваным нацыянальна-культурным жыццём.

* * *

З усіх утвораных на постсавецкай прасторы дзяржавах толькі ў Рэспубліцы Беларусь культура тытульнага народа не займае панавальнага месца ў духоўным жыцці. З кожным годам у такой ролі ва ўсё большай і большай ступені выступае руская культура, г. зн. афіцыйная культура зусім іншай дзяржавы – суседняй Расійскай Федэрацыі. На ўсё гэта ёсць пэўныя прычыны: адны з іх палягаюць у далёкай сёння ад нас часавай прасторы, другія – у не так далёкай мінуўшчыне, трэція, прычым зусім не другарадныя, – у сучаснасці. Як след не прааналізаваўшы іх у храналагічным парадку, немагчыма знайсці правільны, аб’ектыўны адказ, чаму сёння беларус у сваёй роднай культуры і мове пачувае сябе нейкім чужынцам на бацькоўскай зямлі, а каб быць зразумелым, абавязаны на службе, у грамадскіх месцах звычайна размаўляць па-руску.

Карані дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі беларусаў ідуць з глыбіні тых часоў, калі іх радзіма ў выніку трох гвалтоўных падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795 гг.) апынулася ў складзе Расійскай імперыі, ствол жа даводзіцца на савецкі час, а сама пышная крона прыпадае на гады, калі ўсталявалася прэзідэнцкая сістэма кіравання краінай. Вось так стагоддзямі бясконца і мэнчыцца беларуская культура па сваім родным абшары.

* * *

Як ні цяжка, як ні балюча прызнаваць такога, але беларускі народ за апошнія тры стагоддзі, за выключэннем рэдкіх гадоў, не жыў і зараз не жыве па-сапраўднаму ўласным дзяржаўным, нацыянальна-культурным жыццём, бо палітыка нашых уладаў у сферы культуры больш адпавядае рускаму, чым беларускаму інтарэсу.

* * *

Для любога народа няма большай трагедыі, як культурна-моўнае заваёва яго ў выніку адпаведнай дзяржаўнай палітыкі ці якіх-небудзь іншых неспрыяльных прычын. У кровапралітных войнах Рэчы Паспалітай з Рускай дзяржавай беларусы заўсёды выступалі на баку палякаў, паколькі з’яўляліся суайчыннікамі адной і той жа краіны. Здаралася і такое, што вайна забірала ў Вялікага Княства Літоўскага, галоўным дзяржаўным этнасам якога з’яўляліся беларусы, да паловы агульнай колькасці яго насельніцтва. Да слёз шкада сваіх далёкіх прашчураў. Але міналі гады, і ў спляжаным войнамі краі памаленьку аднаўлялася колішняя колькасць яго жыхароў. Не тое, што ў наш мірны час, калі іх усё менее і менее. Несучы велізарныя дэмаграфічныя страты ад войнаў з усходнім суседам, беларусы, натуральна, зусім не цягнуліся да яго культурных набыткаў, імкнуліся жыць сваімі духоўнымі каштоўнасцямі, што ад пакалення да пакалення толькі спрыяла захаванню этнакультурнай самабытнасці Бацькаўшчыны. Такога разумнага правіла доўга трымалася яна і знаходзячыся пад уладай Расійскай імперыі. Аднак, на момант развалу яе ў лютым 1917 г. у духоўным жыцці беларусаў, дзякуючы вялікім намаганням мясцовай адміністрацыі, праваслаўнага духавенства, настаўніцтва, мелася багата неўласцівага іх прыродзе рускага пачатку. Задужа шмат яго дабавілася ў культурнае жыццё Беларусі за савецкім часам. Усяляк садзейнічаюць

умацаванню пазіцый рускага фактару ў яе культуры і сучасныя ўлады, умела прыцягваючы дзеля гэтай небяспечнай шкоднай справы і мясцовыя творчыя сілы. Як і належала чакаць, адбылася практычна ледзь не поўная руска культурна-моўная заваёва беларусаў. Духоўнае жыццё абсалютнай бальшыні іх зусім не адпавядае таму, каб называць яго беларускім. На роднай, гістарычнай зямлі беларусаў, да таго ж яшчэ і ў цэнтры Еўропы, адбываецца на вачах усяго свету самавыраджэнне цэлага народа – і на вялікі здзіў сусветнай цывілізацыі – пры самым актыўным удзеле дзяржавы і ўзятымі ёю да сябе на службу працаўнікамі культуры. Іншага слова, як катастрофа, не падабраць да характарыстыкі такой агіднай сітуацыі.

* * *

Пракляты лёс не раз прыводзіў нашую краіну ў такі стан, калі яе найбольш здольная ад прыроды ці прафесійна навучаная ствараць духоўныя каштоўнасці частка людзей сваёй плённай творчай дзейнасцю ўзбагачала не ўласную, а чужую культуру, прычым так, што нават насуперак усялякай логіцы называла яе роднай. Датычыла гэта і такой бясцэннай каштоўнасці, галоўнага этнаўтваральнага фактару, як мова. Калі падобная з’ява мела месца пад час знаходжання Беларусі ў статусе залежнай у складзе якой-небудзь дзяржавы, дык свядомы ці вымушаны ўход творцаў з уласнай культурнай нівы на чужую ў нейкай ступені яшчэ можна зразумець, толькі не даравацъ. А вось калі такое адбываецца ў суверэннай дзяржаве Беларусь з яе моцна здэнацыяналізаваным карэнным насельніцтвам, гэтай з’яве не знайсці ні грама апраўдання, бо садзейнічанне распаўсюджванню ў родным доме чужой культуры і мовы дый яшчэ ў такіх неабмежаваных маштабах – гэта ж найчысцейшай вады тыповая асіміляцыя свайго народа. Інакш, як нейкае боскае насланнё, нельга назваць, што ў нас такой злачыннай, антынацыянальнай практыкай актыўна займаецца – і не адзін дзесятак гадоў! – абсалютная бальшыня творчай, педагагічнай, навуковай інтэлігенцыі. Гэта, галоўным чынам, іх “заслуга”, што сучасныя беларусы амаль цалкам страцілі сваё прыроднае аблічча, жывуць пераважна набыткамі чужой ім рускай культуры. Як бачым, у сферы культуры механізм суверэннай дзяржавы зусім не працуе ў нацыянальным духу, у чым, несумненна, віна і яе кіраўнікоў найвышэйшага звяна. Асабліва істотна пахіснуўся нацыянальны патэнцыял нашага прыгожага пісьменства з-за далучэння да літаратурнага працэсу вялікай колькасці рускамоўных аўтараў, у т. л. і беларускага паходжання. Сёння ўжо дастаткова падстаў сцвярджаць, што

на сваёй этнічнай зямлі беларуская літаратура праз якія-небудзь дзесяць – дваццаць гадоў будзе існаваць у чужамоўным асяроддзі, не робячы на яго аніякага пазітыўнага ўздзеяння. А быў жа зоркавы час – да прыкладу міжваенная беларусізацыя, – калі беларуская мастацкая літаратура з’яўлялася галоўным складнікам нацыянальнага жыцця краіны, прычым нават моцна залежнай ад Маскоўскага Крамля.

* * *

У наш час толькі людзі цвёрдай нацыянальнай перакананасці добра ведаюць, што адбылося ў БССР 26 студзеня 1990 г. Абсалютная ж бальшыня жыхароў на падобнае пытанне адказвае: “Не ведаю”. І іх асабліва не трэба абвінавачваць за такую недасведчанасць, бо сама дзяржава ўсяляк імкнецца трымаць гэтую дату ў тайне ад народа. Згаданы дзень трывала, навекі ўвайшоў у айчынную гісторыю дзякуючы таму, што тады быў прыняты лёсавызначальны для Бацькаўшчыны Закон аб мовах у Беларускай ССР. На вялікую радасць людзей, ён занядбаную за царскім і савецкім часамі беларускую мову ўзвёў на дзяржаўны п’едэстал, на якім з ласкі ўладаў сапраўднай гаспадыняй працяглы час пачувала сябе руская мова. Калі споўнілася пяць гадоў ад часу прыняцця згаданага Закона, аўтар гэтых радкоў паспрабаваў з такой важнай нагоды выступіць на старонках афіцыйнага друку. Нічога з гэтага не атрымалася, бо да ўлады прыйшлі зусім іншыя людзі. Што не ўдалося мне каля дваццаці гадоў таму, зраблю зараз, бо выказаныя тады думкі нікольні не састарэлі, у чым лёгка пераканаецца чытач.

*За час надання беларускай мове юрыдычнага статусу адзінай дзяржаўнай у краіне мы робім толькі першыя крокі ў гэтым напрамку і робім павольна з аглядкай па баках, баючыся, каб хаця кагосьці не пакрыўдзіць. Аднак і пры такой бяздзейнасці адраджэнцаў абвінавачваюць у фарсіраванні тэмпаў уводу беларускай мовы ў грамадскі ўжытак, злоўжыванні адміністрацыйнымі метадамі на шкоду дэмакратыі. Падставы для такіх абвінавачванняў цалкам адсутнічаюць. Мы і сотай долі не робім з таго, на што некалі ішлі амаль усе ўлады, жадаючы забяспечыць рэальнасць статусу дзяржаўнай для сваіх родных моваў, іх укараненне ва ўсе сферы грамадскага жыцця краіны, а часта нават і ў міжасобасныя, сямейна-бытавыя зносіны людзей. Вось некалькі прыкладаў у пацверджанне сказанаму:*

*1. У 1907 г. Дзяржаўная дума і Дзяржаўны савет Расіі прымаюць пастанову, у якой ёсць такі пункт: “Мы павінны абавязкова і няўхільна*

*навучаць іншародцаў рускай мове, каб з кожным пакаленнем гэтая мова стала роднай, і наша руская культура стала іхняй культурай”. Да рэвалюцыі 1905 г. сістэма народнай адукацыі Расіі ў дачыненні да нярускіх народаў кіравалася такім прынцыпам: “натуральны метад – гэта поўнае выгнанне са школы прыроднай мовы дзяцей; гэта – настаўнік, які не ведае мовы дзяцей; гэта – малітва на царкоўна-славянскай мове; гэта – свяшчэнная гісторыя, якая вывучаецца напамяць па-руску”* [1]*. Тут яшчэ будзе дарэчы нагадаць і пра больш ранні крокі Расійскай імперыі па ўмацаванні пазіцый рускай мовы: выданне спецыяльнага ўказа аб закрыцці польскіх школ; дазвол друкаваць літоўскія кнігі толькі рускімі літарамі і забарона выдаваць падручнікі на літоўскай мове; замена ў Юр’еўскім (да гэтага Дэрпцкім) універсітэце нямецкай мовы выкладання рускай; закрыццё нямецкіх настаўніцкіх семінарыяў, а таксама шэраг нямецкіх гімназіяў, якія ўтрымліваліся на сродкі нямецкага дваранства; прадпісанне ўсім сярэднім навучальным установам перайсці на рускую мову; забарона нярускім дзецям гаварыць у школах на роднай мове.* [2]

*2. Францыя, далучыўшы да сябе ад Германіі Эльзас – Латарынгію, абсалютная бальшыня жыхароў якіх размаўляла па-нямецку, адразу ж пачала там уводзіць французскую мову. Вывучаць яе абавязаны былі ўжо ў дашкольных установах. У якасці звычайнага школьнага прадмета нямецкую мову вывучалі толькі з другога класа, г. зн. тады, калі ўжо дзеці атрымалі неабходныя звычкі валодання французскай мовай. На яе пераявлі ўсё справаводства і метадычнае кіраўніцтва, прафесійную і вышэйшую адукацыю.*

*3. Пасля ўтварэння Італіі як самастойнай дзяржавы яе школа становіцца сродкам італьянізацыі для ўсіх нацмяншыняў краіны. Іх родная мова толькі часткова дапускалася ў дашкольныя ўстановы. Забаранялася нават дома навучаць школьнікаў роднай мове.*

*4. З утварэннем ЗША міністэрства асветы гэтай краіны адразу ўзяло курс у моўнай палітыцы на амерыканізацыю не толькі карэннага індзейскага насельніцтва, але і ўсіх імігрантаў, у тым ліку еўрапейцаў.*

---

1. Просвещение национальностей. 1924. № 1. С. 14.

2. Просвещение национальностей. 1924. № 1. С. 58.

*На англійскай мове павінна была працаваць уся сістэма адукацыі, пачынаючы ад дашкольных устаноў і канчаючы вышэйшымі. Нацыянальныя меншыні маглі ладзіць культурнае жыццё на роднай мове*

*толькі за кошт уласных сродкаў. Такое ж правіла распаўсюджвалася на прыватныя прадпрымальніцтвы, хрысціянска-місіянерскія абшчыны, паасобныя саюзы і партыі.*

*5. У 20-я гады XX ст. Польшча ў такіх маштабах укараняла польскую мову на ўсёй сваёй тэрыторыі незалежна ад нацыянальнага складу насельніцтва, што моўныя канфлікты ў гэтай дзяржаве даводзілася разбіраць нават Лізе нацый і Гаагскаму трыбуналу. Аднак ход паланізацыі ніколькі не запавольніўся. Да канца 30-х гадоў у Польшчы ўжо не існавала беларускіх школ, хаця ў гэтай краіне жыло каля пяці мільёнаў беларусаў.*

*Падобнага роду прыклады можна доўжыць, але і гэтых дастаткова, каб бачыць, што толькі дзякуючы мэтанакіраванай дзейнасці дзяржавы ў нацыянальна-моўнай палітыцы рускаму, французскаму, італьянскаму, амерыканскаму і польскаму народам удалося на належны ўзровень узняць статус сваіх родных моваў. Я не стаю за тое, каб поўнасцю капіраваць іх метад. Мая мэта заключаецца ў тым, каб звярнуць увагу дзяржаўных органаў, грамадскасці на пільную неабходнасць правядзенняа ктыўнай палітыкі беларусізацыі, неадкладнай адмовы ад неўмяшання ўлады ў рэгуляванне міжнацыянальных дачыненняў у нашай краіне. Ступень іх дэфармацыі дасягнула крытычнай мяжы, таму выратаванне беларускай нацыі ад канчатковай рускай культурна-моўнай асіміляцыі не можа адбыцца толькі ў выніку высілкаў самых адданых і шчырых яе (нацыі) сыноў і дачок.*

Ад часу напісання гэтага артыкула (мінула каля 20 гадоў!). Калі што і змянілася ў моўнай сферы, дык толькі ў горшы бок. Вось і думай, наша сучасная Рэспубліка Беларусь суверэнная дзяржава ці культурна-моўная калонія Расіі? Я цалкам пагаджаюся з апошнім азначэннем.

* * *

Сёння мы са “спакойнай” душой можам заявіць сабе і ўсяму свету пра завяршэнне русіфікацыі карэннага насельніцтва суверэннай цэнтральна-еўрапейскай Рэспублікі Беларусь. Кропкавае знаходжанне на яе зямлі беларускамоўных жыхароў ніколькі не адмаўляе сказанае. Шмат высілкаў прыклалі і царская, і савецкая ўлады, праводзячы такую палітыку, але давяла да канца гэтую “гістарычнай важнасці” справу ўсё ж Прэзідэнцкая вертыкаль нашай ужо небеларускай па мове краіны. Вядома, ролі буйнога царскага палітыка Мураўёва-вешальніка і К° ніяк нельга прымяншаць, але яна блякне ў параўнанні з тым, што ўдалося

зрабіць кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь за апошнія няпоўныя дваццаць гадоў. Гэта трэба абавязкова мець на ўвазе пры вызначэнні сапраўдных герояў, рыцараў русіфікацыі.

* * *

Многія мае знаёмыя не выказваюць асаблівай трывогі датычна катастрафічнага становішча беларускага народа, спасылаючыся на наяўнасць у яго незалежнай дзяржавы, якая, маўляў, не зацікаўлена і ні ў якім разе не дапусціць канчатковага абрусення яго. Я, напрыклад, не заўважаю такіх гуманных намераў за дзяржавай і да таго ж яшчэ не лічу яе незалежнай, асабліва ў культурна-моўным вымярэнні. А гэта якраз мо самы першы з найгалоўных фактараў, які робіць народ самабытным, дае яму права развівацца на сваёй прыроднай аснове, не азіраючыся па баках. Мы ж без згоды Маскоўскага Крамля можам толькі замяніць тую ці іншую літару ў напісанні якога-небудзь слова, да прыкладу *корова* і *карова*. Пры нашай уяўнай палітычнай незалежнасці мы ў сферы нацыянальна-культурнага жыцця пачуваем сябе ніколькі не лепш, як за царскім часам. Пацверджу гэта амаль стогадовай даўнасці цытатай славутага грамадска-палітычнага дзеяча, пісьменніка Язэпа Лёсіка: “Нядоля наша ў тым, што мы, страціўшы незалежнасць, па цяжкіх умовах гісторыі, не здолелі адстаяць сваю нацыянальную самабытнасць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў”. А цяпер задумаемся: што ж да лепшага змянілася пасля атрымання Беларуссю статусу незалежнай дзяржавы, асабліва пасля ўсталявання прэзідэнцкай сістэмы ўлады? Ды нічога. Болей за тое, калі пад уладай царскай Расіі наша нацыянальная самабытнасць была “спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў”, дык цяпер гэтую самабытнасць спляжваюць чужой культурай не заезжыя ў наш край творцы, а свае ўласныя, ды яшчэ атрымліваючы за гэта ад дзяржавы высокія ўзнагароды – нават ордэн Францішка Скарыны. Во парадокс!

* * *

Кожны нават сярэднестатыстычны палітык разумее, што ўжо на мяжы XX – XXI стагоддзяў кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь прывяло мову сваёй тытульнай нацыі амаль да поўнага заняпаду, бо яна была сацыяльна запатрабаванай толькі настаўнікамі гэтага прадмета, невялікай жменькай пісьменнікаў, работнікаў сродкаў масавай інфармацыі, мастакоў, артыстаў. Да канца не перавяліся і яе прыродныя носьбіты, прычым ужо не з ліку вяскоўцаў, а з інтэлігенцыі

нацыянальнай арыентацыі. Але ўсяго гэтага, відаць, было вельмі і вельмі мала, каб высокім палітыкам задумацца пра гібель роднай мовы тытульнай нацыі, само далейшае жыццё якой становіцца праблематычным пры страце такой нічым не заменнай духоўнай каштоўнасці. Уладаў гэта ніколькі не хвалявала. Яны паводзілі сябе так, нібыта моўная праблема не ўваходзіць у іх кампетэнцыю, начыста забыўшыся, як яны маштабна, скрупулёзна займаліся ёю напярэдадні майскага рэферэндуму 1995 г. і ў першыя гады пасля яго. Без такога ўдзелу ўладаў рускай мове не вярнуліся б часткова страчаныя ёю ў выніку нацыянальна-культурнага адраджэння пазіцыі ў грамадскім жыцці нашай краіны, бо, дзякаваць богу, у беларускай мовы да рэферэндума 1995 г. з'явілася нямала шчырых носьбітаў, сапраўдных руплііўцаў. Лічу, што ў нас раней і сёння нельга адшукаць аніводнай катэгорыі людзей, якія не заўважалі б, як прыходзіць у нябыт, памірае беларуская мова. Асабліва памылковым было б адмаўляць прысутнасць такіх людзей сярод палітыкаў, ідэолагаў, інтэлектуалаў, бо падчас кантакту паміж сабой, з народам яны не могуць абысціся без вуснага ці пісьмовага слова. А яно ж спрэс не беларускае, а рускае! У такой ненармальнай моўнай сітуацыі толькі падрываецца нацыянальная аснова беларускай культуры, яна дэфармуецца, страчвае сваё прыроднае аблічча, вядзе беларускі народ да немінучай этнічнай смерці, прыкмет якой ўжо больш чым дастаткова на сёння. І калі гэтага не заўважае дзяржава, значыцца мае прамую зацікаўленасць у давядзенні да канца культурна-моўнай русіфікацыі беларускага народа, знікненні яго з этнічнай карты свету, на якой беспраблемна, у добрым настроі пачуваюць сябе нашыя суседзі: рускія, палякі, літоўцы, латышы. Гэта толькі украінцы, як тая рыба, што б'ецца аб лёд, не знаходзяць надзейнага шляху выратавання свайго роднага слова ад руйнавальнага ўплыву русіфікацыі.

* * *

Сваімі не заўсёды як след прадуманымі эксперыментамі ў аграрным сектары ўлады да апошняй падваліны зруйнавалі шматвяковы традыцыйны ўклад вёскі – нязменнай носьбіткі беларускага духу. Найбольш за ўсё ёй дастаецца ў новым стагоддзі. Калісьці кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 – 1864 гг. Кастусь Каліноўскі, каб быць лепш зразумелым жыхарам вёскі, звяртаўся да іх па-беларуску і на гэтай мове выдаваў газету “Мужыцкая праўда”. Сёння нашыя палітыкі, ідэолагі ідуць да вяскоўцаў толькі з рускай мовай, бо роднай

яны ўжо, як і гараджане, не валодаюць. Па гэтай прычыне і прызначаная для жыхароў вёскі газета “Беларуская ніва” выходзіць на рускай мове. “Дасягненні” суверэннай Рэспублікі Беларусь у культурна-моўнай працы на вёсцы проста неверагодныя. Дасягнуць такіх “пазітыўных” зрухаў не ўдавалася ні царскім, ні бальшавіцкім асімілятарам. Выходзіць, не дарэмна стварылі і маем незалежную Рэспубліку Беларусь. Тое, што зрабіла яе кіраўніцтва па разбурэнні нацыянальных асноў культурна-моўнага патэнцыялу беларускага народа, думаю, было б непадуладна і дзеячам Маскоўскага Крамля. Пабаяліся б асуджэння з боку цывілізаванага свету. Таму Кастусь Каліноўскі памыляўся ў сваіх “Лістах з-пад шыбеніцы”, звяртаючыся да народа з такімі словамі: “…толькі тады зажывеш шчасліва, калі над табой ужо маскаля ня будзе”. Яго няма, а вось свае адарваныя ад пупавіны роднай зямлі палітыкі, ідэолагі, інтэлігенты ёсць у поўным дастатку і могуць проста цуды тварыць па культурна-моўнай асіміляцыі ўласнага народа, прычым не абы якога, а тытульнага! Ну ці ж не сорам гэта нам, беларусам, і перад самімі сабой, і перад усім светам?!

* * *

Існуюць розныя погляды датычна таго, як Беларусі ў 90-я гады мінулага стагоддзя дасталася палітычная незалежнасць. Бальшыня людзей пагаджаецца з тым, што не дужа цяжка і галоўна – без кровапраліцця. Вельмі дарэчы сталася, што на той час у руках палітыкаў меўся выключна дасканалы прыняты 26 студзеня 1990 г. Закон аб мовах у Беларускай ССР. Не сумняваюся, яго ўжо ў першым жа чытанні прыняў бы адпаведны орган ЮНЕСКА, бо там нічога не знайсці такога, што пярэчыла б усталяванай у свеце практыцы рэгулявання моўнага пытання. Абсалютнай жа бальшыні чыноўнікаў суверэннай Рэспублікі Беларусь ён не падабаўся, бо яшчэ зусім нядаўна, бездакорна выконваючы ўказанні ідэалагічнага апарату ЦК КПСС, яны праводзілі – і даволі вынікова – на тэрыторыі БССР палітыку збліжэння і зліцця нацыянальных культур і моваў савецкіх людзей, што вынікала са зместу самой праграмы пабудовы камунізму ў СССР. У гэтую жаданую стадыю развіцця савецкага грамадства меркавалася ісці праз рускую культуру і мову як самыя развітыя і найбольш шырока распаўсюджаныя на неабсяжных прасторах Савецкага Саюза. Верылі нашыя чыноўнікі ў камунізм ці не, але да Гарбачоўскай перабудовы так паачышчалі ўсе сферы грамадскай дзейнасці чалавека ад беларускай мовы, што яе (як літаратурную, а не трасянку) дасканала, як гэта належыць інтэлектуалу,

палітыку, ведала вельмі абмежаванае кола людзей. З культур (маю на ўвазе прафесійную) у БССР больш распаўсюджанай з’яўлялася руская, чым беларуская. І як вынік, БССР па ступені русіфікацыі карэннага насельніцтва выйшла і ўпэўнена ўтрымлівала за сабой самае першае месца сярод усіх саюзных рэспублік. Што б мы сёння ні пісалі, чаго б ні гаварылі, але ад немінучага поўнага этнічнага краху беларускую нацыю выратавала Гарбачоўская перабудова. А вось кіраўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь такога не ўдалося, бо ў яго былі зусім іншыя мэты. І як на зло, яны амаль ужо дасягнутыя.

* * *

У нас з даўняе пары доўжыцца дурная практыка, калі палітычна ўплывовыя, заможныя, адукаваныя пласты грамадства свядома збягаюць з роднага культурна-моўнага поля, спакойна сабе паразітуюць на чужых духоўных азадках. Пра такіх зневажальнікаў беларускай і атхланных спажыўцоў польскай культуры так пісаў у першай палове XVII ст. аўтар вядомага палемічнага твора, дэпутат польскага сойма Іван Мялешка: у іх “хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і смярдзіць”. Вось бы з выкарыстаннем найноўшых дасягненняў сучаснай беларускай навукі вызначыць, а якім жа мясам абрасла костка адарваных сёння ад родных каранёў высокіх палітыкаў, чынавенства і інтэлектуальнай эліты і на што падобны зыходны з іх ўдзень і ўначы смурод? Іван Мялешка, адгукніся! Цябе з радасцю паслухаюць моцна заклапочаныя сваім гаротным лёсам беларусы.

* * *

У адрозненне ад сваіх суседзяў рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, латышоў, у нас, беларусаў, вельмі мала было і ёсць людзей, гатовых на ўсё дзеля ўратавання гонару нацыі. Якой-небудзь карысці ад гэтага беларускі народ не меў, наадварот, нёс толькі вялікія страты, асабліва пасля ўступлення ў пачатку 1960-х гадоў у эпоху “разгорнутага будаўніцтва камунізму”, калі пачало бязлітасна нішчыцца ўсё нацыянальнае ў імя шчаслівай будучыні. З усіх нацый і народаў СССР ніхто так лёгка, так хутка не ўпісаўся ў надуманую бальшавіцкімі ідэолагамі новую гістарычную супольнасць – савецкі народ, як беларусы, спакойна здаючы ў архіў свае спрадвечна нацыянальна-гістарычныя традыцыі. А вось многія савецкія народы дзеля абароны, надзейнага захавання такіх сваіх традыцый ішлі і неслі вялікія чалавечыя ахвяры, таму сёння не сутыкаюцца, як беларусы, з праблемамі

захавання сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, паспяхова страсаюць з сябе бруд русіфікацыі, якая так квітнее ў нас.

* * *

Адноўленай мураўёўскай дзяржаўнай моўнай палітыкай кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь само ж сябе надзейна загнала ў кут. Ужо некалькі гадоў з ініцыятывы такой аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, як ЮНЭСКА, ва ўсім цывілізаваным свеце адзначаецца дзень родных моваў. Нарэшце дайшло кіраўнікам абсалютнай бальшыні краін, што значыць пакінуць сваю тытульную нацыю без роднай мовы. Катастрофа! Добра гэта разумеюць у пераважнай бальшыні і шарагоавя людзі. Таму разам з палітыкамі, ідэолагамі, інтэлектуаламі адзначаюць гэты дзень, як вялікае нацыянальнае свята. Ну а як жа мы, вязьні сучаснай мураўёўскай дзяржаўнай палітыкі, ставімся да такога дня? Дваяка: адраджэнскія нацыянальна-патрыятычныя сілы адзначаюць яго, ае ж палітычнае кіраўніцтва, усе структуры чыноўніцкага апарату, залежная ад апошняга частка інтэлігенцыі маўчаць, нібыта зусім развучыліся гаварыць. І іх можна зразумець, але толькі не апраўдаць, бо як можна на афіцыйным узроўні адзначаць дзень беларускай мовы, калі яе пры самым актыўным удзеле ўладаў вытурылі з усіх структур Прэзідэнцкай вертыкалі (пачалі ж гэтую герастратаўскую акцыю з самых верхніх), з усіх звёнаў сістэмы адукацыі, з многіх дзялянак прафесійнай культуры, сродкаў масавай інфармацыі. Каб пра такі дзень раптам наважыліся загаварыць высокія палітыкі, падначаленыя ім чынавенства, інтэлектуалы (дзеля ж гэтага ўсе яны ў абавязковым, звычным для сябе парадку выкарыстоўвалі б рускую мову), іх тут жа абсмяяў агалелы на беларускае слова люд.

Уяўляю, як няўтульна пачуваюць сябе палітычнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, чыноўнікі ўсіх органаў улады, наша адарваная ад родных каранёў інтэлігенцыя, калі ў суседняй Расіі святкуецца (прычым на досыць высокім узроўні, з удзелам шырокіх колаў грамадства) Дзень рускай мовы. У Рэспубліцы Беларусь дастаткова падстаў да супольнага з усходнім суседам святкавання такога дня, бо яна амаль ні ў чым не ўступае Расіі па ступені выкарыстання рускай мовы ў грамадскім жыцці. Упэўнеы, што ў многіх можа ўзнікнуць пытанне: “Ну і сапраўды, чаму б у такіх варунках кіраўніцтву РБ не правесці супольна з Расіяй гэтае свята, а не дык і проста ў сябе дома, на сваёй зямлі, бо на ёй жа ўжо амаль два дзясяткі гадоў цалкам  гаспадарыць не беларуская, а руская мова? Не ведаю, як вы, дарагія чытачы, адкажаце на гэтае пытанне, я ж асабіста лічу, што нашыя ўсіх эшалонаў улады чыноўнікі сваім

нежаданнем удзельнічаць у святкаванні Дня рускай мовы супольна з Расіяй (О, як апошняя ўзрадавалася б такому ўдзелу!) ці толькі ў сябе дома імкнуцца ўтаіць ад свайго народа, усяго свету поўную каланіяльна-моўную (сёння ўжо можна пісаць і культурную) залежнасць ад Расіі. І дарэмна, бо ў гэтым ужо ніхто не сумняваецца з разумных людзей, незалежна ад таго, гэта беларус ці жыхар якой-небудзь іншай краіны. Шчырая прыхільнасць кіраўніцтва РБ да развязвання моўнай праблемы паводле мураўёўскай канцэпцыі тлумачыць, чаму не толькі ўлады, падначаленыя яму ідэолагі, інтэлектуалы зусім не рэагуюць і на Еўрапейскі дзень моваў, які штогод адзначаецца 26 верасня і дынамічна ўзвышаецца ў сваёй прэстыжнасці. Як сыну Беларусі, мне вельмі шкада, што яе палітычная, інтэлектуальная эліта заблудзілася ў дзвюх соснах, не ў стане нават пальцам ткнуць у неба. І хто ж да нас прыйдзе на дапамогу? З якога боку чакаць Мессіі? Страшна, што можам адзін на адзін застацца са сваім горам. Хутчэй за ўсё, яно так і будзе, бо ў кожнага народа свае клопаты. Што ж, ратаваць сябе будзе той, хто топіцца.

* * *

Пра вялікую заганнасць арганізацыі  творчай дзейнасці ў чужой мове разумныя людзі Беларусі даўно пісалі і гаварылі. Так, у змешчаным у 1912 г. на старонках газеты “Наша ніва” артыкуле “Ці маем права быць беларусамі?” (друкавалася ў трох нумарах) справядліва сцвярджалася такое: “Нязменны закон, якім кіруецца ўвесь свет: ствараць культурныя рэчы ўсясветнай вартасці можна толькі ў сваёй роднай мове… Замяніць жа народу яго мову – гэта значыць забіць душу таго народа, яго асаблівую творчую здольнасць…” Прыкра, што душу беларусаў сягоння дабіваюць не чужынцы,  а яго дамарослыя сыны і дочкі, дабраўшыся да ўлады, да працы ў сферы адукацыі, культуры, сродках масавай інфармацыі.

* * *

Выкліканае Кастрычніцкай рэвалюцыяй 1917 г. нацыянальнае ажыўленне нярускіх савецкіх народаў не радавала толькі Маскоўскі Крэмль. Таму па яго ініцыятыве з канца 20-х гадоў узмоцнілася сачэнне за нацыянальна-адраджэнскімі працэсамі ў саюзных рэспубліках, сталі бачыць у іх (працэсах) рэальную пагрозу ідэям Кастрычніцкай рэвалюцыі. Асабліва пільна сачылі за БССР, як заходнім фарпостам Савецкага Саюза. Бальшавіцкім ідэолагам супольна з рэпрэсіўнымі органамі ўдалося тут “знайсці сапраўднае багнішча

варожых элементаў” у асобе нацыянальных дэмакратаў (“нацдэмаў”), якія нібыта ставілі сваёй мэтай паралізаваць сацыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі, адарваць яе ад СССР і далучыць да буржуазна-памешчыцкай Польшчы. За прыналежнасць да “нацыянал-дэмакратызму” адарвалі ад актыўнай нацыянальна-дзяржаўнай, культурна-асветніцкай дзейнасці сотні выдатных грамадска-палітычных, культурных дзеячоў, навукоўцаў, што не магло не затармазіць ход, звузіць маштабы беларусізацыі, павялічыць кола яе нядобразычлліўцаў. Пад строгую партыйную рэвізію падплі ўсе асноўныя набыткі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. З сярэдзіны 1930-х гадоў яно ўжо публічна не згадвалася. Пішу пра тыя падзеі толькі з адной мэтай: паказаць чытачу, як у многім усё гэта паўтарылася ў нацыянальным жыцці нашай краіны пасля заснавання ў ёй прэзідэнцкай формы кіравання.

* * *

Мяне, як гісторыка, па-сур’ёзнаму хвалюе, што ў сваіх, на вялікі жаль, няўдачных спробах надаць нацыянальна-культурнаму Адраджэнню дзейсны характар, мы вельмі рэдка звяртаемся да набытага раней вопыту, у т. л. і за савецкім часам. Лічу неабходным заўважыць, што адраджэнскаму руху не перашкаджалі нават вялізныя эканамічныя цяжкасці, што зведвала маладая БССР у першыя гады свайго існавання.

* * *

Шмат думаў, а правільнага, пераканаўчага адказу так і не знайшоў, чаму для нашай нацыянальнай гісторыі такімі ракавымі з’яўляюцца гады з апошнімі двума лічбамі 96: у 1696 г. у Рэчы Паспалітай прымаюць пастанову, у адпаведнасці з якой са службовага справаводства Вялікага Княства Літоўскага выключаецца беларуская мова і ўводзіцца польская, у 1796 г. генерал-губернатар Ц.Туталмін распарадзіўся, каб усе прысутнасці вялі сваё справаводства, акрамя крымінальных працэсаў, не па-польску, а па-руску. Роўна праз дзвесце гадоў у суверэннай Рэспубліцы Беларусь уносяць дыскрымінацыйныя для яе тытульнай нацыі змяненні ў Закон аб мовах, сутнасць якіх заключалася ў тым, што дазволілі службовым асобам ва ўсіх выпадках выкарыстоўваць беларускую альбо рускую мову.Такая праўка ў Закон аб мовах прывяла да таго, што ўсе сферы грамадскага жыцця сталі абслугоўвацца пераважна толькі рускай мовай. Уведзены са злачыннай мэтай у афіцыйную моўную практыку саюз “альбо” спаралізаваў, выклікаў поўны заняпад сацыяльнай ролі беларускай мовы, з’еў, праглынуў яе.

* * *

Усе, хто ў 20-я гады мінулага стагоддзя добраахвотна ці па абавязку службы ўзваліў на свае плечы нялёгкія клопаты па ладкаванні нацыянальна-культурнага жыцця на прыродным грунце, добра бачылі, што ахілесавай пятой у гэтай гістарычна важнай справе з'яўляецца беларуская мова. Будучы на працягу некалькіх стагоддзяў выключанай варожымі беларускаму народу сіламі з грамадскага ўжытку, яна адстала ў сваім развіцці, паразгубляла многіх прыродных носьбітаў. Большыня з іх ужо не ў першым пакаленні карысталася рускай мовай і не выказвала ніякага жадання вярнуцца да роднай, што зусім не стыкавалася з задачамі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Каб як след запрацавала ў грамадстве яго адзіная законная мова – беларуская, неабходна было найперш пераканаўча даказаць яму выключную ролю апошняй у лёсе тытульнай нацыі БССР. Яе інтэлігенцыя плённа папрацавала ў гэтым напрамку. Практычна не знайсці аніводнага з таго часу буйнога навукоўца-гуманітарыя, пісьменніка, які не пастараўся б вызначыць месца беларускай мовы ў нацыянальна-адраджэнскім працэсе юнай БССР. Не мог маўчаць і майстар мастацкага слова Змітрок Бядуля, хаця і належаў да яўрэйскай нацыі. Яго праўдзівае для ўсіх часоў выказванне: "Толькі ў роднай, добра зразумелай мове, чалавечы розум развіваецца і багаціць родную духоўную і эканамічную культуру" (1922) дапамагло многім беларусам заняць правільную пазіцыю ў дачыненні да матчынай мовы, прайсці з ёю ўсё сваё жыццё, якое для большыні сталася зусім не лёгкім у перыяд правядзення камуністычнай партыяй сацыялістычных эксперыментаў.

Шмат чаму карыснаму, як трэба шанаваць, забяспечваць шырокі грамадскі ўжытак беларускай мове, навучыліся людзі і ад іншых пісьменнікаў, філолагаў-навукоўцаў, культурных дзеячоў.

Сёння толькі можна пазайздросціць, як многія палітыкі, ідэолагі, шырокія колы інтэлігенцыі першага міжваеннага дзесяцігоддзя савецкай Беларусі правільна разумелі ролю дзяржаўнага фактару для падняцця сацыяльнай ролі беларускай мовы ў адраджэнскім нацыянальна-культурным працэсе. Яе рэальны стан у грамадскім жыцці быў такі незайздросны, што спадзявацца на адны толькі высілкі непасрэдных носьбітаў гэтага боскага для беларусаў дару ніяк не даводзілася. Узняць на належную вышыню сацыяльную ролю беларускай мовы, што якраз і выклікалася нацыяльнымі інтарэсамі тытульнага народа рэспублікі, можна было толькі абапіраючыся на адпаведныя дзяржаўныя структуры,

іх узважаную палітыку ў гэтай этнаўтваральнай сферы. На шчасце беларускага народа, гэта добра разумелі многія з тых, хто знаходзіўся ля палітычнага стырна БССР у першыя гады яе гісторыі. Нягледзячы на страшэнную гаспадарчую разруху, выкліканую кастрычніцкім пераваротам 1917 г., Першай сусветнай і Грамадзянскай войнамі, улады БССР не сталі марудзіць з ажыццяўленнем па-сапраўднаму адпаведнай нацыянальнаму інтарэсу моўнай палітыкі. Сучаснай Прэзідэнцкай вертыкалі ёсць чаму каштоўнаму павучыцца ў даваенных калег, а не заставацца толькі ў ролі пасіўных сведак этнічнага вымірання сваёй тытульнай нацыі.

* * *

У ідэалагічнага апарату ЦК КПСС атрымлівалася практычна ўсё па ўмацаванню пазіцый рускай мовы на тэрыторыі нацыянальных рэспублік. Усесаюзны перапіс насельніцтва 1979 г. выявіў такія каласальныя “дасягненні” на гэтай важнай дзялянцы савецкай нацыянальнай палітыкі. На час перапісу ў СССР рускую мову назвалі ў якасці другой, якой вольна валодаюць, 61,3 млн. чалавек. У 1970 г. такіх людзей было 41,9 млн. чалавек. З усіх саюзных рэспублік найбольш характэрнай такая з’ява была для Беларусі. Тут паміж перапісамі насельніцтва 1970 і 1979 гг. колькасць тых, хто назваў рускую мову ў якасці другой, якой вольна валодаў, павялічылася з 4082 тыс. чалавек да 5094 тыс. Асабліва высокі працэнт такіх людзей у агульнай колькасці жыхароў сваёй нацыянальнасці назіраўся сярод беларусаў.

* * *

Нас сёння не можа не натхняць да змагання за вядучае месца нацыянальнага ў культурным жыцці і шматлікія прыклады нашых дзядоў і прадзедаў у часы Першай сусветнай вайны. Нялёгка ім жылося ва ўмовах нямецкай інтэрвенцыі, аднак пра родную культуру людзі гэтак жа дбалі, як і пра хлеб надзённы. Як толькі калектыў эвакуіраванага ў 1915 г. у Яраслаўль Мінскага педагагічнага інстытута даведаўся, што на Бацькаўшчыне ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі з дазволу нямецкай ваеннай і цывільнай адміністрацыі пачалі рабіць першыя крокі па закладцы нацыянальнага падмурка пад беларускую культуру, ён выказаў шчырае жаданне хутчэй вярнуцца дамоў, каб узяць непасрэдны ўдзел у гэтай лёсавызначальнай справе. Улады Яраслаўля чынілі шмат розных перашкод калектыву педагогаў і студэнтаў МПІ з мэтай не даць магчымасці вярнуцца на радзіму, але жаданне працаваць на яе карысць

было мацней за ўсё, што перашкаджала здзейсніць такі патрыятычны, гераічны ўчынак. Вяртанне МПІ на радзіму сталася вельмі дарэчы.

Не ў мірны час за царызмам, а ва ўмовах усё той жа нямецкай інтэрвенцыі ствараюцца і пачынаюць працаваць у Менску Беларускі тэатр, Таварыства драмы і камедыі. На занятай ворагам тэрыторыі выходзіла больш за дзесятак беларускамоўных газет і часопісаў, грошы на выданне якіх, калі так можна сказаць, паступалі і ад заможных беларусаў.

Вялізная прыхільнасць беларусаў да сваіх бацькоўскіх культурна-моўных традыцый у час навіслай пагрозы для іх (беларусаў) біялагічнага выжывання прычынілася да таго, што такая магутная ў Еўропе дзяржава, як Германская імперыя, вымушаная была на афіцыйным узроўні прызнаць, што беларусы – гэта самабытны народ, што яны не рускія, не палякі, не ўкраінцы. Да гэтага часу на такое не адважыліся ні рускі цар, ні Часовы ўрад Расіі, ні ўлады маладой, створанай увосень 1918 г. Польскай дзяржавы.

* * *

Калі да развалу СССР мы мелі ўсе падставы абвінавачваць у асіміляцыі беларускага народа якую-небудзь знешнюю сілу, галоўным чынам Маскоўскі Крэмль, дзе ідэалагічныя службы КПСС на працягу доўгага часу распрацоўвалі і слалі ў саюзныя рэспублікі рэкамендацыі па зліцці культур і моваў, дык апошнім часам дэнацыяналізацыя карэннага насельніцтва Рэспублікі Беларусь адбываецца з ласкі яе дзяржаўных органаў. Цяпер ім ніхто не забараняе выступіць перад народам з аналітычным матэрыялам, з якога было б зразумела, што асіміляцыя беларусаў – гэта не дар Божы, не гістарычная неабходнасць, а вынік глыбока прадуманай, дзе тонка, а дзе надзвычай груба, гвалтам праведзенай іх паланізацыі і русіфікацыі, да чаго былі падключаны магутныя дзяржаўныя сілы, ідэалагічныя службы. Пасля таго, як маладая суверэнная беларуская дзяржава давядзе людзям пра прычыны іх нацыянальнай дэградацыі, ім павінна быць прадстаўлена зацверджаная Прэзідэнтам краіны дасканала распрацаваная праграма па выхадзе з культурна-моўнай асіміляцыі.

* * *

Сусветнай практыкай набыты багаты пазітыўны вопыт дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў, якія свядома абыходзілі і абыходзяць уладныя структуры Рэспублікі Беларусь, каб, крый божа, не пэцкаць рукі

развязваннем – хоць і занадта запозненым – гэтага пытання. Прыкладам бацькоўскіх клопатаў дзяржаўных органаў аб мове тытульнай нацыі можа служыць дэкрэт, з якім у 1794 г. Канвент звярнуўся да французскага народа: ”Грамадзяне, вы маеце шчасце быць французамі!.. Вы праклінаеце федэралізм палітычны; адмоўцеся ж ад федэралізму ў мове: мова павінна быць адна, як і рэспубліка; з поўначы на поўдзень, на ўсёй пrasторы зямлі французскай трэба, каб мова была гэтак жа аб’яднана, як і сэрца…” [1]

* * *

Палітыкам нават самага нізкага рангу павінна быць добра вядома, што ступень сучаснай дэнацыяналізацыі беларускага народа не ідзе ў аніякае параўнанне з той, што з’яўлялася характэрнай для яго на працягу XX ст. Таму кіравацца толькі тым, што скажуць асіміляваныя людзі – а яны ж складаюць абсалютную бальшыню нашага народа – адносна мовы навучання іх дзяцей ці мовы працы дзяржаўных, грамадска-палітычных, навуковых, культурна-асветных устаноў, было б крайне неразумным, некарэктным. У такой надзвычай цяжкай сітуацыі найперш за ўсё трэба палітыкам, ідэолагам, інтэлігенцыі заняцца правядзеннем з самымі шырокімі коламі людзей глыбокай растлумачальнай працы аб ролі нацыянальнага фактару ў іх жыцці. Калі мы жадаем выратаваць народ ад асіміляцыі, такой працы неабходна надаць дзяржаўны характар, падключыць да справы афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, а не ўзвальваць увесь цяжар гэтай нагрузкі толькі на плечы актывістаў нацыянальна-культурнага адраджэння, шэрагі якіх апошнім часам вельмі парадзелі. Не хочацца думаць, што нашыя папярэднікі першых дзесяцігоддзяў мінулага стагоддзя былі разумнейшыя за сённяшніх дзяржаўных, навуковых і культурна-асветных дзеячоў. Але калі ў паасобных беларускіх паветах з прычыны даволі агрэсіўных паланізацыі і русіфікацыі іх насельніцтва ўзніклі цяжкасці з фармаваннем школ на яго роднай мове, дзяржаўныя органы, грамадскасць вырашылі, што рэалізацыі гэтай складанай праблемы павінна папярэднічаць мэтанакіраваная растлумачальная праца з вяскоўцамі. Вось што наконт гэтага пісалася ў штодзённай грамадска-палітычнай газеце “Беларускі шлях” ад 23 жніўня 1918 г.: “…у школьнай справе на Беларусі чакае нас яшчэ вялікая праца.

[1] Драгоманов М. П. Политические сочинения. Т. 1. М., 1908. С. 54.

Сьляды быўшага казённага самаволу адчуваюцца ў нас яшчэ досыць востра. Мова і нармальны расклад школ па валасьцёх павінны быць першымі вехамі ў арганізацыі новага школьнага сэзону. Што тычыцца мовы, то чуецца вялікая патрэбнасьць трапнага інфармаваньня сялян у беларускай справе, асьведамленьня іх у беларускім духу праз сьвядомых беларусаў і праз газеты.

У гэтым кірунку сяляне з прычыны сваёй цемнаты ці могуць быць адпаведны ў сваіх рэзалюцыях і пастановах аб мове. У гэтым па сваёй нацыянальнай ніасьвядомленасьці ім патрэбна кіраваньне ад вышэйшых беларускіх нацыянальных арганізацый…” (падкрэслена мною. – *Л. Л.*)

* * *

Многія нашы палітыкі і інтэлігенты моцна памыляюцца, мяркуючы, што выціскаючы ў нашым краі беларускую культуру і мову рускімі адпаведнікамі, мы будзем толькі садзейнічаць умацаванню дружбы паміж беларускім і рускім народамі. Гістарычны вопыт сведчыць зусім пра адваротнае. Вядомы ўкраінскі вучоны канца XIX – пачатку XX ст. Міхаіл Драгаманаў, спасылаючыся на факты з жыцця народаў Аўстрыі, Венгрыі, Бельгіі, Францыі і іншых краін Еўропы, пісаў, “што выцясненне роднай мовы насельніцтва з публічнага, афіцыйнага жыцця павядзе да выхавання насельніцтва ў зусім процілеглых пачуццях тым, якія маюць на ўвазе выхаваць у іх. Ірландыя, і засвоіўшы англійскую мову, ненавідзіць Англію; эльзасцы, валодаючы нямецкай мовай, мала сімпатызуюць Германіі; нарэшце, у апошнім польскім паўстанні (1863 – 1864 гг. – *Л. Л.*), многія з важакоў паўстанцаў выдатна ўмелі размаўляць па-руску… Калі мы дапускаем ужыванне і нават развіццё якой-небудзь мовы ў прыватным, сямейным жыцці, у царкве, у літаратуры мастацкай і навуковай, дык мы дапускаем ёй ахопліваць самыя задушэўныя, самыя блізкія і кроўныя чалавеку сферы сэрца і розуму, і ці не натуральна, што чалавек патрабуе прызнання за гэтай мовай і іншых правоў у жыцці, а не сустрэўшы задавальнення гэтаму патрабаванню, не можа ставіцца да дзяржаўнай улады інакш, як з варожасцю, патаемнаю альбо яўнаю. Устраненне пэўнай мовы з усіх сфераў публічнага жыцця, са школьнага і навуковага выкладання не можа мець іншых вынікаў і мэты, як абмежаванне яе развіцця, абмежаванне развіцця на ёй літаратуры, пераважна навуковай і педагагічнай, адвучванне насельніцтва ад мыслення на гэтай мове, але пачуццё варожасці пры гэтым не знішчаецца, а становіцца толькі больш і больш дзікім і фанатычным.” [1]

* * *

Сярод нашых палітыкаў і інтэлектуалаў мелася і ёсць нямала такіх, якія заяўляюць, што калі беларускай мове надаць статус адзінай дзяржаўнай, наш народ з цягам часу цалкам забудзецца на рускую мову, не будзе чытаць на ёй мастацкую, навуковую літаратуру. Зараз у моўных дачыненнях народаў назіраюцца з'явы зусім іншага парадку. Ва ўсіх краінах расце колькасць людзей, якія разам з валоданнем роднай мовай (а валодаюць ёю толькі таму, што яна ў іх айчыне з'яўляецца адзінай дзяржаўнай) ведаюць і іншыя мовы, пераважна суседніх народаў ці блізкароднасныя. Для нас, беларусаў, па ўсіх сваіх параметрах такой мовай, несумненна, з'яўляецца руская. Кнігі на ёй складаюць асноўныя фонды нашых публічных і прыватных бібліятэк, таму не існуе аніякіх прычын баяцца за яе лёс на нашай зямлі. Калі я каго-небудзь не пераканаў, дык раю звярнуць увагу на чэшскі вопыт: з 1918 г. на тэрыторыі гэтага краю перастала ўжывацца ў якасці дзяржаўнай нямецкая мова з прычыны таго, што ўлады зусім правамерна такі статус надалі толькі роднаму слову свайго карэннага насельніцтва. І што ж з усяго гэтага атрымалася? А тое, на што разлічвалі ўлады: чэшская мова расцвіла, стала пануючаю ў краіне, не зведвала аніякай асіміляцыі з боку нямецкай. Не знікла і апошняя, хаця паміж сабою яны не роднасныя, як беларуская і руская мовы. Па-нямецку разумее і можа размаўляць на гэтай мове пераважная бальшыня чэхаў. Калі б у 1918 г. урад толькі што створанай незалежнай Чэшскай рэспублікі не прызнаў сваю мову адзінай дзяржаўнай, сёння яна ў сябе дома знаходзілася б у такім заняпалым стане, дыхала б на ладан, як беларуская. Знявечаныя ў выніку асіміляцыі мовы самі па сабе не выжываюць. Выратаваць іх можна толькі праз разумную, узважаную, мэтанакіраваную дзейнасць дзяржавы. Праблема гэта не з ліку лёгкіх, але за развязванне яе трэба неадкладна брацца, каб яшчэ больш не ўскладняць моўную сітуацыю. Думаць, што мінуць якія-небудзь дзесяць – дваццаць гадоў і ў

[1] Драгоманов М.П. Политические сочинения. С. 178, 179.

беларускай мове стане яшчэ менш носьбітаў і, значыцца, не будзе каму выступаць у яе абарону, а таму не варта тут штосьці канкрэтнае рабіць – гэта не той кірунак, якога павінны прытрымлівацца наша дзяржава, грамадскасць. Давайце перастанем сараматіць цывілізаваны свет.

* * *

Мяне страшэнна ўражвае, што ў самы адказны для беларускага народа час, калі гіне самае дарагое яго духоўнае багацце – мова, у нашых

высокіх палітычных, навуковых, культурных, педагагічна-асветніцкіх колах пануе поўны алімпійскі спакой. І чаму мы такія непадобныя на ўсе цывілізаваныя народы планеты Зямля, у якіх традыцыйна высока цаніліся і цэняцца нацыянальныя духоўныя каштоўнасці і найперш за ўсё родная мова? Мала для якіх з народаў не ўзнікала патрэба станавіцца ўсёй грамадой на яе абарону, бо толькі ў такіх варунках рэальная перамога. Тут бы нам, беларусам, не пашкодзіла б павучыцца ў індыйцаў, тым больш што дзяржаўныя кіраўнікі нашай краіны і Індыі апошнім часам вызначылі курс на культурнае супрацоўніцтва сваіх народаў. Калі Індыя вызвалілася з абдымкаў англічан, моўная сітуацыя ў яе нікольні не стала прасцей, чым у перыяд амаль двухсотгадовага брытанскага панавання. Вось якой яна падавалася многім з тых, хто наведваў Індыю яшчэ ў 1960-я гады: “Наўрад ці ёсць іншая праблема, якая надала б больш азарту і выклікала б больш супярэчлівых спрэчак, чым праблема дзяржаўнай мовы для паўмільярда індыйцаў. Лінгвістычнымі дэбатамі заняты індыйскі парламент (падкрэслена мною. – *Л.Л.*), ідуць бесперастанку дыскусіі на старонках і агульнага, і літаратурнага друку, краіну трасуць студэнцкія хваляванні, у гарадах адбываюцца дэманстрацыі і – іншым разам – праліваецца кроў”. [1] Супроць апошняй з’явы я катэгарычна выступаю, а вось каб “лінгвістычнымі дэбатамі” з прыцягненнем вядучых вучоных-лінгвістаў заняўся наш парламент – гэта вельмі вялікае маё жаданне, бо іншага сродку развязаць моўную праблему на Беларусі нельга адшукаць. Як паказаў і паказвае набыты вопыт, майскі рэферэндум 1995 г. ні на грам не палепшыў стан беларускай мовы, наадварот, стварыў для яе яшчэ больш пагражальную, цалкам стратную сітуацыю. Дарэчы, Індыя, нягледзячы на крайне складанае і раней і цяпер лінгвістычнае становішча, не праводзіла і не збіраецца праводзіць моўны рэферэндум.

[1] Салганик М. Война языков? Иностранная литература. 1968. №9. С. 233.

Гэтым складаным, архіважным пытаннем займаецца пераважна сама дзяржава.

Урад незалежнай Індыі, будучы добра праінфармаваны сваімі вучонымі філолагамі, што пры выкарыстанні дзяржаўных моваў – хіндзі і англійскай, апошняя паколькі мае значна большы вопыт выкарыстання ў такім статусе, непазбежна заглушыць, не дасць ніякай надзеі для жыцця першай, прынялі вельмі правільны, павучальны і для нас, беларусаў, лінгвістычны варыянт: у адпаведнасці з зацверджанай у 1950 г. Канстытуцыяй Індыі яе галоўнай дзяржаўнай мовай аб’явілі хіндзі, як

мову самага шматлікага карэннага насельніцтва краіны. Англійскай мове надалі статус другой дзяржаўнай мовы, і ёй належала выконваць толькі рознага роду сувязі. [1] Аднак былі праціўнікі надзяляць англійскую мову нават такой незайздроснай малазначнай функцыяй, называючы яе з-за таго, што індыйцам такі доўгі час давялося папакутваць ад каланізатараў, мовай імпералістычнай, інструментам эксплуатацыі. Зразумела, Канстытуцыя 1950 г. не ў стане была адным махам вырашыць усе моўныя праблемы, паколькі ў Індыі і тады і цяпер разам з англійскай выкарыстоўваецца да паўтара дзесятка асноўных мясцовых моваў, у нас жа толькі дзве – беларуская і руская.

* * *

Дапускаю, што блізкія да нашых палітыкаў інтэлектуалы давялі ім да розуму сфармуляванае яшчэ ў 1831 г. апекуном Віленскай навучальнай акругі Навасільцавым досыць сумніўнае палажэнне, што “рознасць у мовах заўсёды сілкуе ўзаемную недаверлівасць”, таму яны (палітыкі), каб не сутыкацца з падобнай з’явай, так стараліся і стараюцца выключаць беларускую мову з афіцыйнага ўжытку, хаця і ведалі, што пасля гэтага яна будзе непатрэбнай і ў асабістым жыцці. Але скажыце, чаму такая шалёная напасць на беларускую, а не на рускую мову? У апошняй жа, акрамя маленькай па тэрыторыі Беларусі, ёсць неабсяжныя прасторы Расіі, таму калі б у нас да мінімуму звялі сацыяльныя функцыі рускай мовы – то было б і справядліва і цалкам апраўдана – бо ўсё роўна для яе існавання не мелася б аніякай пагрозы.

* * *

У сур’ёзнай навуковай літаратуры XIX – пачатку XX ст. плебіцыст

[1] Салганик М. Война языков? Иностранная литература. 1968. №9. С. 233.

нярэдка называлі самым дурным тонам камедыі, які вынайшлі на Захадзе дзеля падману, абдурвання народа, атрымання ад яго згоды на тое, у чым больш за ўсё былі зацікаўлены самі ўлады. Такое на ўсе сто працэнтаў паўтарылася падчас правядзення ў Рэспубліцы Беларусь майскага (1995 г.) рэферэндуму. Дзеля абвяшчэння і правядзення яго вялікага розуму не патрабавалася. Куды лепш было б, каб дзяржава паставіла перад сабой задачу вывучыць і давесці да ведама народа ўсе прычыны яго адлучэння ад роднай мовы і разам з ім знайсці правільныя шляхі выратавання гэтага найкаштоўнейшага багацця для кожнай нацыі.

Сёння ўсім добра вядома, чаму дзяржава не адважылася на такі крок і да якіх катастрафічных наступстваў прывяло гэта беларускую мову.



**Дзяржава працуе насуперак нацыянальнаму інтарэсу**

У практыцы дзяржаўнага кіравання нашай краінай нямала чаго ёсць трагічнага. Гэта і расправа над ідэолагамі, непасрэднымі праваднікамі міжваеннай беларусізацыі, прымусовы загон сялян у калгасы, учыненыя ў 30-я гады мінулага стагоддзя масавыя фізічныя расправы над людзьмі… Сюды ж без усялякага сумнення можна ўпісаць і майскі 1995 г. рэферэндум, адпаведна з якім у нашай краіне і рускай мове надалі статус дзяржаўнай. Такі статус юрыдычна дазволіў дашчэнту

зрусіфікаванаму чыноўніцкаму апарату адцурацца ад беларускай і ўсё службовае справаводства абслугоўваць, як гэта было за савецкай уладай у пасляваенныя гады, толькі рускай мовай.

У той крайне неспрыяльнай для беларускай мовы сітуацыі проста нахабна павялі сябе ледзь не ўсе журналісты афіцыйных газет і часопісаў. А гэта ж тая катэгорыя творчай інтэлігенцыі, якая заўжды павінна гарой адстойваць родную мову свайго народа. Беларускія журналісты, за рэдкім выключэннем, не выказалі такой гатоўнасці. У іх хапіла жадання і сілы толькі папакідаць беларускія назвы газет і часопісаў, некаторых іх рубрык, а амаль усе прызначаныя для чытачоў матэрыялы пачалі падавацца у рускай мове. Можна было толькі пазайздросціць спрыту, з якім беларускую мову вытурвалі з афіцыйных электронных сродкаў масавай інфармацыі. Ужо даўно ўпадабанае беларусамі тэлебачанне практычна цалкам перайшло на рускую мову. У народа складвалася меркаванне – і ён не памыляўся, – што толькі гэтую мову любяць і паважаюць улады, што толькі ў гэтай мовы на Беларусі ёсць перспектыва. Адсюль напазбежны масавы адкат беларусаў ад свайго спрадвечнага роднага слова. Было б проста недарэчна не бачыць у гэтым “вялікай заслугі” самой дзяржавы. Роўных ёй не было ў змаганні супроць роднай мовы свайго народа на беларускай інфармацыйнай прасторы. Яшчэ ніколі такога злачынства не назіралася ў еўрапейскіх краінах і ўпэўнены не будзе назірацца.

* * *

У далёкім і не так далёкім мінулым у беларускага народа было безліч не толькі сумных, але і па-сапраўднаму трагічных датаў. Да апошніх я без усялякіх сумненняў залічваю 14 мая 1995 г., калі адбыўся рэферэндум і рускай мове надалі статус дзяржаўнай, што адкрыла беларускаму народу шырокі шлях на Галгофу. Гэтым ужо сто разоў праклятым для айчыннай гісторыі днём збітым з панталыку беларускім народам супольна з усім чыноўніцкім апаратам, самым высокім палітычным кіраўніцтвам краіны здзейснена страшэннае агульнанацыянальнае злачынства. Праўда, віна за яго не можа быць адэкватнай як для масавага шараговага люду, так і яго палітычных лідараў. Каб багіня Феміда разглядала гэтую справу, дык да смяротнага пакарання прысудзіла б толькі апошніх, а з першых, не выключана, зняла б усялякую адказнасць за ўчыненую расправу над беларускай мовай. У нас жа ідэолагі, непасрэдныя арганізатары, праваднікі майскага рэферэндуму і пасёння ставяць сабе ў вялікую заслугу, што заперлі

беларускую мову ў цёмныя сутарэнні, далі поўную волю гаспадарыць у грамадскім жыцці толькі рускай мове. І яна так раскошна тут гаспадарыць, што беларускай мове проста няма да чаго прыткнуцца.

* * *

Антынацыянальная ў дачыненні да тытульнага этнасу палітыка сучаснага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь ніколькі не дае гарантыі, што ў нас некалі спраўдзяцца словы геніяльнага паэта Максіма Багдановіча:

Беларусь,
твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня…

Начная цемрадзь такой чорнай заслонай адгарадзіла нас ад неба, што на ім не відаць аніводнай зорачкі.

* * *

З-за адсутнасці ўсялякага прафесіяналізму ў кіраванні моўнымі працэсамі, а, мо, хутчэй за ўсё з-за нежадання займацца імі ў надзеі, што ў такой сітуацыі немінуча перамога дастанецца рускай мове, улады паставілі Рэспубліку Беларусь у дурное становішча. На рубяжы XX – XXI стагоддзяў ва ўсіх цывілізаваных краінах свету вельмі вырасла павага да родных моваў тытульных нацый. І гэта цалкам апраўдана, бо аніводнаму народу яшчэ не ўдалося і не ўдасца стварыць што-небудзь больш каштоўнае за родную мову. Да таго ж яшчэ яна з’яўляецца галоўным фактарам прылічэння людзей да той ці іншай канкрэтнай нацыі. Забяры ў апошняй родную мову, яна (нацыя) перастае быць сама сабой, асімілюецца, растворыцца ў народзе, чыёй карыстаецца мовай і прыме для сябе яе назву. Вось па гэтых прычынах так шануюць, за рэдкім выключэннем, свае родныя мовы ўсе цывілізаваныя краіны. З іх ініцыятывы многімі на самым высокім дзяржаўным узроўні стаў адзначацца Дзень роднай мовы. У Расіі ён дастасаваўся да дня нараджэння яе самага геніяльнага паэта Аляксандра Пушкіна – 6 чэрвеня. Рэспубліка Беларусь не можа дазволіць сабе такога дня, бо насуперак законам біялагічнага і сацыяльнага развіцця чалавецтва лічыць, што яе тытульная нацыя – беларуская мае дзве родныя мовы – беларускую і рускую, да таго ж яшчэ дамінантнай з ласкі дзяржавы з’яўляецца не першая, а другая. Аналагу такой дурноце не знайсці ва ўсім свеце. Толькі беларусы не ідуць з ім у адну нагу.

* * *

Зараз у нас больш чым дастаткова падстаў заявіць і сабе і ўсяму свету, што не аднаго стагоддзя па працягласці беларуска-рускія моўныя спрэчкі не без актыўнага ўдзелу ўладных структураў Рэспублікі Беларусь завяршыліся поўнай перамогай рускай мовы на чужой для яе тэрыторыі. Характэрная сённяшняму дню недаравальна пасіўная дзейнасць грамадскіх нацыянальна-асветніцкіх колаў па выратаванні беларускай культуры і мовы ад поўнага заняпаду, па недапушчэнні пераўтварэння Беларусі ў адзіную з Расіяй цалкам аднародную рускую культурна-моўную прастору не можа хоць крыху змяніць да лепшага наша гаротнае, безнадзейнае становішча. Патрэбныя больш кардынальнага характару падыходы да развязвання гэтай знізу даверху архіважнай дзяржаўнай, а не якойсьці грамадскай ці тым больш прыватнай праблемы.

* * *

Трэба ўсяляк імкнуцца да таго, каб ужо ў пачатковых класах вучні ведалі, што самой гісторыяй прадвызначана існаваць, развівацца, панаваць на нашай роднай зямлі найперш толькі беларускай культуры і мове. Усе ж астатнія культуры і мовы тут маюць пабочнае значэнне, як скажам нямецкая культура і мова на французскай зямлі, італьянская культура і мова – на іспанскай, польская культура і мова – на чэшскай… Кожны народ павінен здзейсняцца толькі ў сваёй культуры, бо чужая, калі перад ёю не існуе аніякіх абмежаванняў, таго і глядзі, што можа прывесці яго да мяжы вымірання, што сёння якраз, і на вялікае няшчасце характэрна нам, беларусам. Іх культура і мова так выматаныя не ў меру магутным рускім уплывам, што амаль дазвання пазбавіліся сваіх не толькі актыўных, але і пасіўных носьбітаў. Звычайна цэнтрамі нацыянальнай культуры з’яўляюцца самі сталіцы дзяржаў. Ну скажыце, як сучасны Мінск можа быць такой сталіцай, калі толькі 6 працэнтаў яго жыхароў размаўляюць па-беларуску?! Як правіла, самым актыўным носьбітам нацыянальнай культуры з’яўляюцца найбольш адукаваныя колы інтэлігенцыі – соль любога грамадства. Ну скажыце, як сучасная інтэлігенцыя нашай краіны можа адпавядаць такому прадвызначэнню, калі адукацыя ў яе рускамоўная?! Нічога добрага нельга чакаць і ад тых, хто збіраецца заўтра папоўніць шэрагі інтэлігенцыі: у вышэйшых навучальных установах нават і 10 працэнтаў агульнай колькасці кантыгенту не атрымлівае адукацыю на беларускай мове. Як бачым, ні на грош перспектыў для аптымізму, для этнічнага выжывання беларусаў і не ў малой ступені таму, што палітычнае кіраўніцтва краіны з больш

чым дваццацігадовым стажам нацыянальнага суверэнітэту занадта ўжо ашчаджае іх беларускую мову. Каб не даць апошняй перапрацавацца, увагнаць сябе ў пот, яе з самых “гуманных” меркаванняў вызвалілі ад абслугоўвання ледзь не ўсіх сфераў грамадскай дзейнасці людзей, узваліўшы, без узгаднення з палітычным кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі, амаль усю гэтую каласальную нагрузку на адну рускую мову. Выходзіць, занадта перастараліся, не такую, як трэба, “ласку” зрабілі для беларускай мовы. Паколькі да ўсяго гэтага прыклаў руку дзяржаўны чыноўніцкі апарат, яго, а не грамадства, прамы абавязак даць рускай мове бестэрміновы адпачынак, а беларускую мову выкарыстоўваць да поўнага знемажэння. Годзе ёй хавацца за спіной рускай мовы, туляцца па-за вуглах. Хоць і моцна спазнілася з гэтым, але неяк трэба выходзіць з родным словам на шырокую прастору.

* * *

Беларусы паспяхова завяршаюць сваё нацыянальна-культурнае жыццё на ўласнай культурна-моўнай аснове. Зараз яна ў нас практычна спрэс руская. Адных (іх меншыня) гэта прыводзіць у роспач, другіх (іх абсалютная бальшыня) – бясконца радуе, зразумела, найперш само кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, бо ніхто, як яно, не прыклаў столькі фінансавых сродкаў, адміністрацыйнага, ідэалагічнага рэсурсу дзеля разбурэння культурна-моўнага патэнцыялу беларусаў і замену яго рускім адпаведнікам. Сёння ўжо не існуе аніякай культурна-моўнай мяжы паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй. Яна размыта сістэмнай дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі самога кіраўніцтва нашай краіны, што не мае аналагаў у сусветнай практыцы. Лічу, што наспеў час лепшым айчынным скульптарам заняцца распрацоўкай манументальнай кампазіцыі па ўшанаванні бясспрэчнага факта знікнення са свету беларускага народа. Размясціць жа яе трэба на плошчы Незалежнасці побач з помнікам Уладзіміру Леніну, бо менавіта ў гэтым шматпавярховым уладным будынку выспела ідэя правядзення ў маі 1995 г. рэферэндуму з мэтай надання статусу дзяржаўнай яшчэ і рускай мове, што загубіла нашу родную беларускую мову, а яе прыродных носьбітаў практычна загнала ў магілу. У прысвечанай гэтай “знамянальнай” падзеі манументальнай кампазіцыі павінны абавязкова мецца барэльефы тагачасных галоўных дзяржаўных дзеячоў, бо этнічная смерць беларускай нацыі ёсць справа іх рук, а не якой-небудзь пасланай д’яблам стыхіі.

* * *

Антынацыянальная культурна-моўная практыка ўладных структур Беларусі не мае сабе аналагу ні ў адной з еўрапейскіх краін. Дый і ў Азіі не так проста яе адшукаць. Так што, браткі-беларусы, нам ёсць чым ганарыцца, таму не будзем зніжаць тэмпы руйнавання свайго нацыянальнага дома, вешаць ніц галовы.

* * *

Сучасную людажэрную русіфікацыю лічу самай небяспечнай з усіх, што зведаў наш край. Раней яна бязлітасна нішчыла ўсё беларускае, калі ім поўнілася жыццё сямідзесяці – васьмідзесяці працэнтаў агульнай колькасці карэннага насельніцтва нашай зямлі. Зараз сярод яго не набярэцца і дваццаціпяці працэнтаў рэальных носьбітаў беларускіх нацыянальна-культурных традыцый. На добры лад такіх людзей дзяржава павінна была б на руках насіць. На справе ўсё атрымліваецца зусім наадварот. Бясконца адданы ёй (дзяржаве) ідэалагічны апарат і ўначы не спіць, апанаваны думкай, што трэба зрабіць, каб і гэтыя ўцалелыя ад русіфікацыі дваццваць пяць працэнтаў шчырых беларусаў выракліся ад свайго нацыянальнага “Я”, сталі адзіным з рускім народам. Не выключаю, што гэтая задача ёсць адна з самых лёгкіх для дзяржаўнага чыноўніцкага апарату, афіцыйных ідэолагаў, русафільскай беларускай творчай інтэлігенцыі. Калі ўсё пакінуць такім, як яно ёсць на сёння, дык не пазней як праз дзесяць – пятнаццаць гадоў увесь беларускі народ на сваёй роднай зямлі будзе бадзяцца па задворках, захлёбвацца ва ўмела, хітра занесенай у яго край рускай культурна-моўнай стыхіі.

* * *

Калі чую па радыё, што журналіст да прадстаўніка дзяржаўнай улады звяртаецца па-беларуску, а той адказвае, не папрасіўшы выбачэння, па-руску, расцэньваю гэта як знявагу нацыянальнай годнасці беларускага народа – тытульнага народа нашай суверэннай краіны, у адпаведнасці з Канстытуцыяй якой (артыкул 50) “Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам”. За гэта яшчэ нікога не пакаралі. А на добры лад, у адпаведнасці з такім артыкулам, пакаранне можна ўжыць і да іх уладаў, бо ніхто іншы, як толькі яны, давялі да ручкі беларускую мову.

* * *

У многіх тэарэтыкаў з розных краін і эпох не раз сустракаў цалкам правільны выраз: “Мова – душа народа”. Нам, акрамя роднай мовы,

доўгі час улады Рэчы Паспалітай навязвалі польскую, Расійскай імперыі, СССР – рускую. Апошнюю усяляк падтрымлівае і ўрад Рэспублікі Беларусь. Відаць, хоча, каб у беларусаў былі дзве душы. Але ж ці трэба нам быць двудушнымі? Думаю, што не. Хопіць і адной беларускай душы. Яна ж у нас і прыгожая, і багатая.

* * *

Сёння ўжо толькі самыя ашалелыя беларусафобы ці разумова адсталыя асобы могуць заяўляць, што майскі рэферэндум 1995 г. прывёў ці няўхільна вядзе да жаданага збалансаванага нацыянальна-моўнага жыцця ў краіне. Наадварот, яно стала яшчэ больш разбэрсаным. Спрэс пануе стыхія. Дзяржава зусім не рэгулюе моўных працэсаў у грамадскім жыцці, а калі штосьці і робіць, дык толькі на карысць рускай мовы, пазіцыі якой і без таго моцныя на чужой для яе этнічнай тэрыторыі. У інтарэсах гэтай дужай, шырока распаўсюджанай у нас мовы зусім непатрэбным было на людных месцах сталіцы Беларусі Палац спорту перакручваць на рускі лад – Дворец спорта, кінатэатр “Перамога” – ў “Победа”.

* * *

Пры захаванні сучаснай цалкам непрадуманай нацыянальна-культурнай, моўнай палітыкі непазбежна вельмі хутка яе карэннае насельніцтва напаткае этнічная смерць, у выніку чаго рускі народ застанецца без свайго брата-беларуса. Не лічу, што гэта пойдзе на карысць нашаму ўсходняму суседу. Гэтая з’ява не прынясе аніякай радасці славянскай супольнасці народаў, цывілізаванаму свету ўвогуле, бо адбудзецца непажаданае ім збядненне культурнай разнастайнасці.

* * *

У сучасным ізгойным становішчы беларускай нацыянальнай культуры няма ні кроплі віны самога народа. Калі ён і адышоў (пакуль што не канчаткова) у гэтай сферы ад прыродных традыцый, дык галоўным чынам толькі ў выніку разбуральнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі царскай імперыі, СССР і БССР, якая не адышла ў нябыт і пасля абвяшчэння Беларусі суверэннай рэспублікай. Яе кіраўніцтву вельмі лёгка праводзіць курс на далейшую русіфікацыю беларусаў дзякуючы таму, што ў краіне маецца шматлікі па колькасці пласт рускамоўнай, навуковай, творчай, педагагічнай інтэлігенцыі, адарванай ад роднай глебы. Такая інтэлігенцыя гатова выканаць любы загад дашчэнту

зрусіфікаванага чыноўніцкага апарату, каб толькі не дапусціць прыходу да паўнакроўнай жыццядзейнасці адукацыі і культуры ў іх роднай беларускай мове.

* * *

І да якой жа ступені трэба быць прафесійна непадрыхтаванаму ў галіне нацыянальных дачыненняў палітыку ці ненавіснікам беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, каб пасля правядзення майскага рэферэндуму 1995 г. не бачыць, што ён не прынёс аніякай карысці беларускай мове, што ён яшчэ больш павялічыў сацыяльную няроўнасць паміж ёю і рускай мовай?! На што ж дурыць людзям галовы? Ці не лепш было б ураду ўжо напярэдадні майскага рэферэндуму сказаць людзям, што ён нам патрэбен для таго, каб атрымаць ваш дазвол на канчатковае выцясненне беларускай мовы з грамадскага жыцця, ад якой і вы самі, дарэчы, не першае дзесяцігоддзе адлучаны? Таму, маўляў, давайце не будзем бавіць марна час, уваскрашаючы мову бацькоў, а будзем карыстацца, як ужо даўным даўно заведзена ў нас, рускай мовай. Гэта ж не нафта ці газ. Расія за карыстанне рускай мовай і рубля з нас не возьме. Вось гэта і сапраўды была б шчырая размова ўладаў з народам напярэдадні рэферэндуму па пытаннях аб мове. А то ўсё талдычылі пра роўнасць ды роўнасць беларускай і рускай моваў. Каб дасягнуць, а затым увесь час падтрымліваць яе, ого як трэба ўмела кіраваць моўнымі працэсамі. Не дарэмна ж ва ўсім свеце няма аднанацыянальнай краіны з дзвюма роўнымі паводле сацыяльных функцый мовамі, а наш разумны ўрад намерыўся зрабіць гэта рэальнасцю. І што ж у яго атрымалася? Пшык! А інакш і быць не можа. Нягледзячы на любыя старанні дзяржавы (а іх жа якраз і не было, а калі дзе іназіралася такое, дык толькі на карысць рускай мовы), усё роўна лепш развітая мова, з больш багатым вопытам абслугоўвання грамадства будзе пагражаць існаванню слабейшай за яе мове. Толькі свядома надаўшы беларускай мове прэстыжнасць у самых важных сферах дзейнасці чалавека, грамадскага жыцця ў цэлым, наша дзяржава ў стане выратаваць мову свайго карэннага насельніцтва ад поўнага заняпаду, выраўнаваць яе з рускай, а затым рашуча і трывала паставіць на першае месца, як гэта назіраецца з мовамі асноўных тытульных нацый ва ўсіх суседніх нам краінах.

* * *

За ўвесь час пасля майскага рэферэндуму дзяржава і пальцам не скранула, каб дапамагчы беларускай нацыі ў пераадоленні яе хранічнай,

моцна запушчанай моўнай хваробы. Відаць, лічыць, што яна ўжо невылечная, таму і адвярнулася ад умяшання. Апраўдаць такую бяздзейнасць улады ніяк нельга, бо беларуская мова гіне па яе віне.

* * *

Як і многія іншыя складаныя пытанні, моўнае таксама нельга вырашаць натоўпам. Калі нашыя дзяржаўныя дзеячы адчуваюць, што ў іх нестае ведаў па рэгуляванні архіскладанага для Беларусі моўнага пытання, ім трэба звярнуцца па дапамогу не да дашчэнту засіміляваных масаў, а да той часткі гуманітарнай інтэлігенцыі, пераважна з высокай філалагічнай падрыхтоўкай, што валодае не толькі багатымі ведамі, але яшчэ захоўвае бацькоўскую любоў да роднага беларускага слова. Вось тады, упэўнены, былі б выпрацаваны самыя правільныя эфектыўныя шляхі па выратаванні беларускай мовы, а разам з ёю і самога беларускага народа, тады сёння над ім не вісела б рэальная пагроза поўнага дэфармавання.

* * *

Ужо амаль два дзесяткі гадоў краінай кіруюць нямыя ў беларускай мове палітыкі. Такога антынацыянальнага пакрою гора-дзеячы нямала часу верхаводзілі народам і да распаду СССР. Падобная практыка не магла не прывесці да поўнага руйнавання нацянальных асноў жыцця Бацькаўшчыны. Ад іх засталася толькі адна парахня. Беларускае грамадства да такой ступені зрусіфікавалі, што яно нават не ў стане падаць голас у сваю абарону, паказаць пальцам на заклятых злодзеяў, таму яны так беспакарана арудуюць, дабіваюць тое, у чым яшчэ хоць штосьці засталося ад святой, бацькоўскай беларушчыны.

* * *

У 2011 г. паралельна праводзіліся Год італьянскай мовы і культуры ў Расіі і Год рускай мовы і культуры ў Італіі. Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь села б у лужу, каб якая-небудзь краіна прапанавала яму правесці аналагічнае мерапрыемства ў сябе дома ці ў гасцях.

* * *

Майскі рэферэндум 1995 г. узвёў перад беларускай мовай непераадольны кітайскі мур, каб стаць мовай улады. Гэтую функцыю дзяржаўны чыноўніцкі апарат Беларусі цалкам усклаў на рускую мову і не дазваляе аніякім нацыянальна-актыўным сілам хоць у чымсьці

змяніць такую заганную, руйнавальную практыку. Сучаснага каматознага стану беларускай мовы не заўважаюць толькі хворыя на запушчаную катаракту вачэй палітыкі і інтэлектуалы. Моцна хвалюе, што іх так шмат і захоўваецца тэндэнцыя да павелічэння і ў гасцях.

* * *

Сёння, не баючыся памыліцца, можна смела сцвярджаць пра завяршэнне русіфікацыі беларускага народа. Галоўная ж заслуга ў гэтым не Масквы, не прысланых ёю калісьці ў наш край адпетых асімілятараў, а яго ўласнага дашчэнту здэнацыяналізаванага дзяржаўнага апарату. Не дамогшыся сапраўднага палітычнага суверэнітэту, затое чынавенства не шкадавала сіл і сродкаў, каб паставіць Беларусь у поўную культурна-моўную залежнасць ад Расіі, чаму, як ніштo іншае, вельмі добра паспрыяў антынацыянальнай накіраванасці майскі рэферэндум 1995 г.

* * *

Пытацца ў народа, што ён думе пра лёс роднай мовы, можна, але не з мэтай, каб вырашыць дадзеную праблему так, як ён, будучы страшэнна зрусіфікаваны, сам скажа. Думку народа трэба было перш за ўсё вывучыць дзеля таго, каб даведацца, наколькі глыбока пранізала асіміляцыя яго душу, а затым ужо ў адпаведнасці з атрыманымі данымі пачынаць яе прафесійна лячыць. Наш жа ўрад, здабыўшы праз рэферэндум думку народа аб мове, нічога не робіць па выратаванні апошняй ад немінучага скону, а спакойна пагадзіўся з тым, як да яе паставілася засіміляванае насельніцтва.

* * *

Цывілізаваны свет павінен быць вельмі ўдзячным сучаснаму кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь за яго палітыку афіцыйнага двухмоўя. Як і ва ўсіх іншых падобнага роду інстанцыях, яна пераканаўча паказала на нерэальнасць існавання такога двухмоўя ў краіне з адным тытульным народам, што рана ці позна ён непазбежна застанецца толькі з адной дзяржаўнай мовай, прычым не абавязкова са сваёй роднай. У беларусаў па ўсім добра вядомай прычыне ёю стала руская. Апошнюю мэтанакіравана сталі навязваць ім адразу ж пасля далучэння да Расійскай імперыі ў выніку гвалтоўных падзелаў Рэчы Паспалітай. Ад такой заганнай практыкі не адышлі за савецкім часам і працягваюць займацца ёю ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь. Згубныя вынікі беларускай палітыкі афіцыйнага двухмоўя яшчэ больш пераканаюць урады іншых

краін, якія паважаюць свой народ, хочуць бачыць яго як нешта адметнае ў этнакультурным плане, незасіміляванае, яшчэ з большай упартасцю і рашучасцю будуць выступаць супраць надання статусу дзяржаўнай, акрамя сваёй, і яшчэ якой-небудзь мове, якія б толькі сілы не стаялі за ёй. Гібеллю беларускай мовы ў выніку цалкам усвядомленых дзеянняў уласнай улады Рэспубліка Беларусь дапаможа выратаваць ад верагоднай культурна-моўнай асіміляцыі сотні народаў планеты Зямля. Будзем спадзявацца, што за такое выратаванне яны не забудуцца сказаць нам, беларусам, "Вялікі Дзякуй!"

* * *

Пры прэзідэнцкім кіраванні Рэспублікай Беларусь нават і кроку не зроблена па пераўтварэнні яе ў нацыю-дзяржаву. Дэнацыяналізацыю карэннага насельніцтва праводзяць улады з такой маштабнасцю, якая не назіралася і тады, калі Беларусь з'яўлялася палітычным суб'ектам СССР. Сёння штосьці нацыянальна адметнае ў жыцці беларусаў, дый то з разраду фальклорнай спадчыны, можна ўбачыць толькі пад магутным мікраскопам. На фоне ўзрастання ва ўсім свеце павагі народаў да сваёй культуры беларусаў улады супольна з ідэалагічнымі структурамі ніяк не хочуць вывесці з рускага культурна-моўнага рэчышча.

* * *

Калі б якая-небудзь грамадская сіла паставіла перад сабой мэту стварыць на Беларусі дзяржаву, больш адарваную ад нацыянальных інтарэсаў, культурна-моўных традыцый карэннага насельніцтва, чым сучасная, упэўнены, з гэтага нічога не атрымалася б у яе. Пачынаючы з лета 1994 г., калі ў краіне была ўведзена прэзідэнцкая форма кіравання, у нас не толькі на палітычнай арэне раённага (гарадскога), абласнога, але і рэспубліканскага маштабаў не з'явілася асобы, якая глыбока ўсведамляла б рэальную пагрозу этнічнаму існаванню беларускай нацыі і хоць што-небудзь рабіла б па яе выратаванні з пекла культурна-моўнай асіміляцыі. А каб з'явілася такая асоба, ёй не далі б магчымасці наблізіцца нават да апартаментаў раённай (гарадской) вертыкалі. Таму хацелася б нацыянальна актыўным інтэлектуалам парэкамендаваць з вельмі вялікай агаворкай ужываць да сучаснай беларускай дзяржавы азначэнні "суверэнная", "незалежная". Калі з прычыны самага грубага ігнаравання дзяржавай такіх бясцэнных нацыянальных каштоўнасцяў беларускага народа, як родная культура і мова, адбываецца няўхільная асіміляцыя, зрываюцца працэсы этнічнай кансалідацыі яго, зусім

нелагічна ўжываць у дачыненні да сучаснай беларускай дзяржавы такія шматзначныя, з вялікімі патрабаваннямі да сябе эпітэты тыпу “суверэнная”, “незалежная”. Такой мы назавём нашую дзяржаву тады, калі ў аснове ўсёй яе практычнай дзейнасці будзе ляжаць не рускі, а беларускі інтарэс, калі народ навучыцца і будзе карыстацца не чужой, а роднай мовай.

* * *

Сваёй вартай самага сур’ёзнага праклёну антынацыянальнай культурна-моўнай палітыкай кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь і ў пяткі не гадзіцца сваім калегам з іншых краін па тым, што яны робяць дзеля прапаганды іх роднага слова. Заўважу, што практыка такой прапаганды ўсё больш і больш шырыцца, нягледзячы на паглыбленне, узмацненне глабалізацыйных працэсаў. Зразумела, Беларусь не роўня Кітаю, але ўсё ж не магу не адзначыць, што ў яго існуе Дзяржаўная канцылярыя КНР па міжнародным распаўсюджванні кітайскай мовы. Цікава, каб якая-небудзь уплывовая сусветная арганізацыя абавязала і кіраўніцтва Беларусі зладзіць аналагічную канцылярыю, якую яно мову распаўсюджвала б у свеце? Родную нельга, бо яна нават у самым вузкім рэгіянальным маштабе не распаўсюджана ў нас, а рускую не выпадае з прычыны таго, што ў яе ёсць законны гаспадар – Расія. Як бачым, і тут улады Рэспублікі Беларусь пасадзілі сябе мяккім месцам у глыбокую багну.

* * *

Адсутнасць усялякіх пазітыўных зрухаў у сучасным нацыянальным руху тлумачыцца амаль поўнай немагчымасцю выхаду для яго ўдзельнікаў на шырокія масы людзей. Уладныя структуры надзейна перакрылі ўсе шляхі да іх. У выніку спрэс пануе бяздзейнасць, адсутнічае правільнае разуменне праблем сучаснага нацыянальнага жыцця, што дазваляе дзяржаве лёгка маніпуліраваць грамадскімі працэсамі. У плане дасведчанасці праблем нацыянальна-культурнага развіцця людзі, прычым не толькі сельскай мясцовасці, знаходзяцца на ўзроўні 20 – 25-гадовай даўнасці, што і страшна, і небяспечна, бо з імі можна рабіць усё, што заўгодна ўладам. А яны ой як умеюць гэта рабіць!

Таму няма чаго здзіўляцца, што ў моцна здэнацыяналізаваных жыхароў нашых вёсак і правінцыйных гарадоў прарабы майскага рэферэндуму 1995 г. знайшлі сабе такую надзейную Вандэю.

* * *

Я не ведаю нікога з высокага і сярэднягя рангу дзяржаўных асобаў, якая не вызначалася б належным узроўнем адукацыі, пэўным жыццёвым вопытам. Гэта ў 20 – 30-я гады мінулага стагоддзя можна было прыйсці да ўлады толькі з пасведчаннем аб заканчэнні пачатковай школы. Тэарэтычная падрыхтоўка і адпаведны ёй прафесіяналізм сучасных палітыкаў даюць падставы беспамылкова сцвярджаць, што кожны з іх на ўсе сто працэнтаў упэўнены ў бесперспектыўнасці, немінучасці адмірання беларускай мовы з-за таго, што яна практычна цалкам выведзена з усіх сфераў грамадскага жыцця і асабліва ж з аўдыторый вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. І проста дзіўна, што пры такой трагічнай моўнай сітуацыі, без карэннага паляпшэння якой давядзецца паставіць крыж на існаванні амаль дзесяцімільённага, з багатай гісторыяй і арыгінальнай культурай народа, ніхто з дзесяці – дваццаці тысяч найбольш уплывовых палітыкаў афіцыйна не заявіць аб неабходнасці ўсімі сродкамі і метадамі ратаваць роднае слова карэннага насельніцтва краіны, дзякуючы якому яны атрымалі ўладу, забяспечваюць сабе прыстойны жыццёвы ўзровень?! Няўжо толькі страхам страціць уладу і ўсе звязаныя з ёю выгоды ці поўнай адсутнасцю нацыянальнай самасвядомасці можна растлумачыць адсутнасць хоць аднаго палітыка, які падаў бы голас у абарону беларускай мовы? Во загадка для будучых даследчыкаў, якія пажадаюць вывучыць стан нацыянальна-культурнага жыцця на Беларусі на рубяжы XX – XXI стагоддзяў, на рубяжы другога – трэцяга тысячагоддзяў! Не знойдуць аніводнага дзяржаўнага дзеяча, які ў гэтую адказную для беларускага народа часіну па-бацькоўску дбаў бы аб спыненні яго культурна-моўнай асіміляцыі. Беспрэцэдэнтны выпадак не толькі для Еўропы, а можа і для ўсяго свету.

* * *

Калі і надалей дзяржава будзе прытрымлівацца сённяшняй палітыкі ў галіне мовы, беларусам не ўхіліцца трапіць у катэгорыю рэліктавых этнасаў. Крайне балюча, што такое здараецца з народам, які займеў хоць нейкую там уласную сімвалічную дзяржаву, і ў час, калі карэннае насельніцтва пераважнай бальшыні краін планеты Зямля паспяхова будуе сваё жыццё на грунце ўласных прыродных нацыянальна-культурных традыцый, мо нават не падазравае, што дзесьці яшчэ ў свеце ў выніку асімілятарскай палітыкі гінуць, знікаюць з этнічнай карты народы, сярод якіх і мы, беларусы.

* * *

Не ведаю, як каму, а мне, калі з-за мяжы Беларусі чую рускамоўны голас яе паслоў, ніяк не верыцца, што гэта гавораць сыны і дочкі беларускага народа. Здаецца, што такую ганаровую і адказную місію выконвае за нас нехта іншы, а не мы самі. Дзіву даешся, чаму дадзенае пытанне так хутка развязвалася на пачатку 1920-х гадоў у Камісарыяце замежных спраў БССР і не кранаецца з месца сёння, хаця склад кадраў сучаснага Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь паводле ўзроўню тэарэтычных ведаў мо не толькі на адну, а на дзве галавы перасягае сваіх папярэднікаў? Выходзіць і яно ўкамплектавана людзьмі, якія не вызначаюцца належнай ступенню беларускай нацыянальнай самасвядомасці, адпаведнымі ведамі па беларускай мове, бо чым тады растлумачыць, што тут непадзельна пануе дзяржаўная мова суседняй нам краіны – Расіі.

* * *

Неінтэгранаваны ў нацыянальна-культурнае жыццё дзяржаўны чыноўніцкі апарат Рэспублікі Беларусь шмат стварае праблем для яе тытульнага народа. Часам здаецца, што ў яго няма аніякіх шанцаў выратавацца ад этнічнага вымірання. Але як падумаеш, што іншым народам такое ўдавалася, дык чаму ж мы, беларусы, не зможам справіцца з гэтай навалай. Таму давайце на апускаць рукі, не вешаць галовы. Пры дасягненні пазітыўных зрухаў у нацыянальна-культурным Адраджэнні – а такое можа быць рэальным толькі ва ўмовах перарастання яго ва ўсенародны рух –, што дазволіць спыніць далейшую русіфікацыю беларусаў, дапаможа з гадамі і ім трансфармавацца ў самадастатковы народ, таму трэба, не марудзячы, прыступіць да карэннай рэарганізацыі неэфектыўнага, аўтарытарнага палітычнага рэжыму. У першую чаргу неабходна развітацца – мо, і назаўжды – з прэзідэнцкай сістэмай кіравання краінай. Не будзем забывацца, што і праз дзесяць – пятнаццаць гадоў беларусы яшчэ не стануць народам са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю, што абавязкова пастараецца выкарыстаць у сваіх мэтах і адарваны ад яго карэнных інтарэсаў новы палітычны лідар, схіляючыся альбо ў бок Расіі, альбо Польшчы ці яшчэ якой-небудзь іншай суседняй дзяржавы. Немінуча паўторыцца тое – і не выключана нават у горшым варыянце – з чым давялося сутыкнуцца пры першым прэзідэнце краіны. Нам ніяк нельга забывацца на тую агромістую шкоду, якую прынесла беларускаму нацыянальнаму інтарэсу дваццацігадовае знаходжанне на гэтай пасадзе асобы, адарванай ад

культурна-моўных традыцый свайго народа. За гэты тэрмін у ніводнай з вышэйшых навучальных устаноў не перавялі педагагічны працэс на мову тытульнага народа – беларускую. А як урэзалі маштабы яе ўжывання ў іншых звёнах адукацыі! Толькі рускую мову выкарыстоўваюць ва ўсіх сферах службовага справаводства. За дваццаць гадоў знаходжання А. Лукашэнкі ва ўладзе не прынята аніводнага нарматыўнага акта па ўзмацненні сацыяльнай ролі беларускай мовы! Гэтай адзінай візітоўкі на права называць нашую краіну Беларуссю, а яе народ Беларусамі! Дзе ж гарантыя, што некалі і іншая асоба на пасадзе Прэзідэнта не пачне адкручваць назад кола нашага нялёгкага нацыянальна-культурнага Адраджэння?! Не, яму не будзе лепш і тады, калі за палітычнага лідара краіны абяруць кагосьці прапольскай, праўкраінскай, поралітоўскай арыентацыяй. З як след неўмацаванай нацыянальнай самасвядомасцю беларусаў ідэалагічныя службы ў апоры на сілавыя структуры змогуць без асаблівай цяжкасці павярнуць у любы бок пад гучныя апладысменты дэпутатаў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Забаўляцца з беларусамі кволай нацыянальнай самасвядомасці, як з разменнай манетай, будзе куды цяжэй пры парламенцкай форме кіравання краінай, паколькі ўлада дастанецца не адной асобе, а цэламу гурту людзей, у т. л. і каму-небудзь з нацыянальна-свядомых.

* * *

Няма горшай навалачы для любога народа, як захлынуцца ў чужой культурна-моўнай стыхіі. Прычым не мае аніякага значэння, што яна блізкароднасная ці больш багатая, развітая. Зусім не змяншала трагізму становішча, калі засіміляваны народ дзеля ўласнага заспакаення пачынае называць яе роднай. Звычайна першымі ўжываюць такое неапраўданае азначэнне асобы, што садзейнічалі такому трагічнаму знікненню народа з этнічнай карты.

Сёння наўрад ці знойдзеш дзесятак людзей цвярозага розуму, якія не бачылі б, што беларускі народ знаходзіцца на апошняй стадыі русіфікацыі. На яе бесперапынку, на ўсю моц працуюць шматлікі дзяржаўны чыноўніцкі апарат, установы адкукацыі і за рэдкім выключэннем установы культуры, афіцыйныя сродкі інфармацыі, абсалютная бальшыня грамадскіх арганізацый, Руская праваслаўная царква. Трэба быць вялікім аптымістам, каб мець спадзеў, што ў такіх экстрэмальных умовах можна застацца ў жывых, выратавацца ад русіфікацыі. Яшчэ большыя маштабы, яшчэ большую разбуральную

ролю яна набудзе, калі наш народ апыніцца у складзе адзінай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы. У перспектыве – прычым у не такой ужо аддаленай – у ёй будуць існаваць толькі руская культура і мова, што немінуча прывядзе ўсе нярускія народы гэтай на сёння яшчэ шматнацыянальнай краіны да поўнай страты іх этнакультурнай самабытнасці. Яны будуць адрозніваецца паміж сабой толькі паводле антрапалагічных прыкмет, што, дарэчы, нехарактэрна для рускіх і беларусаў. Ёсць над чым задумацца, хаця і запознена.

* * *

Сучасны стан беларускай мовы ніяк не назавеш прыстойным, з усіх бакоў бяспечным. Калі карэнным чынам не зменіцца дзяржаўная палітыка ў гэтай сферы, ёй (мове) наканавана стаць мёртвай. Сусветная практыка пераканаўча, на многіх прыкладах пацвердзіла, што шчаслівую, бесклапотную будучыню маюць толькі мовы, якія ў поўным аб’ёме абслугоўваюць грамадскае жыццё краіны. Пасля майскага рэферэндуму 1995 г. дзяржаўныя ўлады пастараліся – і, на вялікую бяду, даволі паспяхова – цалкам ускласці гэтую ключавую функцыю на рускую мову, у выніку чаго беларуская апынулася на задворках грамадскага жыцця, г. зн. стала лішняй, непатрэбнай для яго. У такіх неспрыяльных умовах яе чакае толькі адно: поўнае адміранне.

На свеце, дзякаваць богу, нішто не пагражае рускай культуры і мове, каб імі настойліва выпіхаць з дзяржаўнага сектара, афіцыйнага жыцця Беларусі яе аналагічныя прыродныя духоўныя каштоўнасці. Хтосьці можа запярэчыць, што такое распаўсюджванне культуры і мовы суседняй краіны ёсць патрабаванне, жаданне самога беларускага народа, у т. л. і значнай часткі яго мастацкай інтэлігенцыі. Дапусцім, што гэта і так, але ж ён, не сумняваюся, пры належнай увазе дзяржавы да беларускай культуры і мовы з такой жа, а можа яшчэ і з большай, прыхільнасцю, як да свайго, роднага, ставіўся б да іх, не цураючыся і рускага. Як кажуць, апетыт прыходзіць падчас яды. Толькі трэба імкнуцца, каб у беларусаў яна была свая, не чужая. Нават і не заморская! Чым з большым размахам будуць гаспадарыць на культурна-моўнай ніве Беларусі чужыя духоўныя каштоўнасці, тым цяжэй будзе адгарадзіць яе народ ад такой страшэннай чумы, як асіміляцыя, няхай сабе нават і ў форме рйсіфікацыі. Ведайце пра гэта рускамоўныя палітыкі, творцы Рэспублікі Беларусь і глядзіце, каб канчаткова не ўпусцілі час дзеля выратавання тытульнай нацыі ад этнічнай смерці, якая ўжо на ганку нашага дома і цягне сваю зладзейскую руку да клямкі дзвярэй.

* * *

З-за высокай ступені русіфікацыі беларусаў і як заканамерны вынік яе ў нас апошнім часам вельмі знізілася нацыянальная актыўнасць людзей. Адчуваецца гэта нават на прыкладзе самых аўтарытэтных апазіцыйных партый, культурна-асветніцкіх арганізацый. І ўсё ж хочацца верыць у немінучасць чарговай успышкі нацыянальна-культурнага Адраджэння, за якім, несумненна, будучыня нашай Бацькаўшчыны. Яго, як агню, баіцца афіцыйная ўлада, таму шляхам мэтанакіраванага далейшага пашырэння сферы ўжывання рускай мовы, рускай культуры ўсяляк імкнецца інтэграваць духоўнае жыццё нашага краю ў Расійскую Федэрацыю, дзе яго чакае поўная асіміляцыя. Не думаецца, што бязрадаснай, бесперспектыўнай палітыкай сучасным урадаўцам удасца доўгі час весці масы за сабой. Калі ў чынавенства гэта сёння атрымліваецца, дык толькі таму, што дэмакратычныя, апазіцыйныя сілы як след не працуюць дзеля нацыянальнай ідэі.

* * *

Наданнем на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праз майскі рэферэндум 1995 г. рускай мове статусу дзяржаўнай сама дзяржава пачала этнічнае разбурэнне свайго тытульнага народа, бо ў свеце няма нацыі, якая нармальна развівалася б на дзвюх афіцыйных мовах.

* * *

Шчаслівыя тыя народы, для этнакультурнай самабытнасці якіх стагоддзямі не існавала аніякіх пагроз. Беларусы не належаць да такой катэгорыі, бо ім не ўдаецца яе захоўваць нават ва ўмовах уласнай дзяржавы. Працэс дэнацыяналізацыі зайшоў так далёка, што яму не толькі супрацьстаяць, а, наадварот, усяляк садзейнічаюць многія дзяржаўныя дзеячы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, прычым мастацкай, навуковай, педагагічнай. У выніку нашае культурна-моўнае жыццё ў дзесяткі разоў больш адпавядае рускім стандартам, чым беларускім. Недарэмна многімі ўрадамі замежных краін беларускі народ не прызнаецца за самастойны і атаясамліваецца з рускім. Падобнае можна пачуць таксама ад зусім нешараговых дзяржаўных дзеячоў Рэспублікі Беларусь, інтэлігентаў, прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства.

Варта вялікай пахвалы, што і пры такім да краю пакалечаным нацыянальна-культурным жыцці Беларусі знаходзяцца волаты-аптымісты, якія вераць у перамогу яе карэннага насельніцтва над сваёй

этнічнай смерцю, шукаюць надзейныя сродкі для перамогі над ёю. Не першы год гэтая праблема моцна хвалюе мяне. Давялося прачытаць велізарную колькасць блізкай  па дадзенай праблеме літаратуры і патрэбнага адказу ў ёй не знайшоў. Сам жа лічу, што такую праблему ў першую чаргу трэба развязваць на самым высокім дзяржаўным узроўні, як гэта рабілася і робіцца сёння ва ўсім свеце, акрамя Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, у перыяд міжваеннай беларусізацыі ў ролі завадатараў нацыянальнага –культурнага адраджэння беларускага народа выступалі рэспубліканскія дзяржаўныя і партыйныя органы.

* * *

Якія б сёння цёмныя хмары не віселі ў паветры над Беларуссю, хочацца верыць, што некалі  ўсё ж неба будзе чыстым над ёю. Рана ці позна да актыўнай дзяржаўнай дзейнасці далучацца асобы са здаровай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю, на якіх зараз такі востры дэфіцыт. Кожны з іх за вялікі гонар будзе лічыць валодаць і карыстацца ва ўсіх жыццёвых сітуацыях роднай мовай тытульнай нацыі краіны. Такія людзі не могуць стыхійна прыйсці ў вялікую палітыку. Іх трэба загадзя і старанна рыхтаваць. Зусім не лішнім было б запатрабаваць ад прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла здаваць пісьмовыя іспыты па беларускай мове ў форме дыктанта. Затым выкананую кожным з іх пісьмовую працу растыражыраваць у афіцыйным і дэмакратычным перыядычным друку, каб выбаршчыкі ведалі, каму з верагодных Прэзідэнтаў краіны бліжэй да сэрца роднае слова беларуса.

* * *

Мы часта незаслужана дакараем Прэзідэнта краіны А.Лукашэнку за словы “На белорусском языке трудно сформулировать понятия в естественных науках”, бо і сапраўды такое зрабіць нялёгка, паколькі стагоддзямі царскі і камуністычны рэжымы, а сёння і лукашэнкаўскі не садзейнічалі і не садзейнічаюць выкарыстанню беларускай мовы ў такіх галінах навуковай дзейнасці чалавека. А.Лукашэнку можна крытыкаваць толькі за тое, што слова “трудно” ён узводзіць у абсалют і нічога не робіць, каб змяніць да лепшага становішча беларускай мовы ў выкладанні і вывучэнні такіх навуковых дысцыплін, як фізіка, матэматыка… А такое ж падуладна людзям. Трэба толькі, каб іх падтрымалі на высокім дзяржаўным узроўні.

* * *

Меркаванні засіміляванага народа датычна сваёй роднай мовы ні ў якім разе не могуць быць эталонам для выпрацоўкі дзяржавай сваёй палітыкі ў гэтай суперважнай этнаўтваральнай сферы. У дадзеным выпадку ўлада павінна арыентавацца на думку высокаадукаваных людзей, прычым не адарваных ад нацыянальнай глебы, адданых культурна-моўным традыцыям роднага краю. Практыка правядзення рэферэндумаў па тых ці іншых пытаннях, у тым ліку і па моўным, ніколькі не сведчыць пра дэмакратычны характар палітычнага рэжыму, а найчасцей за ўсё можа выклікацца яго негатыўным стаўленнем да лёсу мовы тытульнага народа.

* * *

Апошнімі гадамі беларускае грамадства, будучы, як ніколі раней, цесна інтэграваным у рускі лад жыцця (выключная роля дзяржавы ў гэтым не выклікае аніякага сумнення), ужо не ў стане выдзеліць са свайго асяроддзя дастатковай колькасці людзей, якія асмеліліся б узяць на сябе ініцыятыву па адраджэнні роднай мовы. А няма іх таму, што яны з-за сур’ёзных хібаў дзяржаўнай моўнай палітыкі да апошняй ніткі зрусіфікаваны. Палітычнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, паколькі з’яўляецца галоўным віноўнікам суцэльнай зрусіфікаванасці яе жыхароў, павінна ўзяць на сябе ініцыятыву па вяртанні беларускай мовы на дзяржаўны п’едэстал. Дасягненне гэтай высакароднай мэты рэальна толькі праз максімальтнае выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу ўласных уладаў. На Маскву тут ніяк нельга разлічваць, як гэта пры набыцці ад яе нафты, прыроднага газу ці яшчэ што-небудзь з сыравіны.

* * *

Да бяскрайнасці здзіўляе неразуменне многімі адукаванымі людзьмі страшэнных наступстваў дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, якое катэгарычна адмовілася быць заступніцай культурна-моўнай спадчыны свайго тытульнага народа, усяляк схіляючы яго жыць паводле рускіх узораў. І як на тое ліха, яны ўжо даволі глыбока запусцілі свае карані ў беларускую душу. Тых нешматлікіх інтэлектуалаў, каго хвалюе такая каварная, крымінальная практыка, хачу запэўніць, што ў канчатковым выніку яна, калі не прыйдуць у рух масы, загоніць беларусаў у магілу. Яшчэ ніводзін народ не выратаваўся ад культурна-моўнай асіміляцыі, калі сам як след не змагаўся з ёю, а ўлады з вялікай прыхільнасцю ставіліся да яе.  Такое сёння ў поўным аб’ёме характэрна і беларусам, і іх уладзе. У такой

пройгрышнай сітуацыі выйсце толькі адно: паўзці на каленях у Маскоўскі Крэмль і прасіць залічыць у рускія. І ён такую просьбу не можа не задаволіць, бо зрусіфікаваная абсалютная бальшыня беларусаў ужо даўно здрадзіла (заўвжу: не па сваёй волі, а дзякуючы адпаведнай дзяржаўнай палітыцы), жыве паводле рускіх мерак. Засіміляваных беларусаў метраполіі абавязкова напаткае лёс іх суродзічаў з іншых краін, у прыватнасці Віленскага краю (Рэспубліка Літва) і Беласточчыны (Рэспубліка Польшча). Ужо не першы год сярод іх больш пашпартных палякаў, чым беларусаў.  У выніку давяршэння дзяржавай канчатковай русіфікацыі свайго карэннага насельніцтва сярод яго рускіх па дакументах, а пазней і па самаўсведамленні будзе ў дзесяткі – сотні разоў больш, чым беларусаў. Во да якой пагібельнай этнічнай трансфармацыі вядзе нас усталяваны са “згоды” народа палітычны рэжым Рэспублікі Беларусь!

* * *

Нeяк агідна становіцца на душы ад думкі, што беларуская мова дажывае свае апошнія дні ў суверэннай, а не ў залежнай ад каго-небудзь краіне, як гэта было за царскім і савецкім часамі, калі дзяржаўная палітыка нішчыла на сваім шляху ўсё нацыянальна беларускае. Вось цяпер і думай, ці суверэннасць у Рэспубліцы Беларусь ліпавая, ці ў яе палітычным кіраўніцтве моцныя пазіцыі займае  прарускай арыентацыі “пятая калона”? Хутчэй за ўсё, што раўналежна дзейнічаюць гэтыя абодва фактары.

* * *

З прычыны прарускай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь усё больш і больш эміграваных у іншыя краіны беларусаў парываюць са сваімі культурна-моўнымі традыцыямі. Датычыць гэта і тых нашых супляменнікаў, што жывуць пад бокам сваёй гістарычнай радзімы. У першую чаргу маю на ўвазе Віленскі край сучаснай Рэспублікі Літва. У далёкім і не так далёкім мінулым ён унёс велізарны ўклад у беларушчыну, яго жыхары этнічна ніяк не адрывалі сябе ад беларускага народа, нягледзячы на магутны польскі і значна меншы літоўскі ўплывы. Трывожныя звесткі, што ўладныя структуры Беларусі не лічацца, груба парушаюць нацыянальныя інтарэсы свайго карэннага насельніцтва заканамерна параджаюць у віленскіх беларусаў сумненні датычна будучыні свайго народа. Бальшыня не ўпэўнена ў магчымасць яго этнічнага выжывання, таму схільная да адцурання сваёй

нацыянальнай прыналежнасці і, як вынік, пераходу пад крыло іншых этнічных груп Віленскага краю, найчасцей за ўсё польскай, з якой маюць шмат чаго агульнага ў гісторыі, культуры, рэлігіі, мове, побыце. Сёння зусім не рэдка можна сустрэць у мінулым выключна беларускую вёску, дзе абсалютная бальшыня жыхароў з вялікім гонарам лічаць сябе за палякаў. Заслуга іх метраполіі ў гэтым выключная. Яе ўлады не шкадуюць грошай на адкрыццё тут рознага роду ўстаноў культурна-асветніцкага прызначэння, у дастатковай колькасці забяспечваюць іх літаратурай, перыядычнымі выданнямі на нацыянальнай мове. Адсутнічаюць усялякія праблемы з забеспячэннем насельніцтва Віленскага краю польскамоўнымі перадачамі па радыё і тэлебачанні. Ну чаму ж пры такіх дзяржаўных клопатах не далучыцца да мясцовых палякаў, маючы так шмат чаго агульнага з імі, дарэшты забытым сваёй метраполіяй беларусам? Тым больш, што яны добра ведаюць, якую аглабельную нацыянальную палітыку яе ўлады праводзяць у сябе дома. Ох і вялікую цану плаціць за яе беларускі народ! Раней за ўсё гэта дакаралі – і справядліва – Маскоўскі Крэмль. Сёння галоўны віноўнік дэнацыяналізацыі беларускага народа знаходзіцца, бестурботна жыве ў сталіцы яго дзяржавы – Мінску.

* * *

Па віне свайго кіраўніцтва Рэспубліка Беларусь так і не выйшла за дваццаць гадоў бясколернага існавання на ўзровень нацыянальнай дзяржавы. Гэта, бясспрэчна, галоўная прычына яе непрадуманага, шалёнага імкнення да палітычнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй. Па-сапраўднаму нацыянальная дзяржава ніколі не дазволіла б сабе такі крок, бо нават самы недасведчаны ў дадзеным пытанні чалавек не можа не бачыць непазбежнага скону беларусаў, як менш чым дзесяцімільённай нацыі, калі апынецца ў больш чым стамільённым рускамоўным масіве насельніцтва. Ад гэтай этнічнай катастрофы беларусаў мог бы на нейкі час выручыць моцны нацыянальны патэнцыял іх культурна-моўнага жыцця. Але ж такім патэнцыялам яно не валодае. Таму палітычная інтэграцыя Беларусі і Расіі для першай вельмі хутка закончыцца поўным этнічным крахам, знікненнем з палітычнай карты свету.

* * *

Шчаслівая будучыня беларускай нацыі толькі ў адзінай унітарнай незалежнай дзяржаве, толькі з адзінай (абавязкова з сваёй!) культурай і

мовай. Панаванне тут чагосьці чужога, у тым ліку і рускага, толькі на шкоду беларускаму нацыянальнаму інтарэсу. Не дадзім жа ў крыўду яго!

* * *

За гады прэзідэнцкага кіравання Аляксандра Лукашэнкі Рэспубліка Беларусь практычна перастала быць сама сабой. Адны лічаць гэта гістарычным дасягненнем яе першага Прэзідэнта, другія – нацыянальнай катастрофай. Аўтар дадзеных радкоў падзяляе погляд другіх, бо ці ж гэта не найвялікшае злачынства перад Бацькаўшчынай пазбавіць яе з дапамогай магутнай сілы чыноўніцкага апарату магчымасці развівацца на сваёй нацыянальна-культурнай аснове і такім чынам убіць асінавы кол у самабытнае развіццё беларускага народа? Сёння адсутнічаюць усялякія падставы гаварыць пра беларусаў як пра пэўную адметную этнічную супольнасць. Да ўсталявання прэзідэнцкай формы кіравання краінай так сцвярджаць мы яшчэ мелі права.

* * *

Доўга, вельмі доўга вялі чужацкія палітычныя рэжымы Беларусь да этнічнага скону. І шмат чаго ім удалося. Аднак завяршае гэтую злачынную акцыю не які-небудзь прышэлец, а ўласны дзяржаўны чыноўніцкі апарат. Калі не сёння, дык заўтра ён абавязкова ўчыніць крэмацыю беларускай нацыі. На заранку сваёй літаратурнай дзейнасці наш геніяльны паэт і прарок Янка Купала не сумняваўся, што Беларусь нарэшце зойме “Свой пачэсны пасад між народамі”? Памыліўся, бо не мог прадбачыць, што такі легіён дамарослых герастратаў возьмецца ў канцы XX – пачатку XXI стагоддзя з карэннямі вынішчаць беларускую нацыянальную культуру, прымушаць яе прыродных носьбітаў карыстацца ў сваім родным доме культурна-моўнымі набыткамі суседняй ім Расійскай Федэрацыі. Не ведаю, што думаюць іншыя, я ж не бачу той сілы, якая магла б дапамагчы. Хто ж гэта цяпер дазволіць такой знявечанай асіміляцыяй нацыі заняць “пачэсны пасад між народамі”. Яе месцам можа быць толькі сціплая ніша на мемарыяльнай сцяне, узведзенай у памяць здэнацыяналізаваных, этнічна мёртвых народаў.

* * *

Калі ўлады не ў стане ці не жадаюць забяспечыць сваёй краіне культурна-моўны суверэнітэт, ёй не ўбачыць і палітычнага суверэнітэту.

* * *

Нацыянальна-культурнае адраджэнне любога народа – надзвычай складаны працэс, прычым нават і ва ўмовах вялікага жадання саміх людзей, шчырай прыхільнасці да яго (адраджэння) уладных структур. Бяда дый годзе: сучаснай Беларусі не ўласцівыя ні такое жаданне, ні такая прыхільнасць. І ўсё ж, думаецца, рана ці позна яны з’явяцца, і народ прабудзіцца, прыйдзе ў магутны масавы рух. Толькі важна, каб ён не быў стыхійным, як след непрадуманым. Найперш неабходна, каб ідэалагічны апарат новага палітычнага рэжыму супольна з інтэлігенцыяй шырокім фронтам разгарнулі мэтанакіраваную растлумачальную працу сярод людзей, пераконваючы іх у важнасці арганізацыі ўсяго жыцця ў рэчышчы сваіх нацыянальна-культурных традыцый, а не навязаных звонку стандартаў. У гэтай працы павінны ўдзельнічаць толькі тыя, хто здольны спакойна, аргументавана даказаць людзям, што руская культура і мова, хаця і блізкія беларусам, як славянскія, аднак паводле прыроды сваёй з’яўляюцца няроднымі для іх, хітрасцю ці гвалтам прышчэпленыя ім чужымі палітычнымі рэжымамі і такое, як на грэх, з зайздроснай упартасцю праводзяць у жыццё і ўладныя структуры Рэспублікі Беларусь; што падобнай заганнай практыцы трэба як мага хутчэй пакласці канец; што ўся ўвага ўладаў як у цэнтры, так і на месцах павінна канцэнтравацца ў першую чаргу на развіцці беларускай нацыянальнай культуры з тым, каб наша краіна паводле дадзенага фактару была падобная на самую сябе, а не на нейкі філіял Расійскай Федэрацыі; што свядомае наданне дзяржавай прыярытэту ўсяму нацыянальнаму ў духоўным жыцці не адарве Беларусь ад рускай культуры, а толькі будзе абараняць яго ад празмернага, а таму і шкоднага, эразійнага ўплыву апошняй. Сёння ў свеце няма аніводнай цывілізаванай краіны, дзе б не ўжываліся захады падобнага характару, дзякуючы чаму захоўваецца размаітасць культурнай палітры планеты Зямля і ва ўмовах паглыблення глабалізацыйных працэсаў.

* * *

Пасля абвяшчэння ў ліпені 1990 г. дзяржаўнай незалежнасці Беларусі перад ёй узнік шэраг надзвычай складаных задач у сферы міжнацыянальных дачыненняў. Здзейсненае тут падчас вельмі прымальнай, цалкам апраўданай ва ўмовах Беларусі Гарбачоўскай перабудовы можа разглядацца не больш, як толькі мізэрная часцінка той найвелізарнай працы, якую патрэбна было выканаць дзеля вывядзення тытульнай нацыі з глыбокага нацыянальна-культурнага заняпаду, выкліканага русіфікацыяй, што не менш як двух стагоддзяў – за рэдкім

выключэннем – люта бушавала на нашай зямлі. Здавалася, на гэты раз беларусам па-сапраўднаму пашанцавала: ва ўладныя структуры незалежнай краіны прыйшло нямала нацыянальнай арыентацыі палітыкаў, якія зацята ўзяліся за ліквідацыю ўсяго таго, што прывяло яе карэннае насельніцтва да такой высокай ступені культурна-моўнай асіміляцыі. Сур'ёзным ударам па ёй з'явіліся даволі адчувальныя дасягненні ў стварэнні і працы нацыянальнай сістэмы адукацыі. Дзяржаўныя дзеячы не памыліліся, што зрабілі яе стрыжнем нацыянальна-адраджэнскай палітыкі. Але не доўга музыка гучала, і людзі танчылі пад яе. У той палітыцы ўсё крута перамянілася з усталяваннем улетку 1994 г. прэзідэнцкай сістэмы кіравання краінай. Цяжка паверыць, што ад таго часу ўсе этнастваральныя сферы Рэспублікі Беларусь амаль цалкам пачалі працаваць на карысць чужога рускага інтарэсу, а не свайго беларускага. Паводле маштабаў разбурэння яго ніводнае дваццацігоддзе з айчыннай гісторыі не можа параўнацца з тым, што адбылося з беларусамі за 1995 – 2013 гг. Поўны калапс! Во на што здольныя адарваная ад нацыянальных каранёў, анямелыя ў беларускай мове палітыкі! Ганарыся Еўропа, што ў цябе ў самым цэнтры ёсць такая дзівосная краіна, назва якой Рэспубліка Беларусь.

* * *

Быць таго не можа, некалі – а можа і неўзабаве – з'явяцца і ў нас дзяржаўныя мужы, якія як след ацэняць і будуць працаваць і жыць у адпаведнасці з крэда нашага славутага змагара за шчасце і волю беларускага народа Кастуся Каліноўскага: "Нельга есці хлеб народа і грэбаваць яго мовай".

* * *

Наша сучаснае чынавенства, пачынаючы ад самых нізкіх і канчаючы самымі высокімі структурамі, больш варожа ставіцца да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, чым якая-небудзь іншая катэгорыя насельніцтва, у т. л. і з некарэннага. Ад рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, татараў… мы не раз чулі выказванні пра неабходнасць узняць аўтарытэт беларускай мовы, нацыянальнай адукацыі і культуры. Службоўцы ж усіх рангаў маўчаць, хоць беларускі народ з-за занядбання дзяржавай яго адметных духоўных каштоўнасцяў гіне як самабытны этнас. Ратаваць яго – гэта значыць ва ўсе сферы дзяржаўнага, грамадска-палітычнага, культурна-асветніцкага жыцця ўводзіць беларускую мову, надаць прэстыжнасць нацыянальнай адукацыі і культуры. Але ці змогуць

пайсці на такі рашучы выратавальны крок дзяржаўныя асобы, калі яны ўзгадаваны на рускіх культурна-моўных традыцыях? Зразумела, не. Для іх гэтыя традыцыі настолькі дарагія, што яны толькі дзеля таго, каб застацца з імі, з алімпійскім спакоем прымуць этнічную смерць беларусаў, а калі патрэбна будзе – ахвяруюць яшчэ і дзяржаўным суверэнітэтам. Адарваныя ад роднай глебы людзі, не выключаючы палітыкаў, да ўсяго прыдатныя.

* * *

Меркавалася, што пасля майскага рэферэндуму 1995 г., як на дрожжах, будзе расці колькасць двухмоўных дзяржаўных дзеячоў, бо інакш навошта было яго праводзіць. Але не тут то было. Замест кроку насустрач беларускай мове яны на $180^{o}$ адвярнуліся ад яе. Сёння дастаткова пальцаў адной рукі, каб пералічыць высока нацыянальна-свядомых палітыкаў, міністраў, якія ў афіцыйным, прыватным жыцці карысталіся б мовай карэннага насельніцтва сваёй дзяржавы. Такога ў Еўропе не знойдзеш і ў Азіі ці ў Афрыцы мала дзе сустрэнеш.

Нашы сучасныя ўлады прыкметна ўступаюць камуністычнай партыі ў апошнія гады яе існавання ў падыходах да вырашэння нацыянальнага пытання. Вось што наконт яго гаварыў на XXXI з’ездзе КПБ (28 – 30 лістапада 1990 г.) самы высокі партыйны лідар Яфрэм Сакалоў: “Па ініцыятыве ЦК КПБ прыняты “Закон аб мовах у БССР”. Як вядома, паводле гэтага Закона, адзінай дзяржаўнай мовай прызнавалася беларуская, што здымала ўсе праблемы яе далейшага існавання. У рэзалюцыі з’езда адзначалася, што ён “падтрымлівае палітыку, накіраваную на захаванне нацыянальнага самаатаясамлення беларускага народа, дзяржаўную абарону яго мовы” (падкрэслена мною. – *Л. Л.*), гаварылася пра неабходнасць распрацоўкі і рэалізацыі “канцэпцыі нацыянальнай школы”, усе творчыя саюзы, выдавецтвы, навуковая і педагагічная грамадскасць заклікаліся да супольнай працы па “рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у БССР”. Адбывалася сапраўднае Беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне, канец чаму вельмі хутка паклала ўсталяваная ўлетку 1994 г. у краіне прэзідэнцкая сістэма кіравання. Калі ёю штосьці і рабілася на дзяржаўным узроўні ў культурна-моўнай сферы, дык толькі тое, што было ў інтарэсах рускай мовы (сумнавядомы майскі рэферэндум 1995 г.), рускай адукацыі, рускай культуры. Сёння яны спрэс уладараць на беларускай зямлі, адцясніўшы на задні план яе

нацыянальную мову, адукацыю, культуру, паспяхова давяршаюць русіфікацыю карэннага насельніцтва краіны.

* * *

Архітэктары майскага рэферэндуму 1995 г. ставілі перад ім падобную на аборт задачу: датэрміновае спыненне працэсу набыцця беларускай мовай на практыцы статусу дзяржаўнай. Ужо першы год пасля – рэферэндумнага жыцця беларускага народа пераканаўча паказаў, што хітра задуманы і тонка праведзены дзяржаўнай машынай плебісцыт быў сапраўдным дзевятым валам для беларускай мовы. І пачатак свой ён узяў ад сцен будынка Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

* * *

У нацыянальным плане Беларусь і ў складзе Расійскай імперыі, і ў складзе СССР была іх рабыняй. Ёй гвалтам, хітрасцю навязвалі чужыя рускія культурна-моўныя стандарты, і яна напоўніцу імі жыла. Здавалася, усё крута пераменіцца пасля таго, як улетку 1990 г. нашая краіна стала суверэннай. Перамены былі, але толькі кароткачасовыя: не доўжыліся і пяці гадоў. Хаця фармальна мы і сталі панамі на роднай зямлі, аднак і сёння не маем аніякіх падстаў радавацца сваімі дасягненнямі ў нацыянальнай культурна-моўнай сферы. Мы паўтарылі і паўтараем праўдзівасць слоў аднаго з філосафаў, здаецца, Гегеля: “Страшней за ўсё раб, які стаў панам”. Толькі дастасоўваць гэтыя словы трэба не да беларускага народа ў цэлым, а да яго палітычных, ідэалагічных вярхоў.

* * *

Гэта найвялікшая трагедыя, што з усталяваннем прэзідэнцкай сістэмы кіравання ў Рэспубліцы Беларусь ні яе нацыянальная культура, ні яе нацыянальная мова не сталі дзяржавастваральным фактарам. Па волі кіраўніцтва РБ такія функцыі ў поўным аб’ёме перадалі рускай культуры і рускай мове, добра ведаючы, што гэта толькі ўмацуе нашую залежнасць ад Расійскай Федэрацыі, а беларусаў пазбавіць магчымасці сцвярджацца ў фармаце самабытнага этнасу, пераўтворыць у безаблічны натоўп, здольны толькі без усялякіх намаганняў колькасна папаўняць на сваёй гістарычнай тэрыторыі рускую нацыю. Рэдка, вельмі рэдка можна сутыкнуцца з такой агіднай сатанінскай з’явай, каб сама дзяржава выступала ў паганай ролі герастрата, разбурала нацыянальныя культурна-моўныя асновы свайго тытульнага народа. Сёння ёсць ужо ўсе

падставы гаварыць, на радасць пілатам, пра поўную, беззваротную нацыянальную дэпапуляцыю (выміранне) яго.

* * *

Ігнараванне нацыянальна-моўнага фактару ў сферы дзяржаўнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь прыводзіла і раней і зараз да поўнай абыякавасці яе ўладных структур да грубых парушэнняў польскімі ўладамі нацыянальных правоў беларусаў Беласточчыны. Афіцыйная Беларусь заўсёды заставалася зусім раўнадушнай, калі на гэтай беларускай этнічнай тэрыторыі Польшчы чыніліся спробы абмежаваць магчымасці развіцця беларускамоўнага школьніцтва, перыядычнага друку. У некаторай ступені такое маўчанне ўладаў Рэспублікі Беларусь можна патлумачыць тым, што і яны самі ў сваім доме праводзілі і праводзяць палітыку, аналагічную беластоцкай у Польшчы. Цяжка зразумець, за што такую кару і ад сваіх і чужых палітычных рэжымаў трываюць беларусы?

* * *

Мінаў год за годам, а ўлады ўсё яшчэ ніяк не адважваліся сказаць людзям, што яны збіраюцца зрабіць у адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму па забеспячэнні на справе роўнасці беларускай і рускай моваў. Чакаў і я такога светлага дня, будучы цвёрда ўпэўненым, што пакуль такой роўнасці не забяспечым у сферы адукацыі, добрыя намеры ініцыятараў, ідэолагаў рэферэндуму застануцца толькі на паперы. А каб такога не здарылася, ніхто іншы, як сама дзяржава, якая арганізавала і правяла рэферэндум, павінна была неадкладна зрабіць самыя дзейсныя задачы па стварэнні нацыянальнага беларускага ўніверсітэта. Яны не рабіліся. Болей за тое, нават гаворка не ўзнімалася ёю па дадзеным пытанні, бо ўся ўвага надавалася русіфікацыі.

* * *

На ўсе сто працэнтаў упэўнены, калі б у нашай краіне пісьменнікі, работнікі тэатра, кіно і іншых устаноў прафесійнай культуры, удзельнікі мастацкай самадзейнасці сталі працаваць на самай напеўнай і мілагучнай, як мне здаецца, італьянскай мове, а выхаваўча-навучальныя, навуковыя ўстановы, пачынаючы ад дзіцячага сада і канчаючы Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Нацыянальнай акадэміяй навук, галіновыя навуковыя інстытуты, дзяржаўныя органы ўлады і кіравання ўсіх звёнаў, міністэрствы і ведамствы, грамадскія арганізацыі

карысталіся кітайскай мовай, дык яна, а не італьянская мова, стала б сродкам зносін між людзьмі і захоўвала б за сабой перспектыву, а італьянская ўвесь час стаяла б перад праблемай выжывання. Таму той, хто не пускае роднае слова беларусаў у сферы адукацыі і культуры, навуку, ва ўсе віды службовага справаводства, той незалежна ад таго жадае ці не, з’яўляецца магільшчыкам беларускай мовы і культуры, лютым ворагам беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

* * *

Нішто так пераканаўча не сведчыць пра поўную адсутнасць у нашых палітыкаў, афіцыйных ідэолагаў, інтэлігентаў погляду на беларускі народ як на самабытны этнас, як іх упартае нежаданне вярнуць яго родную мову ў грамадскае жыццё, дзе насуперак законам элементарнай логікі ўладарыць руская. Такую палітыку ўлады праводзяць таму, што яны атаясамліваюць беларусаў з рускімі, глядзяць на іх, як на адзіны народ, не хочуць зразумець, што гэта ёсць чыстай вады лінгвацыд сваёй тытульнай нацыі. Франтальны адыход ад беларускай мовы адбыўся не па добрай волі людзей. Іх нахабна вымушалі да гэтага дзяржаўныя ўлады Расійскай імперыі, СССР – БССР, курсу якіх непахісна прытрымліваецца і ўрад сучаснай Рэспублікі Беларусь. Названыя палітычныя рэжымы зрабілі і робяць усё, каб не даць беларускай мове аніякага месца ў афіцыйным жыцці ў надзеі, што гэта будзе весці да яе канчатковага забыцця і самімі беларусамі з непазбежным атаясамленнем сябе з рускімі. Для пэўнай часткі беларусаў гэта ўжо стала рэальнасцю. Часта заўважаецца такое: чым бліжэй да правядзення якой-небудзь акцыі ў інтарэсах руска-беларускай саюзнай дзяржавы, тым з большай настойлівасцю ідэолагі апошняй забіваюць галовы людзей шкодным міфам пра этнічную тоеснасць паміж рускімі і беларусамі. І недасведчаныя ў дадзеным зусім няпростым пытанні масы вераць такім плёткам. Пагадзіцца ж з імі аблягчае яшчэ і тое, што наша грамадства практычна ледзь не цалкам жыве на афіцыйным узроўні паводле чужых, занесеных у яго край рускіх культурна-моўных канонаў. Многія з беларусаў так прызвычаіліся да іх, што наноснае, чужое называюць сваім, родным. Бясспрэчна, да таго часу, пакуль руская мова будзе панаваць у афіцыйным жыцці Беларусі, а родная яе карэннага насельніцтва знаходзіцца ў ім у сірочым стане, ідэолагі і непасрэдныя праваднікі палітыкі культурна-моўнай русіфікацыі не спыняцца гаварыць пра беларусаў, як пра рускі народ. Уяўляю, якімі задаволенымі моўнай палітыкай Рэспублікі Беларусь былі б стваральнікі

шавіністычнага Саюза рускага народа (заснаваны ў лістападзе 1905 г.) за тое, што ў нас ужо не першы год існуе моўная сітуацыя, пра якую яны так марылі на пачатку мінулага стагоддзя: "Руская мова ёсць пануючая мова Расійскай імперыі для ўсіх народаў, якія яе насяляюць". У царызму часу на гэта не хапіла, затое кіраўніцтва РБ даволі хутка развязала дадзеную праблему. Падстаў атаясамліваць сучасных беларусаў з рускімі сёння больш чым дастаткова. "Заслуга" ў гэтым дзяржавы. Яна робіць усё, каб яе грамадзяне не толькі ў дзіцячых яслях, але і ў апартаментах Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь жылі, працавалі, паводзілі ў адпаведнасці з рускімі стандартамі, што дапаможа ім адчуць сябе рускімі. Такое, на вялікую бяду, у нашых палітыкаў атрымліваецца.

* * *

Многіх па-сапраўднаму заклапочаных хісткімі пазіцыямі беларускай дзяржаўнасці, страшэннай дэнацыяналізацыяй роднай культуры з-а непамернага ўплыву на яе з боку рускага фактару вельмі ўсцешылі сказаныя ў канцы снежня 2012 г. Прэзідэнтам РБ А.Лукашэнкам у час сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі словы: "Усе павінны разумець, што Беларусь – гэта назаўсёды. Гэта наша, яна ніколі больш не будзе ні польская, ні расійская, ні амерыканская або нямецкая". [1] Як на мой погляд, дык Беларусь ужо і сёння не ёсць Беларуссю, паколькі амаль усё яе не толькі грамадскае, але і асабістае жыццё пабудавана не

[1] Літаратура і мастацтва. 2012. 28 снежня. С. 2.

на сваёй, а на накінутай ёй чужымі і ўласнымі дзяржаўнымі структурамі рускай культурна-моўнай аснове. Культура сучаснай Беларусі да такой ступені зрусіфікавана, што рэальна ўзнікла вострая патрэба ў пошуку новага тэрміну для назвы нашай дзяржавы і яе тытульнага народа. Улады суверэннай Рэспублікі Беларусь далі вялікага маху, што ад першых гадоў яе існавання абыякава паставіліся да нацыянальных культурна-моўных традыцый уласнага народа, аддаўшы яўную перавагу ўсяму рускаму, чаго ніяк нельга назваць, як міна запаволенага дзеяння пад дзяржаўны суверэнітэт. Гістарычная памылка палітычнага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь – мэтанакіраванае выключэнне яе нацыянальнай мовы з грамадскага ўжытку. Што гэта так, добра вынікае з наступных слоў ірландскага навукоўца Дэві: "Кожны народ павінен засцерагаць сваю мову больш, чым межы, бо мова – галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе яго цытадэлі". [1]

* * *

Зразумела, нялёгка было б нам, беларусам, і на дзяржаўным узроўні займацца самай прэстыжнай у вачах цывілізаванага свету справай – нацыянальна-культурным адраджэннем, калі ў краіне хранічна даволі высокі ўзровень беспрацоўя, смяротнасць перавышае нараджальнасць, калі ў нас адна з самых нізкіх у Еўропе працягласць жыцця, прыкладна кожны другі жыхар адносіць сябе да ліку бедных. І ў той жа час напрошваецца выснова: а можа ўсе тыя беды, што абрынуліся на наш народ, – гэта адсутнасць у яго выразнай нацыянальнай ідэі, якая, як сведчыць гістарычны вопыт, дапамагала многім народам пераадолець неверагодныя выпрабаванні, стварыць сабе прыстойную суверэнную нацыянальную дзяржаву, дасягнуць вялікіх поспехаў у развіцці навукі і культуры, забяспечыць высокі ўзровень матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва?Адзінае, што добра даведзена да свядомасці беларускага народа ідэалагічнымі афіцыйнымі службамі, дык гэта тое, што яму абавязкова трэба аб’яднацца з Расіяй. І нічога, што ў яе і без нас безліч сур’ёзных сацыяльна-эканамічных, палітычных і нацыянальна-дзяржаўных праблем.

* * *

Каб, не дай бог, тое, што здарылася з беларускай мовай, напаткала сёння якую-небудзь нават самую адсталую ў свеце краіну, яе дзяржаўныя дзеячы ночаў не спалі б, думалі, як выратаваць нацыянальную мову свайго народа ад поўнага заняпаду. У нас жа хоць бы хто адзін з дэпутатаў ці Савета Рэспублікі, ці Палаты прадстаўнікоў публічна заявіў пра свой неспакой з прычыны гібелі беларускай мовы! Маўчаць, нібыта гэта іх не датычыць ці цалкам задавальняе. Хоць ты з-за мяжы запрашай палітыкаў, якія ўзяліся б выцягнуць беларусаў з асіміляцыйнай памыйкі. Сёння нашыя афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, як у самыя ідэальныя гады панавання каманднa-бюракрытычнай сістэмы, ні словам не кранаюць крайне цяжкай для беларускай мовы сітуацыі.

* * *

Не ведаю, як каму, а мне зусім не верыцца, што некалі надыдзе час і ў краіне ўзнікне шырокі, усенародны рух за выратаванне беларускай мовы

---

[1] Цытавана па час. “Полымя”. 1967. № 9. С.249.

ад немінучай пагібелі. А не верыцца таму, што маю цвёрдае перакананне: ва ўсёй Прэзідэнцкай вертыкалі спрэс сядзяць толькі адны недобразычліўцы роднага слова беларусаў. Не зрабіўшы гэтую вертыкаль нацыянальна-беларускай па форме і змесце, усе нашыя намаганні выратаваць роднае слова ад смерці не дадуць аніякага эфекту. Час канчаць займацца гэтай архіважнай лёсавызначальнай справай самапасам, ініцыятыўным шляхам без падключэння да яе ўладных структураў. Краіна ніколі не збяднела б, стварыўшы не такі ўжо шматлікі адміністрацыйны апарат з мэтай забяспечыць у апоры на яго планамерны ўвод беларускай мовы, пацясняючы рускую, у афіцыйнае жыццё. Структура такога апарату магла б складацца з Рэспубліканскай дзяржаўнай моўнай камісіі, аналагічных камісій у кожным абласным цэнтры, у сталіцы краіны і ў найбольш буйных яе гарадах. У склад кожнай такой камісіі павінны ўваходзіць толькі два аплатныя работнікі: старшыня і сакратар. У склад сваіх камісій яны падбіраюць з аўтарытэтных у калектыве, дастаткова ўплывовых на службе людзей, абавязкова са здаровай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю, неабходную колькасць членаў, праца якіх будуецца на грамадскіх асновах. І нацыянальна-адраджэнская справа, упэўнены, адразу ж зрушылася з месца.

Нельга і надалей дзяржаўным сродкам масавай інфармацыі бессаромна гуляць “у маўчанку” з ідэолагамі нацыянальнага Адраджэння, шчыра адданымі яму прадстаўнікамі навуковай, творчай, педагагічнай інтэлігенцыі. Любое іх жаданне выйсці ў эфір, на старонкі афіцыйнага друку, каб давесці масам пра катастрафічнае становішча нацыянальна-беларускай культуры і мовы, павінна ў поўным аб’ёме задавальняцца. Сказанае датычыць і мясцовых СМІ, паасобных буйных прадпрыемстваў і ўстаноў. Годзе ўтойваць ад беларускага народа, што ўлады ў апоры на цалкам залежных ад іх творцаў давялі яго амаль да поўнай русіфікацыі. Хутчэй за ўсё сапраўдную шкоду яе разумеюць далёка не ўсе прадстаўнікі ўлады раённага звяна. Зрабіць за правіла рэгулярныя выступленні па самых надзённых пытаннях беларускай культуры і мовы на старонках рускамоўнага перыядычнага друку як самага масавага ў краіне. Такога зместу матэрыялы можна друкаваць як на рускай, так і на беларускай мовах.

Крута ў лепшы бок павінны павярнуцца ўлады да дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Нават у самыя змрочныя ў нашай найноўшай айчыннай гісторыі часы яно не апускала рукі, вяло самаадданае змаганне за выратаванне роднага слова ад

заняпаду. Па-сапраўднаму пазітыўных рухаў такое змаганне не дало, бо занадта ж моцныя праціўнікі ў беларускай мовы былі сярод дзяржаўнага чыноўніцкага апарату. З дазволу ўлады неабходна ўвесці ў практыку працы Рэспубліканскай Рады і Сакратарыяту ТБМ імя Ф.Скарыны рэгулярнае заслухоўванне на сваіх пасяджэннях адказных работнікаў Прэзідэнцкай вертыкалі, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, вышэйшых навучальных устаноў па пытаннях павышэння ў сферы іх дзейнасці сацыяльнай ролі беларускай мовы. Да 20-годдзя майскага рэферэндуму – сапраўднага магільшчыка беларускай мовы – трэба сказаць народу ўсю праўду пра віноўнікаў гэтага, без перабольшвання, злачынства XX стагоддзя.

* * *

Яшчэ ніколі так не здзекваліся ўлады дый самі людзі з беларускай мовы, як сёння. І ўсё ж не пакідае надзея, што самы людскі за ўсё дваццатае стагоддзе дзяржаўны акт – “Закон аб мовах у Беларускай ССР” – гэта не апошняе прышэсце месіі ў наш край. Народ, які – хай і з велізарнымі стратамі духоўных каштоўнасцяў – вынес больш за трохсотгадовую паланізацыю і русіфікацыю, яшчэ знойдзе ў сабе сілы запатрабаваць ад свайго антынацыянальнага палітычнага рэжыму спыніць дыскрымінацыйную палітыку ў дачыненні да яго роднай мовы.

* * *

Калектыўным аўтарам увядзення ў Рэспубліцы Беларусь афіцыйнага двухмоўя быў не народ, а яе самае высокае палітычнае кіраўніцтва. На такі крок яно пайшло з чыста парапагандысцкіх мэтаў, каб паказаць людзям свой нібыта выключны лібералізм да надзвычай складанага ў краіне моўнага пытання. Калі моцна заклапочаныя рэзкім зніжэннем сацыяльнай ролі беларускай мовы людзі сталі патрабаваць ад уладаў адчыніць дзверы ёй у розныя сферы грамадскага жыцця, ім (людзям) адрасаваўся такі адказ: “У нас жа беларуска-рускае афіцыйнае двухмоўе. Пры выкананні сваіх службовых абавязкаў чыноўнік можа выкарыстоўваць любую з дзвюх моваў: беларускую ці рускую”. Паколькі службовыя асобы, як і амаль увесь беларускі народ, не па сваёй волі лепш дасведчаны ў рускай мове, на яе цалкам усклалі абслугоўванне грамадскага жыцця. Абавязваць людзей авалодваць беларускай мовай, каб знайсці ёй месца ў такім жыцці, лічаць у нас з’явай амаральнай, антыдэмакратычнай, хаця такія патрабаванні да родных моваў і раней, і зараз узаконены ва ўсіх краінах. Так, у царскай Расіі, каб стаць члена

Дзяржаўнай думы, трэба было абавязкова валодаць рускай мовай. Чаму б такога правіла не ўвесці для сучасных чыноўнікаў суверэннай Рэспублікі Беларусь?

* * *

Пры сучасных суадносінах беларуска- і рускамоўных культур у іх прафесійнай сферы карэнных жыхароў краіны чакае самае горшае, што можа быць з імі – асіміляцыя. І не будзем сябе супакойваць, суцяшаць тым, што яна адбудзецца ў форме русіфікацыі, г. зн. нас паглыне народ, з якім мы маем так багата чаго агульнага і блізкага ў гісторыі, культуры, рэлігіі і побыце. Усё гэта нуль у параўнанні са стратай этнакультурнай самабытнасці беларускага народа, якую трэба неадкладна і рашуча, усёй грамадой і пры самым актыўным удзеле ўладных структур ратаваць ад размывання з-за празмернага панавання на гістарычнай тэрыторыі беларускага народа рускамоўнай прафесійнай культуры. Парадокс вышэйшай ступені: вялікі пласт яго мастацкай інтэлігенцыі замест таго, каб сваёй творчай дзейнасцю хоць трохі абмежаваць небясшкодны ўплыў культуры суседнягя народа на нашае духоўнае жыццё, самі, не ведаючы стомы, працуюць у яе рэчышчы, г. зн. ільюць ваду на пачварнае кола асіміляцыі. Не так моцна здэнацыяналізаваныя прадстаўнікі беларускай мастацкай інтэлігенцыі стараюцца не заўважаць страшэнных перакосаў на карысць рускамоўнай культуры ў Беларусі, чым таксама спрыяюць разбурэнню нацыянальнага патэнцыялу яе духоўнага жыцця, утрываленню ў ім пазіцый рускага фактару. І калі ўжо мы навучымся жыць сваім укладам, не адрываючыся ад багатых беларускіх культурна-моўных традыцый? Няўжо ніколі?

* * *

У Рэспубліцы Беларусь у асноўным даволі дэмакратычнае заканадаўства датычна мовы. Пішу “ў асноўным” таму, бо навошта ж у аднанацыянальнай краіне, акрамя роднай мовы яе тытульнага народа, мець яшчэ і дзяржаўную мову суседняй Расійскай Федэрацыі? Дурнота нейкая! Нармальнай, з пазіцыі інтарэсаў беларусаў, дэмакратыяй і не пахне. Самі лезем у культурна-моўную залежнасць ад чужой краіны, у выніку чаго не захаваем і палітычнага суверэнітэту, станем яе нявольнікамі, грамадзянамі другога гатунку. І самае страшнае, што да гэтага вядзе нас уласная дзяржава. У яе хапіла жадання ўпісаць у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь артыкул (№ 17): “Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляюцца беларуская (заўваж, дарагі

чытач, што яна пастаўлена на першае месца!) і руская мова”, а вось намеру зрабіць гэта рэальнасцю, ні на ёту няма. Фактычна дзяржаўная мова нашай краіны – гэта толькі руская, што не адважыцца аспрэчваць аніводзін сучасны палітычны дзеяч. А якой на сёння страшэннай фікцыяй з’яўляецца артыкул 2 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”: “Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай мовы”. Нават самы цёмны чалавек не паверыць, што можна забяспечыць беларускай мове нейкае, нават самае мізэрнае, развіццё, пазбавіўшы яе ўсялякай магчымасці абслугоўваць палітычнае і эканамічнае жыццё, навуку, навучальна-выхаваўчы працэс у гарадскіх агульнаадукацыйных школах, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. І трэба ж у такіх заканадаўчых актах несці несусветную лухту на беларускую мову?!

* * *

Беларуская мова безупынна нясе велізарныя страты з-за крайне спалітызаванага стаўлення да яе нашых уладных структур, самых высокіх дзяржаўных асобаў. Яшчэ ніколі яна з прычыны такога стаўлення не пачувала сябе чужой у родным доме, як сёння. была такім важным палітычным сродкам, як сёння. Не толькі самыя верхнія эшалоны ўлады, але некалькімі рангамі ніжэй стараюцца праз свядомае выцясненне беларускай мовы рускай сцерці ўсялякае адрозненне паміж нашым краем і Расіяй, каб лягчэй звязаць яго з апошняй не толькі эканамічна, але і палітычна, стварыць поўную культурна-моўную тоеснасць, не мець самім аніякіх праблем з дасканалым валоданнем рускай мовы на выпадак, калі ўдасца рабіць сабе палітычную, службовую кар’еру на неабсяжных расійскіх прасторах.

* * *

Мне здаецца, няма больш элементарнай ісціны за такую: калі мова не мае практычнага ўжытку, яна не мае і будучыні. У такім становішчы беларуская мова знаходзіцца не адно стагоддзе, таму і дыхае, бедная, на ладан. Пастаў на яе месца нават самыя дужыя сёння ў свеце мовы, у тым ліку і рускую, вынікі будуць аналагічныя. Таму разумнымі захадамі з боку дзяржавы трэба лічыць не дасканалую арганізацыю моўных рэферэндумаў, надзяленне сваіх грамадзян супердэмакратычнымі правамі выбару мовы навучання дзяцей у агульнаадукацыйных колах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, ліцэях, коледжах, універсітэтах і іншых відаў такога тыпу ўстаноў, а звычайную будзённую, чарнавую

працу па планамерным уводзе беларускай мовы ва ўсе без выключэння сферы дзейнасці людзей, своечасова і пераканаўча патлумачыўшы ім, у імя якіх высокародных мэтаў гэта ажыццяўляецца. Не сумняваюся, што пры такім стаўленні дзяржавы да мовы праз год – два  хоць нейкую рэальнасць набудзе традыцыйны і папулярны сярод нас вокліч: “Жыве Беларусь!” Сёння ж да нашай рэчаіснасці больш дапасоўваюцца набатныя словы: “Гіне Беларусь!”

## Эліта губляе нацыянальную глебу

Бальшыня палітыкаў і інтэлігенцыі, пераважна афіцыйнай арыентацыі, не разумеюць ці не хочуць зразумець, у якім гаротным стане знаходзяцца – і не толькі сёння – нацыянальныя складнікі духоўнага жыцця беларускага народа. Ён так імкліва адыходзіць ад сваіх прыродных культурна-моўных традыцый, што проста страшна становіцца за лёс краіны. Уяўляю, якую бурную рэакцыю выклікаў бы ў палітыкаў і інтэлігенцыі Расіі адыход яе народа ад нацыянальнай культуры і мовы. У нас жа на ўсё гэта пазіраюць з зайздросным алімпійскім спакоем, апраўдваючы, што франтальнае выцясненне з афіцыйнага ўжытку беларускай культуры і мовы адбываецца, маўляў, не ў выніку запанавання ў краіне нейкіх чужых і далёкіх духоўных каштоўнасцяў, а тых, што належаць блізкаму нам рускаму народу. А каб апраўдаць такую форму культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў, улады надалі рускай мове статус другой дзяржаўнай у краіне, а афіцыйныя ідэолагі усяляк

імкнуцца пераканаць яе карэннае насельніцтва, што руская мова з’яўляецца яшчэ і яго другой роднай мовай. Усё гэта ніяк нельга апраўдаць, з усім гэтым ніяк нельга пагадзіцца, бо вынік такой палітыкі, такой ідэалагічнай апрацоўкі людзей да крайнасці небяспечны. Беларускі народ ва ўсё большым маштабе пачынае жыць не ў ладах са сваімі прыроднымі духоўнымі каштоўнасцямі, галоўным чынам па-за роднай мовай. Ідзе няўмольны працэс трансфармацыі беларусаў у нейкую цяжка падлеглую азначэнню этнічную супольнасць: менталітэт пакуль што захоўваецца беларускі, а культурна-моўныя стандарты набываюць выразна рускае аблічча. Не думаю, што гэта будзе мець шчаслівы канец для беларусаў, славянскай супольнасці народаў, сусветнай цывілізацыі.

У адрозненне ад наіўных аптымістаў я не веру пры такой неспрыяльнай сітуацыі ў магчымасць далейшага існавання беларусаў як пэўнай самабытнай супольнасці. Ступень этнічнай дэградацыі апошніх узнялася так высока, што ставіць пад вялікае сумненне датычна наяўнасці ў іх здольнасці да нацыянальна-культурнага самаадраджэння. Пасля майскага рэферэндуму 1995 г., у адпаведнасці з вынікам якога ў краіне ўсталявалася толькі юрыдычная роўнасць беларускай і рускай моваў, а фактычна апошняя з дапамогай уладаў выціснула першую практычна з усіх сфераў грамадскай дзейнасці чалавека і г. зн. надала працэсу русіфікацыі беларусаў дзяржаўны характар, але нягледзячы на гэта ні разу не назіралася масавага выступлення іх у абарону роднага слова. Значыцца, яно ім ўжо не такое і роднае.

І самае страшнае, што поўны заняпад беларускай мовы не хвалюе ці вельмі мала хвалюе элітарную частку грамадства – інтэлігенцыю. Як і з боку ўсяго народа, сярод яе таксама не назіраецца імкнення вярнуць адзіную на беларускай зямлі родную мову на законны пасад. За апошнія дзесяць гадоў не прыгадаць аніводнай сур’ёзнай, масавай акцыі інтэлігенцыі ў абарону таго, што так шануюць, сцерагуць усе цывілізаваныя народы планеты Зямля – роднай мовы. Не пабаюся сказаць, што сярод інтэлігенцыі, у т. л. і нацыянальна-адраджэнскай накіраванасці, ёсць нямала даволі добра сацыяльна забяспечаных асобаў. Яны паспелі набудаваць сабе дыхтоўных катэджаў, зрабіць еўрапейскі рамонт уласных кватэр, набыць найноўшых імпартных аўтамабіляў, штогод разам з усёй сям’ёй адпачываюць на лепшых курортах свету, а вось ахвяраваць адзін – два мільёны беларускіх рублёў на патрэбы нацыянальна-культурнага Адраджэння ў іх зусім няма жадання. Вось чаму і атрымліваецца, што ў нас не было, няма і цяжка сказаць, калі будзе салідны нацыянальны перыядычны орган, на старонках якога не

матэрыяламі на дзве – тры машынапісныя, кампутарныя старонкі, а цэлай газетнай паласой можна было б грунтоўна гаварыць аўтару з чытачом пра надзённыя, надзвычай складаныя беларускія праблемы, ад развязвання якіх у вырашальнай ступені залежыць само існаванне беларускага народа. Сёння яно стаіць пад вялікім пытальнікам, але па-сур'ёзнаму гэта не хвалюе ні адказных за лёс беларускай нацыі палітыкаў, ні яе элітарнай часткі – інтэлігенцыі. З такіх антыбеларускамоўных палітыкаў ніколі не сфармуецца сапраўдны нацыянальны лідар. Колькі ж яшчэ часу будзе трываць без яго Рэспубліка Беларусь?

* * *

Ахілесавай пятой удзелу нашай інтэлігенцыі і раней і ў сучасным нацыянальна-культурным руху з'яўляецца няздольнасць творча працаваць з народам. Зразумела, у гэтым ёй, асабліва сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, усяляк перашкаджае дзяржаўны чыноўніцкі апарат. І сёння нам вельмі варта добра ўдумвацца ў змест апостальскіх слоў нашага выдатнага адраджэнца Язэпа Лёсіка: “Народ – добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду”. А ўсё гэта можа і павінна рабіць у першую чаргу інтэлігенцыя. Тут у яе проста непачаты край такой важнай і патрэбнай нацыянальна-адраджэнскай працы.

* * *

Яшчэ і пасёння ў нас легіён адукаваных людзей, не згодных з тым, што царызм усяляк душыў беларускую культуру і мову з мэтай не даць іх прыродным носьбітам адчуць сябе самабытным, непадобным на рускіх народам. Пераканаць такіх людзей у адваротным амаль немагчыма, але ўсё ж для глыбокага роздуму над дадзеным пытаннем прывяду некалькі фактаў з часоў царскай Расіі. Вось мо адзін з самых ранніх, калі імператрыцай была Кацярына II. Гэта пры ёй адбыліся тры падзелы Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795 г.), у выніку якіх самы вялікі кавалак зніклай дзяржавы дастаўся Расіі, прычым амаль уся этнічная беларуская тэрыторыя. У складзенай праграме практычнай дзейнасці на далучаных землях імператрыца так пісала князю Вяземскаму: “Сии провинции надлежит привести найлегчайшим способом к тому, чтобы они обрусели и перестали бы глядеть, как волки в лесу”. І беларусы спаўна праглынулі прызначаную ім горкую пілюлю. Яшчэ больш паслядоўным у гэтай дыскрымінацыйнай справе праявіў сябе віленскі генерал-губернатар

Міхаіл Мураўёў. Не маючы адмысловай філалагічнай падрыхтоўкі, але будучы добра абучаным вядучымі ідэолагамі дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, ён даў сваім падначаленым цалкам адпаведную яе сутнасці дырэктыўную ўстаноўку: “У Паўночна-Заходнім краі (у складзе яго знаходзілася Беларусь) так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто. Бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга”. У гэтай выключна правільнай, надзвычай карыснай з пазіцый рускай вялікадзяржаўнай палітыкі ўстаноўкі аказаўся вельмі шчаслівы лёс. Яна знайшла сабе многіх шчырых прыхільнікаў, якім беларускі народ абавязаны сваёй страшэннай дэнацыяналізацыяй. Думаю, і гэтых двух яскравых прыкладаў дастаткова, каб зразумець, як неверагодна складана было сцвярджацца беларускаму народу ў сваёй этнакультурнай самабытнасці, калі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ён апынуўся пад уладай Расійскай імперыі. А так складана таму, што яна ажно больш як праз сотню гадоў афіцыйна дазволіла беларусам выкарыстоўваць сваю родную мову пры выданні кніг, газет і часопісаў. Беларусы не заслужылі такога негатыўнага стаўлення да яе культуры ад уладаў царскай Расіі. Яны зусім не жадалі лічыцца з тым, колькі карыснага атрымлівалі ад гэтага нацыянальна прыгнечанага народа на больш ранніх этапах гісторыі. Добра, што хоць яго ўклад у рускую культуру прызнавала прагрэсіўная, далёкая ад вялікадзяржаўных памкненняў частка інтэлігенцыі царскай імперыі. Вось да прыкладу як характарызаваў гістрычную ролю беларускай народнасці вядомы рускі фалькларыст-славіст, гісторык, літаратуразнавец Пётр Бяссонаў (1828 – 1898): *“Язык свой наложила она на большую часть других представительных народностей, с языком грамоту, с тем и другим мир воззрений, а с сим посредствующим проводником все прочие самобытно-цивилизующие начала: на домашнюю беседу, на общественную речь, на письмо всех гражданских и даже отчасти государственных дел, на первые училища, на слово и песнопение церкви”*. Здорава сказана! Удумайцеся ў гэтыя словы беларускія нігілісты з ліку палітыкаў і інтэлектуалаў.

* * *

Пераважная бальшыня сучасных беларускіх палітыкаў і інтэлігенцыі не валодае роднай мовай нават як камунікатыўным сродкам, г. зн. не з’яўляюцца і спажыўцамі яе. А ў іншых жа народаў гэтыя прывілеяваныя станы грамадства з’яўляюцца актыўнымі творцамі роднага слова, разам з

усім народам узбагачаюць яго моўную спадчыну. А мы ўсё руйнуем і руйнуем яе і з дапамогай дзяржавы, і з дапамогай створаных ёю культурна-асветніцкіх інстытутаў.

* * *

Проста недаравальна, што ў сітуацыі, калі ў выніку рускай культурна-моўнай асіміляцыі пушчаны на поўны звод беларускі народ яго лінва-сацыёлагі так і не выпрацавалі для дзяржавы навуковай канцэпцыі па разумным рэгуляванні моўных працэсаў. Дзіву даешся, каб у шматлікім асяроддзі філолагаў Інстытута мовазнаўства і літаратуры Нацыянальнай акудэміі навук Беларусі, на факультэтах і аддзяленнях беларускай мовы вышэйшых навучальных устаноў не знаходзілася і пяці – дзесяці вучоных, якіх па-сур'ёзнаму хваляваў бы рэальны стан сучаснай беларускай мовы, якія мелі б жаданне выпрацаваць для адпаведных дзяржаўных органаў праграму выратавання роднай мовы карэннага насельніцтва суверэннай краіны ад поўнага заняпаду, што ў канчатковым выніку паслужыла б і выратаванню ад канчатковай дэнацыяналізацыі самога гэтага насельніцтва. Выходзіць, няма такіх вучоных-філолагаў, хаця і надзелены яны самымі высокімі навуковымі ступенямі і званнямі. У выніку дзяржаўныя органы не маюць у сваім распараджэнні навуковай праграмы па нармалізацыі моўнага становішча ў краіне і развязваюць гэтае лёсавызначальнае для беларусага народа пытанне далёка не кампетэнтна альбо зусім пакідаюць яго па-за межамі сваёй палітыкі.

У мяне складваецца ўражанне, што сучасныя і вучоныя-філолагі і палітыкі альбо не здольныя на выпрацоўку і правядзенне ў жыццё такой канцэпцыі, альбо проста згубілі ўсякую веру ў магчымасць выратавання беларускай мовы і таму не імкнуцца прывесці яе ў такі стан, які характэрны мовам карэнных народаў усіх цывілізаваных краін свету. Калі і сапраўды згублена такая вера, дык гэта ўжо смяротная трагедыя для беларускай мовы, бо на ёй неўзабаве могуць перастаць тварыць здольныя да літаратурнай, навуковай дзейнасці людзі. Тут нельга не пагадзіцца з асецінскім пісьменнікам Нафі Джусойты, які пісаў, што "нельга жыць і ствараць што-небудзь значнае без мары, без далёкай перспектывы, без надзеі на будучае". [1]

* * *

Вялікі гонар зведваеш пра нашую інтэлігенцыю, калі знаёмішся з яе ўкладам у ажыццяўленне грандыёзнай праграмы міжваеннай беларусізацыі. Асабліва вялікая заслуга ў гэтым навукоўцаў, прычым не

толькі ў тэарэтычным, але і практычным плане. Як усяго этага нестае на сёння! Няўжо яны не бачаць, як сплывае ў багну ўсё нацыянальнае з духоўнага жыцця краіны, як яно напаўняецца чужымі культурнымі набыткамі? Сёння, мо як ніколі раней дамінантай усёй дзейнасці інтэлігенцыі, асабліва навукоўцаў, павінна стаць тэрміновая выпрацоўка канцэпцыі па захаванні беларускага народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці планеты Зямля. Усялякае вызначэнне яго як нейкага адгалінавання рускай нацыі, у якога нібыта спрадвеку не было ні ўласнай дзяржавы, ні адметнай культуры і мовы, трэба лічыць за найвялікшае злачынства, незалежна ад таго, ад каго зыходзіць такая фальсіфікацыя. Нацыянальна-актыўная інтэлігенцыя павінна вельмі аператыўна адклікацца на ўсе перамены, што адбываюцца ў грамадстве, быць здольнай у любой, нават самай экстрэмальнай сітуацыі хутка знаходзіць і ўказваць народу верныя шляхі пазбаўлення яго ад далейшай русіфікацыі. Пры самым непасрэдным удзеле сучасных дзяржаўных улад яна ўжо дайшла да крытычнай мяжы, пераступіўшы якую пра

[1] Нафи Джусойты. О национальной самобытности писателя. Вопросы литературы. 1968. № 19. С. 35.

беларускі народ трэба будзе гаварыць толькі ў мінулым часе, як гэта мы сёння робім у дачыненні да сваіх колішніх супляменнікаў Смаленшчыны, Браншчыны і Пскоўшчыны.

* * *

Духоўная інтэграцыя Беларусі і Расіі, да чаго так актыўна і паслядоўна вядуць народы гэтых краін іх палітыкі, ідэолагі, значная частка інтэлігенцыі, ва ўсіх выпадках павінна адбывацца толькі ў форме беларуска-рускай культурна-моўнай разнастайнасці, інакш нам не ўхіліцца ад асіміляцыі, этнічнага вымірання аднаго з іх. І ім з поўнай верагоднасцю можна сцвярджаць будзе не рускі, а беларускі народ, які ўжо і сёння амаль не вызначаецца сваёй этнакультурнай адметнасцю і стабільнасцю, мае вострую патрэбу не ў амбулаторным, а стацыянарным клінічным лячэнні з прыцягненнем самых найлепшых спецыялістаў гэтай галіны, не выключаючы і замежных, бо айчынныя не бачаць асаблівай пагроазы ў такой хваробе. Колькасць беларускамоўнай інтэлектуальнай эліты да такой ступені мізэрная, што зусім рэальна ўзнікае пытанне: А ці наогул яна возьмецца за нацыянальна-культурнае адраджэнне свайго народа без падтрымкі якіх-небудзь знадворных сіл? А яны ёсць, бо прагрэсіўныя колы Еўропы зусім не абыякавыя да

знікнення на яе этнічнай карце аднаго з народаў з багатай гісторыяй, адметнай ад іншых культурай. Нам толькі трэба хутчэй давесці да ведама цывілізаваных інстытуцый, найперш еўрапейскага кантыненту, пра сваю бяду і, не баючыся, расказаць, па чыёй віне яна нас апанавала.

* * *

Ад руйнавальнага ўздзеяння магутнага рускага ўплыву на знясілены ім беларускі арганізм не могуць выратавацца нават тыя, хто па самых розных прычынах павінен бы быць актыўным носьбітам нацыянальных культурна-моўных традыцый. Беларусь з поўнай падставай ганарыцца літаратурным талентам свайго слыннага сына Івана Чыгрынава. А вось яго брат Пётр (маладзей на тры з паловаю гады) у чэрвені 2012 г. стаў сябрам праўладнага, слаба ўпісанага ў канву нацыянальнага жыцця Саюза пісьменнікаў Беларусі, выдаўшы на руcкай мове (падкрэслена мною. – *Л.Л.*) раманы: “Тайна Великого князя” (2010) і “Под тремя коронами” (2011). Во як умее наша творчая інтэлігенцыя “ўзбагачаць” нацыянальны культурны патэнцыял Бацькаўшчыны, захоўваць, прымнажаць яе прыродныя традыцыі! Сорам, дый годзе! Жылі б дзе-небудзь на ўскрайку Еўропы, дык такія парокі не так кідаліся б у вочы. А тут, як на зло, трэба ж такой нацыянальна занядбанай краіне, што сілкуецца чужой культурай і мовай жыць у самім сэрцы Еўропы. Во нейкая сатана пакарала дык пакарала нас! Звярну ўвагу і на такі факт: да з’яўлення ў свет вышэйпералічаных кніг П.Чыгрынава ў мінулым у яго быў і шэраг беларускамоўных прац, асабліва навуковага характару. Відаць магутныя абароты махавіка дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі выбілі ў аўтара ўсялякую надзею на захаванне беларускай мовы, таму пагадзіўся ўзяць у якасці рабочай рускую, навязаную некалі нашаму краю выключна каланіяльнымі метадамі, так любімымі ўладамі не толькі царскай Расіі, але і суверэннай Рэспублікі Беларусь. Як сведчыць практыка апошніх гадоў, яе чыноўніцкі апарат працуе ў кірунку русіфікацыі з больш высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння, чым раней, таму гарантыі практычна самыя надзейныя, што і ў далейшым шэрагі членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі будуць актыўна папаўняць тыя, хто раней выдаваў кнігі на роднай мове тытульнага народа, а пазней пад уплывам “узважанай глыбокапрадуманай” дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь стаў пісаць па-руску. А што гэта лье ваду на кола русіфікацыі, майстры мастацкага, публіцыстычнага слова, якія больш за ўсе катэгорыі творчай

інтэлігенцыі ў адказе за захаванне этнічнай самабытнасці беларускага народа, ніколькі не задумваюцца. Не сумняваюся, час іх не апраўдае.

* * *

Страшэнна турбуе, непакоіць павальная адарванасць адораных ад прыроды людзей ад сваёй нацыянальнай культурнай нівы. На гістарычнай тэрыторыі беларусаў наша творчая інтэлігенцыя з большай актыўнасцю працуе дзеля росквіту рускай, чым нацыянальнай культуры. І як вынік, на ніве духоўнага жыцця Рэспублікі Беларусь моцна буяе – і даволі працяглы час – чужароднае пустазелле, заглушаючы яе нацыянальную культуру. За такое негатыўнае, абыякавае стаўленне да ўласнага, роднага некалі і зараз многія народы развіталіся і развітваюцца са сваёй самабытнасцю, пераўтвараючыся ў бесструктурнае этнічнае месіва. Меў рацыю англійскі вучоны Энтані Сміт сцвярджаць, што толькі “воля да нацыяналізму забяспечвае нацыям існаванне”. У пераважнай бальшыні беларускай творчай інтэлігенцыі, не выключаючы і элітных пластоў, такая воля адсутнічае.

* * *

Празмерна шырокае выкарыстанне рускай мовы дзяржаўнай уладай, прычым яшчэ нават да абрання Аляксандра Лукашэнкі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, сталася прычынай для апазіцыі заняць дыяметральна працілеглую пазіцыю ў дадзеным пытанні. Мова пераўтварылася ў асноўны крытэрый вызначэння, на якім баку барыкады знаходзяцца тыя ці іншыя палітычныя сілы. Рускамоўныя выступалі і выступаюць прыхільнікамі рэжыму Лукашэнкі, усебаковай (уключаючы і палітычную), самай цеснай (аж да страты нацыянальнага суверэнітэту) інтэграцыі з Расіяй, беларускамоўныя былі і застаюцца актывістамі розных нацыянальна-вызваленчых рухаў, упартымі незалежнікамі. Можа хтосьці з бюджэтнай часткі інтэлігенцыі і хацеў бы публічна карыстацца роднай мовай, пасылаць сваіх дзяцей ў нацыянальныя школы, але баіцца, каб за такое паважлівае стаўленне да моўнага пытання не трапіць у разрад апазіцыянераў усталяванай у нашай краіне ўладзе.

* * *

Даволі часта прыходзіць у галаў думка, што для значнай колькасці сучасных беларускіх вучоных-філолагаў іх родная мова была толькі сродкам самаадукацыі, атрымання жаданых навуковых ступеняў і званняў, а не чымсьці такім, без чаго яны сваё жыццё і жыццё ўласнага

народа лічылі б бязрадасным, трагічным. Каб у вучоных-мовазнаўцаў было іншае стаўленне да гэтага неацэннага духоўнага скарбу народнага, дык з такой абыякавасцю, раўнадушшам не суправаждалі б сваім позіркам яго пагібель, а ўсяляк імкнуліся б паўплываць на моўнае становішча. На здзіў усяму цывілізаванаму свету многім беларускім вучоным-філолагам, пісьменнікам, артыстам удаецца толькі ім самім вядомым спосабам выхаваць так дзяцей, што яны, стаўшы ўжо дарослымі, не валодаюць тытульнай мовай карэннага насельніцтва, дзякуючы даследаванням ці выкарыстанню якой у сваёй прафесійнай дзейнасці іх бацькі атрымалі розныя навуковыя ступені і званні, ходзяць у ранзе "народных" і "заслужаных". Калі б дзеці бацькоў, якія ядуць хлеб з беларускай мовы (а іх жа дзесяткі тысяч!) валодалі апошняй, то яе стан быў бы значна лепшым, чым ён ёсць у сапраўднасці.

* * *

Дзезерцірства беларускай інтэлігенцыі з уласнай культуры ў рускую можа спыніцца толькі тады, калі само кіраўніцтва краіны зразумее велізарную небяспечнасць такой антынацыянальнай з'явы і выкажацца пра сваю гатоўнасць з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу, праз выдзяленне неабходных матэрыяльных і фінансавых сродкаў падтрымаць, развіваць у сябе дома не чужую рускую, а сваю родную беларускую культуру. Пры сучаснай сітуацыі, калі велізарны пласт творчай інтэлігенцыі нахабна здрадзіў нацыянальнаму інтарэсу, ніяк нельга разлічваць, што яна зразумее сваю недаравальную памылку і адважыцца штосьці рабіць па яе выпраўленні. Вельмі ўжо моцна зрусіфікаваныя нашыя творцы. Мо толькі адзінкам з іх даходзіць, якую вялікую шкоду чыняць яны беларускай нацыянальнай культуры, збочыўшы з яе шляху.

## Адукацыя на службе русіфікатарскай палітыкі

Сведчаннем глабальнай адарванасці айчыннай сістэмы адукацыі ад нацыянальнага ідэалу найлепш за ўсё служыць факт, што сёння яна толькі 20 працэнтам агульнай колькасці школьнікаў забяспечвае навучанне на беларускай мове. У апошнія гады мінулага стагоддзя гэты працэнт складаў каля 40. Яшчэ ніколі ў сферы адукацыі так не ганьбілася ўсё нацыянальнае, як у суверэннай Рэспубліцы Беларусь. Яе кіраўніцтва не выказала ніякага хвалявання з той прычыны, што паводле перапісу насельніцтва 2009 г. толькі 23 працэнты жыхароў краіны карыстаюцца беларускай мовай, прычым робяць гэта не на людзях, не пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, а пераважна ў сем'ях, у вузкім коле аднадумцаў, што не можа хоць трохі паўплываць у лепшы бок на сучасную моўную сітуацыю. Яна ніяк не адпавядае беларускаму нацыянальнаму інтарэсу, ніколькі не сведчыць, што Рэспубліка Беларусь – гэта самадастатковая ў этнакультурным плане краіна, што таксама не дае права гаварыць і пра яе поўнавартасны дзяржаўны суверэнітэт. З'яўляючыся сапраўднай калоніяй Расійскай Федэрацыі ў культурна-моўным плане, Беларусь ніяк не можа самастойна будаваць сваю дзяржаўнасць. Планамерна сфармаваная на сёння амаль поўная культурна-моўная тоеснасць (заўважу: руская) паміж Рэспублікай

Беларусь і Расійскай Федэрацыяй робіць першую ва ўсіх дачыненнях сапраўднай заложніцай другой.

* * *

Кожнага неабыякавага да лёсу беларускай мовы чалавека хвалявала і працягвае хвалюваць яе сірочае становішча ў дзяржаўным і грамадскім жыцці. Пашырыць рамкі выкарыстання роднай мовы ў ім непадуладна якім-небудзь нацыянальнай арыентацыі грамадскім арганізацыям. Гэта прэрагатыва, абавязак вышэйшых органаў улады. Таму невыпадкова да іх так часта звяртаюцца непасрэдна ці праз афіцыйныя і неафіцыйныя сродкі масавай інфармацыі прагрэсіўныя колы грамадства з настойлівай просьбай не даць загінуць роднаму слову тытульнага народа нашай краіны. Іншым разам дзяржаўны чыноўніцкі апарат хоць збольшага ды рэагуе на такія просьбы, прымае адпаведнага характару нарматыўныя акты. Тут можна назваць такія найбольш адметныя пастановы: “Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі” (2001 г.), “План мерапрыемстваў у сістэме Міністэрства адукацыі па папулярызацыі і пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства на 2010 і наступныя гады”. У іх утрымліваюцца і слушныя прапановы, толькі вось бяда, нічога канкрэтнага не робіцца па іх пераўтварэнні ў практыку. І як вынік, становішча беларускай мовы ў такой важнай для захавання ад асіміляцыі беларускай нацыі сферы – адукацыі не толькі не паляпшаецца, а, наадварот, пагаршаецца. На працягу ўсіх гадоў новага стагоддзя з ёю ніводная сфера не можа параўнацца па сваім укладзе ў русіфікацыю беларусаў.

* * *

Сустракаў людзей, якія ўпэўнена сцвярджаюць, калі народ у самым масавым парадку і рашуча не выступае супроць антынацыянальнай палітыкі ўлады ў дачыненні да беларускай адукацыі і мовы, значыцца ён сам таго жадае. Усё гэта не так. Наш жа народ, да прыкладу, ні разочку не выйшаў на вуліцы, каб заявіць пратэст з прычыны гвалтоўнага адабрання пакладзеных ім за савецкім часам грошай ў ашчадныя касы ці рэзкага павышэння цэн на прамысловыя і прадуктовыя тавары, хаця ў гэтых двух выпадках ён лічыць сябе вельмі пакрыўджаным. Таму і не рэагуе сярэднестатыстычны беларус, што аднаму яму ў Еўропе не забяспечана права на нацыянальную адукацыю, што толькі ў яго краіне чужая мова з’яўляецца фактычна дзяржаўнай.

* * *

Пры ўсім жаданні сёння ўжо не знайсці нічога такога, каб яшчэ больш зрусіфікаваць навучальна-выхаваўчы працэс ва ўсіх установах сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь. Калі ў гэтым дзесьці і адчуваюцца недапрацоўкі, дык гэта хутчэй за ўсё па віне ”нядбайных” настаўнікаў. Дзяржава тут ні прычым. Уяўляю, як яе палітыкай былі б задаволены ўсіх часоў рускія вялікадзяржаўныя шавіністы, асабліва ў пачатку мінулага стагоддзя, калі актывізаваўся нацыянальны рух на шырокіх абсягах імперыі. Заціяты праціўнік яго, з нашага краю праваслаўны святар К.Акаловіч, на адным з пасяджэнняў 3-й Дзяржаўнай думы Расіі настойліва запэўніваў дэпутатаў, хаця і з вялікім апярэджваннем часу, што ў беларусаў у жылах “цячэ руская кроў і ў грудзях б’ецца рускае сэрца, таму школы ў Беларусі павінны быць нацыянальна-патрыятычнымі ў рускім духу”. [1] Спі спакойна айцец русафіл: сістэма адукацыі Рэспублікі Беларусь у поўнай меры забяспечвае такі высокі дух яе маладым пакаленням.

[1] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст. Кн. 1. С. 294

* * *

Мала хто з нацыянальна зарыентаванх людзей нашай краіны можа спакойна ставіцца, што ў 2012 г. дзя ўдзелу ў цэнтральным тэставанні на здачу іспытаў па рускай мове зарэгістравалася 96 тысяч абітурыентаў, а па беларускай – толькі 45 тысяч. [1]

* * *

Нацыянальная адукацыя – гэта элексір жыцця кожнага народа. Нам яе стагоддзямі не давалі, прычым улады суседніх славянскіх краін. Таму мы і маем такую бедную гістарычную памяць, цураемся роднай культуры і мовы, абыякавыя да таго, захаваемся як самабытны этнас ці пераўтворымся ў бесструктурную, безаблічную масу, будзем утрыманцамі духоўных каштоўнасцяў суседніх народаў, не баючыся бясследна растаць, знікнуць у іх асяроддзі. Калі ж дзяржава не пойдзе на стварэнне нацыянальнай адукацыі, адпадуць усялякія падставы гаварыць пра яе (дзяржавы) намер выратаваць беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі

* * *

Своеасаблівасцю сучаснага духоўнага жыцця нашай краіны з’яўляецца досыць прыстойная прысутнасць у ім культуры яе шматлікіх этнічных груп пры адначасовым заняпадзе беларускамоўных пластоў культуры тытульнай нацыі. Адзначу, што гэта выключна рэдкі выпадак для сусветнай цывілізацыі, яе суверэнных дзяржаў. Велізарную адказнасць перад народам за занядбанне яго беларускай нацыянальнай культуры нясе наша хвалёная рускамоўная народная адукацыя. Але робіць яна
гэтую ганебную справу з ініцыятывы дзяржавы. Такога дурнога прыкладу ўжо не так проста знайсці і на азіяцкім кантыненце. І да якое пары Рэспубліка Беларусь будзе здзіўляць свет сваім дзяржаўным нацыянальным нігілізмам?

* * *

Уяўная палітычная незалежнасць Беларусі нічога не дала дзеля стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, хаця сусветным досведам

[1] Наша слова. 2012. 20 чэрвеня.

пераканаўча даказала, што без такой адукацыі народ ніяк не можа сцвярджацца ў сваёй этнакультурнай самабытнасці. Каб Беларусь і сапраўды з’яўлялася
суверэннай дзяржавай, абавязкова збываліся б звязаныя з такім яе статусам прадраканні нашага вядомага нацыянальнага адраджэнца Язэпа Лёсіка: “…тагды не будзе таго, каб цэлы край, заселены народам з светлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлены быў вышэйшых навучных інстытутаў (меў на ўвазе беларускамоўных. – Л. Л.) і праз сотні год не мог вярнуць таго, што ў яго адабралі гвалтоўна…” Не вярнулі і пакуль што не збіраюцца гэтага рабіць.

У кантэксце сучаснага, як ніколі, разбалансаванага нацыянальна-культурнага жыцця ніяк не ўпісваюцца паводзіны абсалютнай бальшыні нашага настаўніцтва. Затое яно мо на ўсе сто працэнтаў задавальняе ўладу. Глядзіце, якой надзейнай апорай яе з’яўляюцца настаўнікі пры правядзенні featureзнага роду палітычных мерапрыемстваў, асабліва пад час выбарчых кампаній. Зразумела, многае тут тлумачыцца існаваннем у краіне аўтарытарнай, а можа больш правільна будзе напісаць таталітарнай формы кіравання грамадствам. Каб зацятыя адраджэнцы асабліва не крытыкавалі педагагічную інтэлігенцыю за яе абыякавае ,а то і адмоўнае стаўленне да ўсяго таго, што звязана з сучасным нацыянальна-культурным рухам, пакажу, спасылаючыся на інфармацыю вядомага нашага грамадска-палітычнага дзеяча, мовазнаўца Язэпа

Лёсіка, што і раней такое – а мо яшчэ і горшае – назіралася. Датычыла тая інфармацыя падзей, калі яшчэ толькі-толькі вялася гаворка пра стварэнне нацыянальных школ. Распачалі ж яе ў 1917 г. на сялянскім з'ездзе дэпутатаў Віленскай і Мінскай губерняў, які праводзілі бальшавікі на чале з Міхаілам Фрунзе. А цяпер слова Я.Лёсіку: "Дайшло да таго, што на сялянскім з'ездзе нашы сяляне перад усім светам адракліся і ад саміх сябе, і ад мовы свае, і ад усяго беларускага. "Не трэба нам беларусаў, далоў беларусаў!" крычалі сяляне і вучыцелі-беларусы, сціскаючы кулакі і бліскаючы вачыма". А вось за свае ўзважаныя, смелыя паводзіны ў час міжваеннай беларусізацыі настаўнікі заслугоўваюць толькі адной пахвалы, асабліва тыя з іх, што паканчалі савецкія навучальныя ўстановы педагагічнага профілю. Не ў прыклад сённяшнім рабочай мовай у іх была беларуская. Праўдзівыя, дастаткова поўныя звесткі давалі і па айчыннай гісторыі. Дзякуючы настаўнікам высокай нацыянальнай самасвядомасці вызначаныя дзяржавай тэрміны беларусізацыі школ ніколі не парушаліся. І нават калі па ўказцы Маскоўскага Крамля мясцовыя бальшавікі аб'явілі ёй сапраўдны бой, а затым разам са спецслужбамі на выдатна справіліся з правядзеннем у 1937 – 1938 гг. масавых фізічных рэпрэсій, пад нож якіх трапіла і самая краса педагагічнай інтэлігенцыі, сістэма адукацыі Беларусі, на здзіў, не страціла свайго нацыянальнага аблічча. У 1940/41 навучальным годзе прыкладна 90% вучняў агульнаадукацыйных школ навучаліся па-беларуску! Вось бы сёння нам такіх настаўнікаў-змагароў за беларускую нацыянальную школу!

За пройдзены пасля майскага 1995 г. рэферэндуму час, каб і моцна жадаў, нічога не знайшоў бы такога ў практыцы дзейнасці ўладаў, каб можна было пахваліць іх за ўвагу да беларускай мовы. Апошняя нібыта зусім не існуе для чыноўніцкага апарату. А яна ж самая-самая дарагая духоўная каштоўнасць беларускага народа, са стратай якой немінуча прыйдзе яго скон.

* * *

Каб лёс наканаваў кіраўніку паўстання 1863 – 1864 гг. Кастусю Каліноўскаму падняцца з магілы і пазнаёміцца са станам спраў у сучаснай сістэме адукацыі, ён, бясспрэчна, характарызаваў бы яе словамі з чацвёртага нумара газеты "Мужыцкая праўда": "У нас, дзецюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаць па-маскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабіць на маскаля".

* * *

Нашая сучасная да краёў напоўненая русіфікацыяй адукацыя проста бездакорна выконвае сфармуляванае больш за сто гадоў таму (3 красавіка 1908 г.) міністрам народнай асветы Расіі А Шварцам прадпісанне: “Кіруючым пачаткам павінна быць адзіная руская дзяжаўная школа на ўсіх яе ступенях і для ўсіх без выключэння (у Рэспубліцы Беларусь яна ёсць. – *Л.Л.)*… Ва ўсіх навучальных установах павінна няўхільна і строга праводзіцца навучанне і выхаванне ў духу любові да рускай народнасці і рускіх ідэалаў” (і гэтага шчасця хапае ў нас!).

* * *

Па сутнасці ўжо з першых пасляваенных гадоў сфера адукацыі Беларусі, асабліва яе самыя высокія прафесійныя звёны, сталі асвойваць – і даволі паспяхова, бесканкурэнтна – ролю этнічнага плавільнага катла. Ніводзін выпускнік тэхнікума (вучылішча), інстытута (універсітэта) не быў падрыхтаваны як беларускамоўны спецыяліст. Пасляваенная інтэлігенцыя фармавалася, за выключэннем настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, у поўным адрыве ад нацыянальнай культурна-моўнай асновы Беларусі.

* * *

Як ні цяжка такое прызнанне, але павінен сказаць, што з чужой ласкі сучасныя пакаленні беларускага народа так шагнулі ўперад па добра ўезджаным шляху русіфікацыі, што ён (народ) стаўся зусім няздатным да нацыянальна-культурнага самаадраджэння. У першую чаргу на гэта патрэбны магутная воля дзяржавы, чаго ў нас неназіраецца, поўнае запанаванне і плённая дзейнасць беларускамоўнай сістэмы адукацыі ад дзіцячага сада да ўніверсітэта, адсутнасць канкурэнцыі паміж беларуска- і рускамоўнай культурамі. Апошняя павінна выступаць толькі ў ролі неістотнага нейкага дадатку да нацыянальнай культуры.

* * *

Калі наша пакалечаная сістэма адукацыі не можа забяспечыць сваім навучэнцам добрае валоданне беларускай мовай, не дае ім глыбокіх аб’ектыўных ведаў па айчыннай гісторыі, такая сістэма адукацыі з’яўляецца цалкам заганнай і падлягае неадкладнаму расфармаванню з тым, каб яе месца заняла новая, здольная ўзгадоўваць маладыя пакаленні ў нацыянальным духу.

* * *

Далучаныя ў рознай ступені да сучаснага беларускага нацыянальнага руху асобы ніяк не могуць пагадзіцца з існаваннем у нас практычна толькі адной тыпова рускай адукацыі. На такой пазіцыі стаю і я. Але калі па-сур'ёзнаму ўнікнуць у сутнасць гэтага зла, дык яго ніяк нельга пазбавіцца ў нашых варунках, калі ў краіне ў статусе рэальна дзяржаўнай бытуе толькі адна мова – руская. Больш за сто гадоў таму епіскап Магілёўскі Мітрафан у час свайго выступлення ў 3-й Дзяржаўнай думе (1907 – 1912 гг.) гаварыў: "Цудоўная руская мова як дзяржаўная (падкрэслена мною. – *Л.Л.*) павінна быць ва ўсіх школах без выключэння мовайвыкладання".[1] Дык чаму ж не пакарыстацца такой "разумнай" парадай духоўнай асобы і нашым уладам, якія так удала, даволі хутка зрабілі рускую мову фактычна адзінай дзяржаўнай.

---

[1] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст. Кн. 1. С. 291.

* * *

Толькі 50-працэнтнае выкладанне дысцыплін на беларускай і столькі ж на рускай мовах ва ўсіх тыпах дзяржаўных і недзяржаўных навучальных установаў зробіць нашую моладзь здольнай у аднолькавай ступені вольна карыстацца дзвюма мовамі. Абавязак органаў народнай адукацыі, педагагічных калектываў растлумачыць навучэнцам і бацькам іх пільную, вострую неабходнасць правядзення такой моўнай палітыкі ва ўсіх нашых навучальных установах. Ніякага выключэння з гэтага правіла не можа быць, чаго патрабуюць і ўмовы майскага рэферэндуму 1995 г. аб усталяванні ў рэспубліцы роўнасці беларускай і рускай моваў.

* * *

Мяне моцна ўражвае зусім не апраўданы зайздросны спакой абсалютнай бальшыні палітыкаў, інтэлектуалаў датычна будучыні беларускай нацыі, спецыяльна падкрэсліваю нацыі, а не якой-небудзь бесструктурнай біялагічнай масы. Дарэчы, у Расіі такіх асобаў нестае. Яны адкрыта выказваюць сваю крайнюю занепакоенасць лёсам яе тытульнага народа ўжо даўно і на самым высокім узроўні вядуць размовы пра яго нацыянальнае выміранне. Спецыялістамі падлічана, што ў Расіі руская нацыя вымірае з тэмпам прыкладна адзін мільён чалавек у год. Такую лічбу прывёў і палітычны сакратар Нацыянальна-рэспубліканскай партыі Расіі Н.Паўлаў у сваёй прадмове да кнігі прафесара Пятра Хамякова "Национал-прогрессизм. Теория и идеология

национального выживания и развития России” (М. 1994). Хвалююць рускіх патрыётаў і негатыўныя ўплывы глабалізацыі на іх нацыянальную культуру. У нас жа такая праблема не асвятляецца на афіцыйным узроўні, паколькі ў этнічным заняпадзе беларусаў якраз вінаватыя ўладныя структуры, што праводзяць іх русіфікацыю.

* * *

У самы пік нашага нацыянальна-культурнага Адраджэння канца 80-х – пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя сяго-таго з палітыкаў, вучоных, педагогаў не задавальняў тэрмін пераводу сферы адукацыі на беларускую мову: лічыўся занадта кароткім. Сур’ёзных падстаў гаварыць так пра яго не было і няма. Бо тут жа размова ідзе пра пераход з адной да другой вельмі блізкіх паміж сабой роднасных моў. Заўважу, што калі ў шматмоўнай Індыі было вырашана ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1950 г. ажыццявіць пераход з англійскай мовы на хіндзі, тэрмін вызначаўся 15-цю гадамі, намала больш, чым у нас у адпаведнасці з прынятым 26 студзеня 1990 г. Законам “Аб мовах у Беларускай ССР”.

* * *

Без стварэння нацыянальнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ніякая прафесійна адладжаная ідэалагічная праца не прымусіць бацькоў аддаваць сваіх дзетак у агульнаадукацыйныя школы з беларускай мовай навучання, нават замацаваўшы за кожнай з іх у якасці агітатара па аднаму пісьменніку, вучонаму, артысту ці дэпутату нашага парламента. Прагматызм пераможа ўсялякую агітацыю.

* * *

Дзеля адвучэння беларусаў пазіраць на сябе як на самабытны этнас, які ў такім выпадку трэба ўсяляк шанаваць, развіваць, захоўваць культурна-моўную адметнасць, многія палітыкі і блізкія ім па духу вучоныя пераконваюць яго ў зусім адваротным, нахабна заяўляючы, што пры поўным завяршэнні русіфікацыі насельніцтва нашага краю куды лягчэй будзе здзейсніць ідэю палітычнага аб’яднання апошнягя з Расіяй. Вось адзін з узораў такіх выдумак, які належыць Льву Крыштаповічу: “Беларус, як вялікарос і ўкраінец паводле свайго светасузірання, практычнага жыцця і культуры (з апошняй пазіцыяй можна пагадзіцца, бо і сапраўды ўжо колькі часу, як у самых элітарных пластах культуры руская практычна цалкам адсунула на задні план беларускую. – *Л. Л.*) з’яўляецца рускім чалавекам (шкада, што аўтар не пайшоў далей і не

патлумачыў, а часам рускі чалавек не з’яўляецца беларускім? – *Л. Л.*), а Беларусь, як Расія і Украіна, складае частку адзінай рускай цывілізацыі (дык можа і Расія частка беларускай цывілізацыі? – *Л. Л.*). Таму для беларуса руская мова такая ж родная, як і беларуская (а як быць з рускімі: для іх беларуская мова такая ж родная, як руская? – *Л. Л.*). І пытанне: на якой мове (беларускай ці рускай) ён вучыцца і размаўляе, – з’яўляецца пытаннем не нацыянальным, а асабістага пажадання, асабістай зручнасці”. [1] Каментарыяў да працытаванага зусім не патрэбна, як не патрэбна нам і ўсялякая нават самая сімвалічная беларускасць, бо гэта, на думку многіх зацятых праціўнікаў яе, толькі шкодзіць сапраўднай рускай справе. Падобнага сказанаму беларусам Л.Крыштаповічам пра свой беларускі народ (а можа гэта не яго?) не сустракаў у працах рускіх аўтараў. Ну як тут не пазайздросціць беларусам, што маюць легіён такіх інтэлігентаў уласнай гадоўлі?! Без іх

[1] Славянскі набат. 1999. 16 – 22 ліпеня. С.3.

краіна яшчэ сёння не выйшла б на канцавы рубеж русіфікацыі тытульнай нацыі.

* * *

Для разумных людзей, асабліва пісьменнікаў, не з’яўлялася сакрэтам, што майскім рэферэндумам 1995 г. не ўдалося зняць з парадку дня так даўно набалелую моўную праблему. Наадварот, яна толькі абвастрылася, пра што не маглі маўчаць смелыя, сапраўдныя беларускія нацыянальныя патрыёты. Іх нямала прысутнічала ў кастрычніку 1998 г. на з’ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сваёй прысутнасцю ўважыў яго і сам Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Праўда, выступ яго пакінуў у многіх вельмі вялікае расчараванне, асабліва такім павіслым у паветры сцвярджэннем: “…пытанне двухмоўя ўжо вырашана: у Беларусі роўнасць моў – і рускай, і беларускай”. У рэальнасці ж краіна да яго развязвання яшчэ нават і не прыступала. У такіх выпадках звычайна пачынаюць з адукацыі, культуры, саміх дзяржаўных органаў улады і кіравання. У гэтых ды ў многіх іншых прэстыжных сферах руская мова па-ранейшаму выступала ў ролі Голіафа, а беларуская задавальнялася роляй Папялушкі. Сказанае вельмі пераканаўча пацвярджалі моўны рэжым вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы, пасяджэнні дзвюх палатаў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Хаця я не верыў і не веру ў рэальнасць двухмоўя (рана ці позна адна з моваў абавязкова праглыне другую), усё ж паразважаю наконт гэтай з’явы, паколькі яна і да згаданага з’езду не раз уздымалася ў сустрэчы афіцыйных асобаў з пісьменнікамі. Лічу, што дадзеную праблему трэба вырашаць на самым высокім дзяржаўным узроўні з удзелам і вучоных адпаведнага профілю, пісьменнікаў, педагогаў. Без дзяржавы яе не зрушыць з месца. Таму не магу пагадзіцца са зваротам А.Лукашэнкі да пісьменнікаў: “Што датычыць мовы, дык ураўнаважыць моўную праблему – гэта вы павінны былі зрабіць, а не я. Не крычаць на вуліцах, не з транспарантамі хадзіць (а рабілася ўсё гэта толькі з прычыны таго, што дзяржава зусім не клапацілася пра стан беларускай мовы. – *Л. Л.*), а ўраўнаважыць яе”. Такога ж жаданага выніку можна дасягнуць толькі праз прыняцце і выкананне адпаведных нарматыўных актаў, якія звычайна распрацоўваюцца спецыялістамі-юрыстамі супольна з кампетэнтнымі ў гэтым пытанні навукоўцамі. Не сумняваюся, што ўсё слушнае, што ім удаецца выпрацаваць, абавязкова знойдзе падтрымку не толькі ў беларускіх пісьменнікаў, але і ва ўсіх здаровых пластах нашага народа. Яшчэ раз паўтаруся: без удзелу дзяржавы моўная праблема будзе працягваць заставацца неразвязанай, рэальна пагражаючы этнічнаму існаванню беларусаў.

## Беларуская мова – ізгой  у суверэннай Рэспубліцы Беларусь

Не раз даводзілася чуць і чытаць: “Беларускі народ цураецца сваёй роднай мовы”. Не. Да такой дурноты ён не дайшоў і не дойдзе. Проста адбываецца яго прыстасаванне да моўнага рэжыму, які дзяржава гвалтоўна навязвала ўсім сферам грамадскага жыцця ў краіне. У той сітуацыі, у якой ужо не адно стагоддзе знаходзіцца беларускі народ, такое стаўленне да роднай мовы назіралася б у рускіх, палякаў, літоўцаў, латышоў… Нам проста трэба стварыць адпаведны ўрад, які адраджэнне беларускай мовы лічыў бы праблемай нумар адзін сваёй дзяржаўнай палітыкі. Тады праз пяць – дзесяць гадоў адбыўся б карэнны пералом у поглядах і дачыненнях беларусаў да свайго самага каштоўнага скарбу – роднай мовы. Паколькі заяўленне такога адданага беларускай нацыянальнай ідэі ўрада не прадбачыцца, галоўная задача заключаецца не ў тым, каб мітынгаваць, ладзіць пікеты, бо імі не прымусім нацыянальна нігілістычны дзяржаўны апарат штосьці змяніць у гэтай сферы палітыкі. Нам у першую чаргу трэба захаваць тое, што маем ад роднай мовы, і як толькі можна пашыраць кола яе шчырых носьбітаў. Рана ці позна прыйдуць да стырна ўлады сапраўдныя нацыянальныя патрыёты і выратуюць ад асіміляцыі гэты самабытны ў мінулым славянскі народ. Ён, як усе цывілізаваныя народы свету, загаворыць на роднай мове, заспявае на ёй песні бацькоўскай зямлі. А такое рэальна

толькі тады, калі беларуская мова стане юрыдычна і фактычна адзінай дзяржаўнай мовай краіны. Новага тут я нічога не сказаў. Такім шляхам ужо стагоддзямі крочаць усе еўрапейскія народы.

* * *

Сучасныя беларусы, як народ у чужой мове, не ў стане паспяхова развіваць нацыянальную культуру. На гэтае пакуль што здольная толькі невялікая жменька людзей з ліку пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў, навукоўцаў гуманітарнага профілю, настаўнікаў беларускай мовы, студэнтаў аддзяленняў беларускай мовы філалагічных факультэтаў ВНУ. І ўсё ж у беларусаў ёсць нацыянальная культура, але гэта культура іх далёкага і не так далёкага мінулага, створаная геніем Францішка Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багадановіча, Максіма Танка, Васіля Быкава і інш. Да багаццяў гэтай культуры звяртаюцца толькі тыя, хто яшчэ валодае беларускай мовай. Іх з кожным годам становіцца ўсё менш і менш, таму роля створанай у мінулым беларускай нацыянальнай культуры – у яе багацці, думаю, мала хто сумняваецца – вельмі хутка будзе зведзеная да нулявой адзнакі. Так што ведайце, шаноўныя палітыкі, чыноўнікі і прыкішэненая вамі інтэлігенцыя, куды вядзеце вамі ж адарваных ад нацыянальна-культурных асноў беларусаў.

* * *

Пасля майскага рэферэндуму 1995 г. беларуская мова стала пачуваць сябе як рыба, выкінутая з рэчкі на бераг. Як лёгка здагадацца чытачу: пачала здыхаць. Кожны сумленны чалавек цалкам пагодзіцца са мною, што той злачынны рэферэндум проста на выдатна справіўся з роляю гільятыны ў дачыненні да роднага слова беларусаў. Гэта толькі высокае кіраўніцтва краіны разам са сваім чыноўніцкім і ідэалагічным апаратамі лічаць, што майскім рэферэндумам канчаткова, самым дэмакратычным чынам развязана моўнае пытанне, а прысутнасць у афіцыйным, грамадскім жыцці толькі рускай мовы нахабна ацэньваецца як найвялікшае дасягненне ў гісторыі беларускага народа.

* * *

Трэба цвяроза лічыцца з моўным падзелам беларускай нацыі, што яе неразмытае русіфікацыяй этнічнае ядро па колькасці ў дзесяткі разоў уступае рускамоўнаму пласту. Крайне небяспечна, што такія суадносіны характэрныя, прычым нават у большай ступені для людзей, што стаяць

за стырном кіравання краінай, і для тых, хто ідэалагічна абслугоўвае іх дзейнасць, г. зн. інтэлігенцыі. Нашай праграмай-мінімумам павінна стаць: не дапусціць далейшага скарачэння беларускамоўнага пласта людзей, вучыць іх бясконца любіць матчына слова, нават на непавагу да яго дзяржавы.

* * *

Сапраўднымі гаспадарамі на роднай зямлі мы станем толькі тады, калі наша беларуская мова набудзе статус адзінай дзяржаўнай у краіне. Пакуль жа такое не адбудзецца, трэба да прыходу лепшых часоў неяк змірыцца з тым, што мы нявольнікі, жывем нібыта ў забраным чужынцамі краі, часта забываючы, што кіруюць то ім звычайна беларусы па нацыянальнасці.

* * *

Ёсць – прычым нямала – шчырых рупліўцаў беларускай мовы, якія з усёй сур’ёзнасцю лічаць, што апошнюю можна выратаваць ад поўнага заняпаду праз штодзённае, паўсюднае выкарыстанне яе ў неафіцыйных міжасобасных зносінах людзей. Бясспрэчна, для мовы вельмі важна прысутнічаць на вуснах людзей, быць масавым камунікатыўным сродкам у сем’ях, на вуліцах, у скверах, парках, і іншых публічных месцах, але гэта ніколькі не гарантуе паступовага яе адмірання, тым больш у наш час, калі такой велізарнай лавінай навальваецца на нас не ў роднай мове разнастайная інфармацыя. Яе ўздзеянне на грамадства ў тысячы разоў мацней за паслугоўванне людзьмі сваёй роднай мовай падчас міжасобасных кантактаў.

* * *

Толькі родная мова нацыі з’яўляецца яе залатым фондам, асвятляе шлях у будучыню. Навязаная нацыі чужая мова – друз, шлях у нябыт. Калі хтосьці ў гэтым сумняваецца, пільна ўгледзьцеся ў сучасную беларускую нацыю: яна з-за страты мовы патанае, захлынаецца чужой культурай, нічога арыгінальнага, самабытнага не дае цывілізаванаму свету. Жыве з чужога, з ласкі ўласнага палітычнага кіраўніцтва краіны гіне ад культурна-моўнай асіміляцыі, знаходзячы поўную падтрымку ад сваёй гадоўлі інтэлігенцыі.

* * *

Далейшае паралельнае існаванне ў нашым эканамічным, палітычным і культурным жыцці афіцыйнага двухмоўя будзе толькі паглыбляць раздвоенасць беларускай нацыі. І не толькі яе, а ўсяго насельніцтва краіны. Двух- і шматмоўе прыносіць карысць толькі на міжасобасным узроўні.

* * *

Нават самая развітая, самая распаўсюджаная на свеце мова не можа быць дарам, каштоўнасцю для таго народа, чыю мову яна пераўтварыла ў мёртвую, вывела з ужытку. Такую мову інакш ніяк нельга назваць, як заразай, нягледзячы на яе міжнароднае прызнанне, процьму выдадзеных на ёй выдатных мастацкіх твораў, навуковых прац.

* * *

Калі на старонках апазіцыйнага перыядычнага друку згадваюцца вартыя пракляцця, смяротныя для беларускай мовы вынікі майскага 1995 г. рэферэндуму (для афіцыйных газет і часопісаў гэта строга закрытая тэма), мы больш за ўсё наракаем – і наракаем справядліва – на ажыцёўленае неўзабаве пасля яго вывядзенне нашага дарагога роднага слова з дзяржаўнага ўжытку. Але не трэба забывацца, што той рэферэндум – гэта не толькі наймагутны скрышальны ўдар па самой беларускай мове. Гэта, без перабольшвання, такі ж самы ўдар і ўвогуле па нацыянальна-культурным жыцці беларусаў. Ужо ніякія сілы не маглі выратаваць яго ад аканчальнага заняпаду. Не бачачы нават мінімальнай грамадскай запатрабаванасці беларускай мовы, людзі пачалі – хто мэтанакіравана, а хто стыхійна – цурацца яе, пазбаўляючы гэтым самым права называць сябе поўнавартаснымі беларусамі. Бо адцурацца беларусу ад яе, гэта ў першую чаргу азначае перастаць чытаць у роднай мове мастацкую, публіцыстычную, навуковую літаратуру, у якой праз слова адлюстравана і алюстроўваецца ўсё наша жыццё. Беларус у чужой мове не будзе ніколі наведваць нацыянальны тэатр, а калі і наведае, дык не атрымае належнай карысці; не будзе слухаць выступленні беларускамоўных прафесійных эстрадных спевакоў, народных выканаўцаў, а калі і дазволіць сабе наведваць іх канцэрты, дык таксама не атрымае ад іх асаблівай радасці. Яго душу ніколі не абрадуе, нісколькі не ўзрушыць, калі пры наведванні бібліятэк, архіваў, музеяў убачыць напісаныя ў Сярэднявеччы на беларускай мове кнігі, службовыя паперы, бо гэта ж выканана не на той мове, якой ён карыстаецца. Ну ці ж ёсць сур’ёзныя падставы такога беларуса-нігіліста роднай мовы, а разам з ёй і

нігіліста сваёй культуры, айчыннай гісторыі – называць беларусам? Вядома, не. Нічому мы так не абавязаны нежаданнем бацькоў пасылаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя навучальныя ўстановы, набываць і чытаць людзьмі беларускамоўныя кнігі, газеты і часопісы, як адсутнасцю беларускай мовы ў дзяржаўным ужытку, што з’яўляецца прамым вынікам хвалёнага ўладамі майскага рэферэндуму 1995 г. Дзіву даешся ад думкі, што яго руйнавальную ролю ў дачыненні да нацыянальна-культурнага жыцця бачаць амаль усе шараговыя грамадзяне, а палітычная, інтэлектуальная эліта ніяк не хоча заўважаць гэтага. Каб яе хоць трохі хваляваў лёс беларускай мовы, а непазбежна разам з ёю і нацыянальна-культурнага жыцця ўвогуле, яна ўжо праз тры – пяць гадоў прааналізавала б вынікі праведзеных захадаў па выкананні ўмоў рэферэндуму. На такі крок свядома не ішла, бо добра бачыла і цалкам пагаджалася, што практыка не пацвярджае абяцанага народу раўнапраўнага афіцыйнага двухмоўя. Дарэчы, паўтаруся, яго ніколі не можа быць у жыцці, бо рана ці позна адна з дзяржаўных моў у выніку канкурэнцыі, чыноўніцкай падтрымцы пераможа другую. У нас такое зрабіла руская мова.

* * *

Яшчэ ніводнаму народу не ўдавалася сцвярджацца ў сваёй існасці ў дзвюх мовах. Беларусы не ёсць народ-вундэркінд, таму нічога і ў іх не атрымалася і не атрымліваецца з навязанай ім ідэалагічнымі структурамі КПСС, палітычным рэжымам сучаснай Рэспублікі Беларусь афіцыйным двухмоўем. Пры ўсебаковай падтрымцы яго прэзідэнцкай вертыкаллю перамогу лёгка і надзвычай хутка атрымала чужая беларусам руская мова. Сёння яны, па сутнасці, гэта аднамоўны (рускамоўны) народ. На роднай мове размаўляе не больш за чвэртку агульнай колькасці беларусаў, што дае ўсе падставы гаварыць пра іх этнічнае выміранне.

* * *

“Свой пачэсны пасад між народамі” мы не здабудзем ні ў адной з чужых моваў, няхай сабе нават такіх развітых і шырока распаўсюджаных у свеце, як англійская, кітайская, іспанская, руская… У людзі трэба ісці са сваім родным беларускім пасагам, толькі не з такім бедным, жабрацкім, бязмоўным, якім ён ёсць у нас сёння.

* * *

Для кожнага народа мова, што вада для рыбы. Выкінутая на бераг яна нейкі час жыве, робіць нават вельмі энергічныя рухі. Але ўсё гэта не ратуе яе ад смерці. Не выратуецца ад яе і народ, калі якія-небудзь пачварныя сілы – нават і ўласныя! – пазбавяць яго гэтага нічым незаменнага прыроднага духоўнага дару.

* * *

Калі прыняць фармулёўку вядомага рускага палітыка, гісторыка і публіцыста Паўла Мілюкова, што мова з'яўляецца самым адчувальным барометрам стану сацыяльных зносін на кожны дадзены момант, [1] дык такі стан у нас сёння не мае нічога нацыянальна-беларускага.

* * *

Неразуменнем бальшынёй беларускага грамадства вырашальнай ролі нацыянальнай мовы ў яго этнічным выратаванні, упартым імкненнем адкласці развязванне гэтага лёсавызначальнага пытання на больш позні час, ці не падпадаем мы пад катэгорыю людзей, пра якіх так трапна сказаў вядомы рускі байкапісец Іван Крылоў: "Невежда судит точно так: в чем тольку не поймет, то все у него пустяк"?

* * *

Узведзеная ўжо каля двух дзесяцігоддзяў магутная, непераадольная перашкода для выкарыстання беларускай мовы ў гарадскіх агульнаадукацыйных школах, у прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, у многіх установах прафесійнай культуры, ва ўсіх канцылярыях дзяржаўных, адміністрацыйна-гаспадарчых, судовых, вайсковых органаў, грамадска-палітычных, культурна-асветніцкіх арганізацый сталі непераадольнай прычынай таму, што шырокія колы нашага народа вельмі працяглы час не бяруць аніякага ўдзелу ў беларускамоўнай творчасці. Яно застаецца полем дзейнасці толькі зусім мізэрнай часткі беларускага народа ў асобе пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў беларускай мовы, артыстаў беларускіх тэатраў. Штучнае адхіленне народа ад такой дзейнасці не дае падставаў разлічваць не толькі на магчымасць далейшага развіцця, узбагачэння беларускай мовы, але і яе захавання ўвогуле.

* * *

1. Милюков П.Н. Национальный вопрос. С.147, 148.

Родная мова ёсць адзіная ў сваім родзе форма існавання самабытнага этнакультурнага жыцця. На чужой мове такое немагчыма. Наадварот, яна да самых апошніх падвалінаў руйнуе яго. І якім трэба быць невукам ці антыпатрыётам, каб не ведаць такой элементарнай, азбучнай ісціны! І чаму гэта лёс надзяліў нашую Бацькаўшчыну безліччу такіх невукаў і антыпатрыётаў? Яна не ведала б велізарнай шкоды ад людзей падобнага кшталту, калі б яны займалі шараговыя пасады. Нібыта на зло, іх выкарыстоўваюць у самых верхніх эшалонах улады, пасылаюць на ўчасткі, адкуль лёгка ўплываць на масы.

* * *

Паводле стандартаў ЮНЭСКА любая мова ідзе да немінучага заняпаду, калі на ёй навучаецца менш за 30% агульнай колькасці вучняў. У нас ужо на працягу некалькіх гадоў гэты паказчык ніжэй прыкладна на дзесяць пунктаў, таму існуе рэальная пагроза поўнага знікнення з грамадскага ўжытку беларускай мовы і ўслед за ёю этнакультурнай

самабытнасці карэннага насельніцтва Рэспублікі Беларусь, а разам з гэтым і яго самога як нацыі. Не дапускаю, каб такой элементарнай заканамернасці ды не ведалі нашыя высокаадукаваныя палітыкі, элітарная частка інтэлігенцыі. Ведаюць! А нічога не робяць дзеля выратавання беларускай мовы ад такога злачаснага лёсу толькі з-за сваёй адарванасці ад роднай глебы, моцна размытай нацыянальнай самасвядомасці. Ніводнай краіне свету не пажадаў бы такога палітычнага кіраўніцтва, такой гнілой інтэлігенцыі.

* * *

Нідзе так жорста, па-варварску не парушаецца законнае права беларускага народа на прыстойнае нацыянальнае жыццё, як на тых участках, дзе не гучыць яго родная мова. Выключэннем можа быць толькі адзін – два дзяржаўныя рускамоўныя драматычныя тэатры (оперны амаль на ўсе сто працэнтаў да такой катэгорыі не належыць). А вось жа, калі глянуць на нашую ўсходнюю суседку, на яе этнічна рускай тэрыторыі не функцыянуе аніводнага іншаземнага драмтэатра, і скаргі на гэта адсутнічаюць з боку карэннага насельніцтва, так і сусветнай грамадскасці. Чаму ж Беларусі не ўзяць прыклад з братняй Расіі?

* * *

Нацыя без роднай мовы – гэта не больш, як этнаграфічны воск, пластылін.

* * *

У беларуса, што выракся роднай мовы, няма ў Беларусі нават бацькоўскага прытулку. Ён чужынец, круглая сірата на зямлі сваіх продкаў.

* * *

Аптымальны варыянт суіснавання, развіцця моваў на планеце Зямля – гэта калі кожная з іх пільнуецца сваёй тэрыторыі, калі на апошняй не імкнецца зацвердзіцца яшчэ якая-небудзь чужая мова. Са сказанага вынікае, што на тэрыторыі Францыі павінна ў якасці дзяржаўнай, афіцыйнай мовы функцыянаваць французская, Італіі – італьянская, Польшчы – польская, Беларусі – беларуская, Расіі – руская, Украіны – украінская і г. д. Іншыя ж мовы на іх тэрыторыях могуць выкарыстоўвацца толькі па-за афіцыйным жыццём, тады ніколі не ўзнікне пагрозы заняпаду, смерці мовы тытульнай нацыі ў межах сваёй краіны.

* * *

Магу з любым біцца ў заклад, што сёння ў грамадскіх месцах сталіцы нашай незалежнай краіны часцей можна пачуць кітайскую, чым беларускую мову. Не будзем забывацца, што гэта яшчэ толькі кветачкі. Во якіх “рэкордных вышыняў” можна дасягнуць у ладкаванні нацыянальна-культурнага жыцця, калі маеш уласную суверэнную дзяржаву. І шанцуе ж гэтым беларусам! Добра было б сказаць людзям, каму з колішніх і сучасных палітыкаў мы найбольш абавязаны такім агідным становішчам.

* * *

Няма нічога больш бескультурнага, небяспечнага, як у выпадку, калі чужая мова на чужой для яе тэрыторыі паводзіць сябе, як гаспадыня, мэрам бы тая свіння: яе пусцілі пад стол – а яна і ногі на стол.

* * *

Мова наша, хоць і моцна зрусіфікаваная, усё ж застаецца пакуль што самай адметнай, самай важнай прыкметай своеасаблівасці беларускага жыцця. Захавай яе нават у тым гаротным стане, у які яе завялі чужыя і

свае русіфікатары, цвярозыя розумам людзі не назавуць нас ні рускімі, ні палякамі, ні ўкраінцамі. Гэта добра ведаюць праціўнікі нацыянальна-беларускага Адраджэння, таму так метадычна, напорыста вядуць змаганне з нашай дарагой, святой мовай, якая, нібы тая костка ў горле, ні ўдзень, ні ўначы не дае ім спакою.

* * *

У нас ужо становіцца традыцыяй раз на год ладзіць агульнанацыянальныя беларускамоўныя дыктоўкі. Хто толькі ні ўдзельнічае ў гэтай нацыянальна-патрыятычнай акцыі?! Нават замежныя паслы. Нашыя ж цвёрдай прамаскоўскай пазіцыі чыноўнікі, асабліва высокага рангу, цалкам ігнаруюць гэтае мерапрыемства. І не толькі таму, што баяцца нарабіць безліч памылак. Ім проста не патрэбна беларуская мова, у замен якой яны абралі сабе суседнюю – рускую праз хітра праведзены ў маі 1995 г. рэферэндум. Упэўнены, некалі давядзецца скасаваць гэты незаслужана хвалёны афіцыёзам рэферэндум з-за неадпаведнасці яго вынікаў нацыянальнаму інтарэсу. Тады літаральна ўжо праз дзень трэба будзе арганізаваць для чынавенства ў межах усёй краіны агульнанацыянальную беларускамоўную дыктоўку з тым, каб высветліць, наколькі яно моцна адарвалася ад роднага слова. Далей такія дыктоўкі неабходна будзе ладзіць сістэматычна і ў залежнасці ад адзнак чыноўнікі павінны атрымліваць адпаведныя месцы ў службовай іерархіі. Тым, хто пакажа высокія веды па беларускай мове, але не мае належнага вопыту працы на прэстыжнай пасадзе, трэба ў дапамогу прызначыць на пэўны час з багатым прафесійным вопытам намесніка, нават і рускамоўнага, бо моўная трансфармацыя ў сферы дзяржаўнай, адміністрацыйна-гаспадарчай, сацыяльна-палітычнай і іншай дзейнасці не павінна негатыўна ўплываць на яе эфектыўнасць. Таму, шаноўныя палітыкі, ідэолагі, гаспадарнікі, калі-нікалі заглядвайце на старонкі беларускамоўных газет, часопісаў, кніг, часцей перакідвайцеся паміж сабой родным словам.

* * *

Як па голасе пазнаюць кожнага чалавека, так па мове пазнаюць кожную нацыю. А вось датычна нашага народа такога не скажаш, бо з-за страты роднай мовы многія беларусы этнічна не дапасоўваюцца да сваёй нацыі. Са стратай роднай мовы ўсімі беларусамі, да чаго мы цвёрдай хадой ідзем пад дзяржаўным кіраўніцтвам, слова *беларус* згубіць сваё колішняе значэнне і стане рэрытэтам, анахранізмам.

* * *

Трэба як мага хутчэй разгарнуць франтальную работу па пераадоленні хранічнага беларускамоўнага лікбезу. Хопіць заставацца людзьмі на балоце, інакш рана ці позна ў яго велізарнай пашчы апыніцца ўвесь дазвання беларускі народ. Ніякія эканамічныя цяжкасці, ніякая скіраванасць нашых палітыкаў і значнай колькасці простых людзей на інтэграцыю з Расіяй не могуць разглядацца ў якасці довадаў, каб на дзяржаўным узроўні не займацца выратаваннем тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь ад культурна-моўнай асіміляцыі ў фармаце русіфікацыі.

* * *

Не раз даводзілася чуць нават ад людзей з дыпломамі аб вышэйшай адукацыі, што беларуская мова не валодае тым патэнцыялам, які дазваляў бы з належнай аддачай выкарыстоўваць яе ў навуцы, аўдыторыях вышэйшых і сярэднеспецыяльных установаў. У гэтых жа адукаваных асобаў існуюць сур’ёзныя сумненні датычна здольнасці сучаснай беларускай мовы ўзяць на сябе функцыі рабочай у дзейнасці нашага парламента, Савета Міністраў. Такія інсінуацыі пра беларускую мову яе праціўнікі пры першай жа магчымасці імкнуліся і імкнуцца распаўсюджваць сярод шырокіх колаў беларускага народа. Даць яму іншую, г. зн. праўдзівую, інфармацыю пра роднае слова амаль немагчыма ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, як найбольш распаўсюджаных, таму ён у асноўным давярае ўсім гэтым плёткам. Адсюль зразумела, чаму палітыкам зусім нескладана з дапамогай народа выштурхоўваць ці не пускаць яго родную мову ў тыя ці іншыя, звычайна найбольш прэстыжныя сферы дзейнасці чалавека, не выключаючы і такой нацыятворнай, як адукацыя.

* * *

Любая, нават самая літаратурна-развітая мова без выканання поўнага аб’ёму сацыяльных функцый, асабліва ў такіх сферах, як палітыка, эканоміка, культура, адукацыя і навука, рана ці позна будзе вымушана падзяліць лёс усіх вядомых свету мёртвых моваў.

* * *

Беларуская мова – гэта наша самае вялікае і дарагое, непаўторнае ва ўсім свеце багацце. Акрамя беларускага народа, ім не валодаў, не валодае

і не будзе валодаць ніводзін іншы народ. Дык давайце ж мы ўсе беларусы, у т. л. і палітыкі ўсіх рангаў, пастараемся як дбайныя гаспадары забяспечыць яму вечнае, прыстойнае жыццё, вынесем з падпечка і пасадзім на ўпрыгожаную нацыянальнай сімволікай покуць нашага роднага беларускага дома.

* * *

З-за бязглуздай дзяржаўнай моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у нас на афіцыйным узроўні не адзначаюцца, як гэта стала нормай для ўсіх краін нашага кантынету, такія святы: Міжнародны дзень роднай мовы (21 лютага), Еўрапейскі дзень моваў (26 верасня), Дзень роднай мовы Беларусі. Расійская Федэрацыя з такой дурнотай, як у нас, не сутыкаецца. Чаму ж нам не адумацца дый штосьці канкрэтнае рабіць, каб перастаць быць пугалам ва ўсім белым свеце?!

* * *

Агульнасць мовы была, ёсць і будзе асноўнай прыкметай, асноўным рухавіком развіцця нацыі. Жыццё беларусаў ужо не адно стагоддзе характарызуецца ў большай ці меншай ступені адсутнасцю такой агульнасці мовы. Сапраўднай нацыянальнай трагедыяй для нашага народа з’яўляецца тое, што прынцып агульнасці яго мовы найперш парушаўся, парушаецца на самым высокім дзяржаўным узроўні самымі ўплывовымі ў палітыцы, навуцы, культуры, адукацыі людзьмі.

* * *

Народ можа не мець найважнейшых, самых патрэбных для сябе карысных выкапняў і быць эканамічна развітым, а ў палітычным плане – нацыянальна-незалежным. Народ можа жыць у зоне вечнай мерзлаты і не дрыжэць ад холаду ў кватэры, цалкам задавальняць свае патрэбы у субтрапічных пладах. Калі ж народ не валодае, цураецца роднай мовы, яго ўжо ніхто і ніштo не выратуе ад немінучай нацыянальнай дэградацыі, канчатковай асіміляцыі, лагічным вынікам чаго з’яўляецца этнічнае выміранне.

* * *

Беларуская нацыя з усімі яе духоўнымі вартасцямі і адметнасцямі прайшла, зафіксавана ў вельмі многіх міжнародных службовых даведніках, навуковых, літаратурных крыніцах. І не заслужаць пахвалы ў сусветнай цывілізацыі чужой ці ўласнай гадоўлі герастраты, якія разбурэннем нацыянальнага патэнцыялу, асяродкам якога з’яўляецца

прыродная мова, нанясуць апошні ўдар па гэтым еўрапейскім народзе. Мяркуючы па падзеях сённяшняга дня, такі ўдар цалкам рэальны.

* * *

Як бы мы не пагаджаліся са сцвярджэннем, што народ пасля вырачэння роднай мовы непазбежна пераўтворыцца ў сыры, бесструктурны этнаграфічны матэрыял, прыдатны толькі дзеля колькаснага павелічэння суседніх народаў, такое ў жыцці вельмі часта адбывалася, прычым на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. І думаць, што беларусаў без іх роднай мовы абміне такая трагедыя, – гэта пустая абстракцыя. Тут трэба лічыцца з горкім сусветным вопытам і не шукаць сабе нейкага апраўдання за абсалютную бяздзейнасць дзяржаўных органаў нашай дзяржавы па выратаванні мовы беларусаў.

Дзеля ўласнага выратавання нацыя часам можа звяртацца – і гэта зусім апраўдана, улічваючы высакароднасць пастаўленай мэты – да самых неардынарных захадаў. Вядома, напрыклад, што "выключнае ўжыванне чэшскай мовы ў адміністрацыі і судзе было нават замацавана законам, а да пачатку XVII ст. няведанне чэшскай мовы і выкарыстанне нямецкай нават каралася штрафамі". [1] І паколькі прыняццем такіх звонку нецывілізаваных адміністрацыйных захадаў чэхам удалося ўхіліцца ад анямечвання, дык тым, хто стаяў ля вытокаў такой на першы погляд непапулярнай моўнай палітыкі, удзячныя нашчадкі гэтага славянскага народа іншага слова, як "дзякуй!", не могуць сказаць.

* * *

Каб не загінула мова тытульнага народа, ёю абавязкова павінна крыстацца і сама дзяржава. Мова – гэта не футравая шапка дзеда, якую можна перасыпаць нафталінам, пакласці на працяглае захаванне ў куфэрак, і яна захавае амаль усе свае вартасці аж пакуль не падрасце, не стане дарослым чалавекам унук гэтага дзеда. Мова тым мацней, чым больш яе эксплуатуюць. А мы ўсё заклікаем шанаваць яе, што, магчыма, многімі, не выключаючы і самавітых палітыкаў, разумеецца, як патрабаванне не карыстацца ёю, каб заўчасна не знасіць, не збузаваць яе. Таму, мо давайце не шанаваць, а на ўсю моц эксплуатаваць сваю родную мову.

* * *

Беларуская мова не раз, нібы той Фенікс, паўставала з попелу і працягвала сваё жыццё. Але выраўноўваючы ў адпаведнасці з майскім

рэферэндумам 1995 г. рускую мову з беларускай (а рэальная ж сітуацыя патрабавала падагнаць сацыяльныя функцыі беларускай мовы да рускай), нашыя палітыкі так “падраўнялі” роднае слова беларусаў, што яму ўсе духі перацягнула, зусім не паступае кісларод. А без яго ўсё жывое канае. Не вынесе такога катавання і беларуская мова. Па ўсім відаць, што гэтым разам яна ўжо не паўстане, як Фенікс, з попелу.

Сканае!

* * *

Без змянення ў лепшы бок сучаснай моўнай сітуацыі ў краіне, што рэальна толькі пры непасрэдным актыўным удзеле самой дзяржавы, у беларусаў не застаецца аніякай гарантыі на захаванне сябе ў якасці самабытнага народа ўжо ў бліжэйшыя дзесяць – пятнаццаць гадоў. Этнічная смерць іх можа адбыцца і намнога раней, калі на ўсю магутнасць запрацуе палітычны арганізм адзінай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы. Паколькі ўжо сённяшнее нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі амаль нічым не адрозніваецца ад рускіх адміністрацыйных рэгіёнаў еўрапейскай часткі Расійскай Федэрацыі, у кіраўніцтва гэтай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы не будзе аніякай патрэбы праводзіць якую-небудзь адметную культурна-моўную палітыку ў межах сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. На ёй уладныя структуры саюзнай дзяржавы ў поўным паразуменні з мясцовымі органамі будуць усё рабіць, каб хутчэй сцерці ўжо і без таго ледзь прыкметныя культурна-моўныя адрозненні паміж рускім і беларускім народамі. Не выключана, што пятнаццацігадовага тэрміну на ліквідацыю такіх адрозненняў можа і не спатрэбіцца, бо і беларусы ў асноўнай сваёй масе наўрад ці пойдуць нават на самае сімвалічнае супраціўленне ўгатаванай ім этнічнай смерці. На вялікі жаль, амаль перавяліся здольныя на такі гераічны выратавальны вычын людзі. Глабальная сістэмная дзяржаўная палітыка русіфікацыі, не выключаючы і актыўнага ўдзелу ў ёй магутнага чыноўніцкага апарату сучаснай Рэспублікі Беларусь, да апошніх падвалін зруйнавала нашае нацыянальна-культурнае жыццё. І хаця мае неаднаразовыя заклікі да людзей паспрабаваць выратаваць яго ад гэтай навалы могуць стацца зусім не рэальнымі, лічу, што бяздзейнічаць мы не маем права. Давайце ў чарговы раз, забыўшыся на ўсе нашыя няўдачы, кінемся ратаваць беларускую нацыю ад этнічнага вымірання, а вось мо і ўдасца паставіць

[1] Милюков П. Н. Национальный вопрос. С. 93.

яе на пакалечаныя, схуднелыя ногі, за што нам толькі “Дзякуй”! скажуць будучыя пакаленні.

* * *

Невалоданне многімі беларусамі роднай і ўжыванне пры ўсіх выпадках рускай мовы прычыняцца да таго, што значная частка з іх, як гэта было раней, будзе лічыць сябе рускімі, а не беларусамі. Калі ж з-за такой моўнай недасканаласці кім-небудзь пры вызначэнні сваёй нацыянальнай прыналежнасці не будзе прыняты пад увагу моўны фактар, ён, напэўна, на месца яго паставіць канфесійны. І тады зноў беларус праваслаўнай веры, не без уплыву святароў, будзе залічваць сябе да рускіх, каталіцкай– да палякаў. У выніку сярод жыхароў нашай краіны “рускія” па колькасці выйдуць на першае месца, “палякі” – на другое, беларусы – на трэцяе, і тады яе можна будзе назваць федэратыўнай “руска” – польска”– беларускай рэспублікай. Назва Беларусь ёй ужо не будзе пасаваць, паколькі народ з такой назвай па колькасці апыніцца на трэцім месцы. Калі ў нашых дзяржаўных дзеячоў усё ж не стаіць гэта на мэце, трэба брацца – і самым сур’ёзным чынам! – за рэгуляванне моўных працэсаў. Не ўскладайце гэтую задачу на плечы асіміляванага народа, больш чым дзесяць пакаленняў якога не мелі і не маюць магчымасці атрымаць вышэйшую і сярэднюю адукацыю на роднай мове. Трэба цвёрда запамятаць: пакуль Беларусь не загаворыць па-беларуску, датуль не спыняць сваіх тэрытарыяльных прэтэнзій да яе шавіністычна настроеныя дзяржаўныя дзеячы, ідэолагі суседніх краін. Час нашым палітыкам і інтэлігенцыі, якая абслугоўвае іх, развітацца з той далёкай першабытнай стадыяй развіцця чалавека, калі ён яшчэ не навучыўся членараздзельна размаўляць.

## Пераўтварэнне Беларусі ў палігон чужой рускай культуры

Моцна памыляюцца тыя палітыкі, а разам з імі інтэлектуалы, якія лічаць, што нацыянальную дзяржаву можна стварыць, забяспечваць ёй прыстойнае існаванне ў абход нацыянальнай культуры. З прычыны глабальнага выцяснення яе з нашага жыцця і панавальнага распаўсюджвання ў ім рускай культуры, нас, беларусаў, не жадаюць прымаць за такіх не толькі Расія, але і бальшыня краін планеты Зямля. Не прызнаючы беларусаў за самабытны этнас, яны ніяк не пагаджаюцца і яго дзяржаву прызнаць нацыянальнай. Дзяржава беларусаў разглядаецца імі як неакрэслены палітычны сурагат Расійскай Федэрацыі, нічым не адрозны ад апошняй у нацыянальна-культурным плане. Гэта найвялікшая дурнота з боку нашых палітыкаў і інтэлектуалаў гаварыць пра дзяржаўную незалежнасць Беларусі пры адсутнасці ў яе нават у мініяцюры культурна-моўнай мяжы з Расійскай Федэрацыяй. Усё злілося ў рускамоўным акіяне, пра што некалі так марылі дзекабрысты. Калі кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь і сапраўды жадае бачыць яе суверэннай, яму патрэбна стварыць сваю нацыянальную культурна-моўную прастору, а не даваць рускай культуры гуляць на нашым абшары, укладваючы дзеля гэтай шкоднай справы велізарныя фінансавыя сродкі, без усялякай меры эксплуатаваць творчы рэсурс айчыннай інтэлігенцыі.

* * *

Беларускай нацыі ў асобе сваёй творчай інтэлігенцыі трэба рашуча адмовіцца ад стварэння, развіцця на ўсім абсягу роднай зямлі рускай культуры. Такі шкодны стандарт нам навязаў гвалтам ад канца XVIII ст. чужацкі палітычны рэжым Расійскай імперыі. І як часта здараецца ў гісторыі, мы паступова-паступова проста па-рабску змірыліся не толькі з такім ганебным, каланіяльным прымусам, але сталі ўсяляк дапамагаць царскім, савецкім, сучасным русіфікатарам ва ўкараненні ў практыку культурнага жыцця беларусаў культуру ўсходнягя народа, вытурыўшы ёю на сметнік сваю дарагую, родную. У выніку для абсалютнай бальшыні беларусаў руская культура і мова сталі фактычна роднымі, жаданымі духоўнымі каштоўнасцямі, а беларуская культура і мова – чужымі, непатрэбнымі. Такая вар’яцкая культурна-моўная трансфармацыя беларусаў завяла іх у тупік, не дазволіла канчаткова завяршыць пераход у найвышэйшую стадыю этнічнага развіцця – нацыю. Падобнае рэальна толькі ў роднай культуры і мове, а ў чужой – гэта ўжо асіміляцыя. Сёння па выпраўленні такога нацыянальнага калецтва ніякіх практычных захадаў не робяць ні ўладныя структуры, ні ідэалагічны апарат суверэннай Рэспублікі Беларусь. Наадварот, яны ўсяляк стрымліваюць дзейнасць тых творчых сіл інтэлігенцыі, што жадаюць, здольныя працаваць на карысць беларускай нацыянальнай культуры. Як усё гэта не падобнае на тое, што назіраецца ва ўсім цывілізаваным свеце! Няўжо мы, беларусы, разумней за яго і ідзём паперадзе духоўнага прагрэсу Чалавецтва?

* * *

Да нашага сучаснага спрэс разладжанага нацыянальнага жыцця амаль цалкам дапасоўваецца напісанае слынным беларускім паэтам Максімам Багдановічам яшчэ ў 1915 г.: “Агляніцеся: усё наша роднае, беларускае марнуецца, нішчыцца, знікае. Бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пашыраецца. Мае сабе пашану і павагу. І – хто ведае? – быць можа пройдзе колькі часу, і не пазнаем мы ані нашага краю, ані нашых дзяцей. І будзе скрозь усё чужое, нязвычнае. А свайго роднага – нічога”. Думаю, кожны пагодзіцца, калі на наш край і яго дзяцей глянуць праз прызму мовы, дык у іх не знойдзеш амаль нічога роднага. Хвалюе ж такое толькі жменьку нацыянальна свядомых людзей, сярод якіх не знайсці аніводнага палітыка нават абласнога маштабу. Вось што даў народу так жаданы дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Відаць, маюць рацыю тыя, хто яго не заўважае ў жыцці, бо і сапраўды без нацыянальнай культуры краіна не можа быць палітычна незалежнай.

* * *

Сённяшнія ў рускай культуры беларусы падобныя на выкінутую на бераг з вады рыбу. Праўда, яна ўсё яшчэ трапечацца, куляецца з боку на бок, выяўляе і іншыя прыкметы нялёгкага жыцця. Але яно ўжо на зыходзе дня. У жывых не застануцца нават самыя здаровыя, вынослівыя да суровых выпрабаванняў пароды рыб. Вось-вось у месцы іх дажывання адчуецца невыносны смурод, што доўгі час мала каму захочацца паесці штосьці нават са згатаванай немарожанай, свежай рыбы. Ад яе ўсяляк будуць старацца аддаліцца. Не думаю, што да беларусаў будуць туліцца пасля поўнай страты імі свайго нацыяналнага культурнага аблічча.

* * *

Беларусь у рускай мове не мае будучыні. Беларусь у рускай мове – гэта ў перспектыве шэсць губерняў Расійскай Федэрацыі. Давайце, можа паслухаем, пагодзімся з Уладзімірам Пуціным? Не будзем настойваць знаходзіцца ў складзе саюзнай расійска-беларускай дзяржавы ў якасці яе больш-менш прыстойнага палітычнага суб’екта.

* * *

Сваёй не ў меру магутнай палітыкай русіфікацыі сучаснае чынавенства так пакалечыла беларускі народ, што яму беднаму ўжо ніяк не выпадае і народам звацца.

* * *

Нас, у тым ліку і значную частку творчай інтэлігенцыі, так грунтоўна зрусіфікавалі, што нікога не здзівіў арганізаваны ў маі 2012 г. у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі конкурс айчынных юных вакалістаў імя Ф.І.Шаляпіна (нібыта сярод беларускіх оперных артыстаў ніколі не было сваіх басоў?!). Заўважу, што ў нас ёсць і Шаляпінскае таварыства Беларусі. Во як умеем цаніць суседскае! Хто ж і калі навучыць нас паважаць сваё? Баюся, каб не спазніліся.

* * *

У аўтарытарных краінах вельмі многае ў лёсе народа залежыць ад першай палітычнай асобы. Не пазайздросціш яму, калі апошняя не

з’яўляецца нацыятворным суб’ектам. А каб быць такім, трэба ведаць і паважаць айчынную гісторыю, жыць у рэчышчы прыроднай культуры, не толькі дасканала валодаць, але і спрэс карыстацца мовай тытульнай нацыі. Асабліва такое неабходна ў сітуацыі, калі ад такой мовы па тых ці іншых прычынах адступілася абсалютная бальшыня насельніцтва краіны і карыстаецца чужой мовай. Прамы абавязак палітычнага лідара давесці народу, што гэта не толькі памылковы, але і страшны, згубны шлях. Навочны прыклад, што ім ніяк нельга ісці павінен паказаць людзям ніхто іншы, як сам кіраўнік дзяржавы, тады толькі ён і можа з’яўляцца суб’ектам нацыястварэння. Наколькі ўсё гэта характэрна нашаму палітычнаму лідару, пакідаю магчымасць падумаць самім чытачам. У аўтарытарнай дзяржаве імкненне яе галавы праявіць сябе ў якасці нацыятворца адразу ж падтрымаў бы ўвесь чыноўніцкі апарат, не жадаючы пазбавіцца ўтульнага кабінета, высокааплатнай пасады.

* * *

Да сённяшніх беларусаў можна без сур’ёзных правак дапасаваць наступныя радкі з верша Вінцука Адважнага (сапр. Язэп Гармановіч) “На 25 сакавіка” (1932 г.):

Народ зблудзіў,
Аслеп, змадзеў,
Сябе забыў і абгалеў.

Адзінае, пра што хацелася б давесці чытачу: такая катастрофа з нашым народам адбылася па віне ўсіх існых і сучаснага палітычных рэжымаў з іх магутнымі, рэпрэсіўнымі службамі і ідэалагічным апаратам. Дадам яшчэ і такое: Вінцук Адважны трошкі паспяшаўся даць занадта ўжо змрочную для пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя характарыстыку нашаму народу, бо тады ён усё ж уяўляў сабою самабытную этнакультурную супольнасць. Іншая справа, што паэт мог прадбачыць яе далейшы горкі лёс і выказаўся такімі тужлівымі вершаванымі радкамі.

* * *

Мяне ніколькі не радуе штогадовае правядзенне Дзён беларускага пісьменства. Не радуе таму, што яно практычна адсутнічае ў нас, прычым даволі даўно. Ці ж падпадаюць, напрыклад, пад беларускае пісьменства моўная практыка нашай адукацыі, службовае справаводства нечувана набухлага ад празмернай колькасці чыноўніцкага апарату. Не сумняваюся, каб сярод арганізатараў такіх дзён пісьменства правялі беларускую дыктоўку па праграме нават пачатковай школы, сярод

выстаўленых адзнак пераважалі б “калы” і “двойкі”. Зусім не парадаваў мяне зварот Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта з-за такіх слоў: “Царква і сёння імкнецца быць блізкай да культурнага жыцця грамадства”. Значыцца, усё яшчэ толькі “імкнецца”, а не стала; і да культурнага жыцця грамадства ўвогуле, а не беларускага. І далей са звароту высокай духоўнай асобы: “… у будучыні беларусы застануцца народам, які чытае – у тым ліку на сваёй роднай мове”.[1] Выходзіць на беларускай мове толькі “у тым ліку”, а ўсё астатняе пераважнае паводле свайго аб’ёму па-руску. А трэба ж наадварот, што якраз у поўнай меры адпавядала б сутнасці дзён беларускай пісьменнасці. І зусім не лезе ў аніякія вароты, калі ў такія дні хтосьці з іх арганізатараў размаўляе па-руску з прычыны невалодання беларускім словам. Лепш бы ім сядзець дома ля тэлевізвра і не псаваць гонту.

[1] Літаратура і мастацтва. 2011. 2 верасня. С. 2.

* * *

Смяротная ступень русіфікацыі беларусаў дазваляе ўжо сёння гаварыць пра іх, як пра рэліктавы соцыум сусветнай цывілізацыі.

* * *

Многімі разумнымі людзьмі незлічоны раз заяўлялася, што народы цікавыя адзін аднаму не агульнасцю іх культур і моваў, а, наадварот, адметнасцю. Нягледзячы на шырокае распаўсюджванне ў свеце такога погляду, вялізны пласт нашай творчай інтэлігенцыі пад гучныя апладысменты палітыкаў і ў надзеі атрымаць з рук Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь медаль ці ордэн Францыска Скарыны аж са скуры вылузваюцца, каб у духоўным жыцці Бацькаўшчыны, як мага больш было ўсяго рускага. На вялікую бяду, у іх з гэтым усё вельмі добра атрымліваецца. Знайсці сёння штосьці адрознае ў беларусаў і рускіх у элітарных, прафесійных пластах культуры могуць толькі высокай кваліфікацыі творцы ў гэтай сферы дзейнасці чалавека.

* * *

Мяне нішто так не хвалюе, як адсутнасць у пераважнай бальшыні сучасных беларусаў жадання быць самімі сабой, будаваць сваё нацыянальна-культурнае жыццё паводле яго прыроднай мадэлі. Калі такое крайне неабходнае ў нашых экстрэмальных умовах з’явіцца, ніхто

не можа сказаць. А яно ж можа зусім не з’явіцца, бо гэтага не толькі не жадаюць, а, наадварот, яму ўсяляк перашкаджаюць улады Рэспублікі Беларусь. Часам узнікае думка звярнуцца па дапамогу да якіх-небудзь уплывовых міжнародных структур, што адсочваюць, усяляк спрыяюць развязванню актуальнага і на сёння ў многіх кутках планеты Зямля нацыянальнага пытання. Стрымлівае ж ад такога звароту ледзь не абсалютная пасіўнасць беларускага народа да ўпарадкавання сваёй нацыянальна-моўнай гаспадаркі. Дый нельга не прыслухацца і да слушных парад, меркаванняў многіх тэарэтыкаў нацыянальнага пытання, у прыватнасці ідэолага сіянізму Т.Герцлю: “выратаванне нацыі толькі ў яе ўласных руках, і калі яна на гэта не здольная, ёй немагчыма дапамагчы” [1] Выходзіць, беларускім нацыянальным адраджэнцам трэба ісці ў народ. Ды толькі прэзідэнцкая вертыкаль не пусціць іх у масы.

[1] Евреи Беларуси. История и культура. 1. Мн., 1997. С. 147.

Атрымліваецца як у нашага слыннага драматурга Францішка Аляхновіча (1883 – 1944): “Круці не круці, а трэба памерці” (назва адной з яго п’ес).

* * *

Асноўнае патрабаванне да занятых у сферы культуры Рэспублікі Беларусь людзей павінна быць дасканалае валоданне і выкарыстанне ў сваёй прафесійнай дзейнасці роднай мовы яе тытульнай нацыі. Усе тыя, хто не валодае такімі якасцямі, ёсць для нацыянальнай культуры людзьмі бескультурнымі, таму іх ніяк нельга выкарыстоўваць у гэтай адной з самых важных нацыястваральных сфер. Такога разумнага прынцыпу прытрымліваюцца ва ўсіх цывілізаваных краінах, таму яны не сутыкаюцца з праявамі размывання нацыянальных асноў сваіх культур.

* * *

Лічу некарэктным творчай інтэлігенцыі любой этнічнай меншыні Беларусі працаваць на яе тэрыторыі на карысць русіфікацыі, на які б высокі рубеж яна не выйшла. Дбаючы пра лёс сваёй культуры, адораныя прыродай людзі такіх меншыняў павінны рабіць усё, што ў іх сілах, дзеля таго, каб Беларусь у культурна-моўным плане была адметнай ад усіх суседніх краін. Усе яны, між іншым, даволі паспяхова спрыяюць гэтаму праз развіццё сваіх нацыянальных культур. Не будзем забывацца, што галоўная вартасць любой культуры не ў яе падабенстве да іншых культур, а ў яе адрозненні ад іх. Сусветная цывілізацыя ніколі не пахваліць Беларусь за бытаванне тут культуры падобнай да рускай,

польскай, украінскай і г. д. А вось калі яна будзе арыгінальнай, карэнным чынам адметнай ад іх, Беларусі абавязкова падзякуе цывілізаваны свет. Зрабіць яе культуру, адпаведнай такому ганароваму статусу, будзе намнога лягчэй, калі дзеля дасягнення гэтай высокароднай мэты не пашкадуе сваіх сіл і творчая інтэлігенцыя нашых некарэнных этнічных супольнасцяў. Ці ж не час канчаць працаваць на беларускай зямлі ў рускім культурна-моўным рэчышчы, што толькі на карысць русіфікацыі яе тытульнага насельніцтва?

* * *

Да таго часу, пакуль Рэспубліка Беларусь будзе недаацэньваць, а то і ганьбіць сваё, жыць чужымі рускімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі, яна не перастане быць пасмешышчам для ўсяго цывілізаванага свету. Ён прызнае, паважае толькі народы з арыгінальнай самабытнай культурай, а не тыя, што прагна жуюць чужую культурна-моўную жвачку, цешаць сябе духоўнымі набыткамі іншых этнасаў.

* * *

Пры сучасным функцыянальным абмежаванні беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці людзей і гаворкі не можа быць пра развіццё беларускай нацыянальнай культуры. Апошняя не можа не толькі развівацца, але і існаваць без нацыянальнай мовы. Таму, калі велізарны штаб работнікаў дзяржаўнага, ведамаснага і прафсаюзнага сектараў культуры і сапраўды імкнецца забяспечыць дынамічнае развіццё беларускай нацыянальнай культуры, дык тут найперш трэба прыбраць яе ў беларускую мову. Пакуль апошняя не стане мовай культуры Беларусі, датуль яе карэннае насельніцтва не вылучыцца з моцных абдымкаў русіфікацыі, не набудзе ўласцівай кожнай прыстойнай нацыі этнакультурнай адметнасці.

* * *

Для тых, хто займаецца даследаваннем палітычнай гісторыі народаў, не з’яўляецца сакрэтам, што ніводная дзяржава не ўзнікала і не ўзнікне, калі ў гэтым няма патрэбы. Узнікаюць жа яны пад уздзеяннем як унутраных, так і знадворных фактараў. У комплексе ўнутраных даволі важнае месца займае культурны фактар, прычым не ўвогуле, а нацыянальны. Пацвярджаецца гэта і практыкай першых гадоў незалежнай Рэспублікі Беларусь. Як вядома, такой ёй стаць дапамаглі прынятыя 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і 25 жніўня 1997 г. Закон “Аб наданні статусу канстытуцыйнага

закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце БССР”.

* * *

Паспяхова праведзеная кіраўніцтвам суверэннай Рэспублікі Беларусь праца па яе культурна-моўнай уніфікацыі з Расійскай Федэрацыяй зрабіла першую вельмі моцна залежнай ад другой. З гэтай прычыны ў мяне проста рука не паднімаецца пісаць пра рэальны палітычны суверэнітэт сваёй краіны, бо яму мо нішто так не патрэбна, як культурна-моўная адметнасць. Без яе ніякія дзяржаўныя межы не ў стане спыніць культурную экспансію з усходу з яе непазбежным вынікам: русіфікацыяй, што адразу ставіць крыж і на палітычную незалежнасць.

* * *

У наш час наўрад ці знойдзецца больш-менш дасведчаны чалавек, які адмаўляў бы прысутнасць у Рэспубліцы Беларусь велізарнай паводле сваіх памераў рускай культурна-моўнай прасторы. Ёй ні ў чым не пагражае беларуская культура, бо не яна, а руская культура спрэс пануе на абсягах нашай краіны. Тут ёсць над чым задумацца нацыянальна-патрыятычным колам грамадства, каб даць праўдзівую ацэнку такой практычна амаль зусім невядомай усім цывілізаваным народам з’яве. У нас да яе не ставяцца, як да чагосьці адмоўнага, інакш бы сама дзяржава, афіцыйны сектар культуры так фінансава не выкладваліся б дзеля інтарэсаў рускай культуры, пакідалі б больш матэрыяльных сродкаў, грошай для патрэб нацыянальнай культуры, стараліся б лепш забяспечыць яе таленавітымі кадрамі. Такога не назіраецца. Яна ўжо не першы год прыперта да сценкі. Яе бядотнае становішча нікольки не хвалюе ні ўлады, ні творчую інтэлігенцыю, ні сам народ. За нацыянальную дэградацыю беларускай культуры перажывае толькі невялічкая частачка бясконца ўлюблёных, адданых свайму краю людзей. Лічу сябе шчаслівым чалавекам, што ўсёй душой і сэрцам належу да іх.

* * *

У катле нашага духоўнага жыцця беларуская культура знаходзіцца на самым сподзе, а над ёю магутны таўшчэразны ажно да самых краёў гэтай умяшчальні пласт рускай культуры. Дык не далівайце ж з яе больш нічога ў кацёл, каб ужо зусім не ўмярцвіць загнаную на яго дно беларускую культуру. А вось мо праз пэўны час пашэнціць нам, з’явяцца новыя бясконца ўлюбёныя ў сваё пакаленні і пажадаюць стаць яе

шчырымі носьбітамі. З іншымі ж народамі здаралася такое. Мо нарэшце і мы абразумімся, навучымся і будзем уласнае больш паважаць за чужое.

* * *

Дзякаваць богу, нягледзячы на пранікненне альтэрнатыўных кнізе электронных інфармацыйных сродкаў, яна працягвае карыстацца вялікім аўтарытэтам у шырокай аўдыторыі чытачоў. У вольны ад працы час яны ахвотна наведваюць бібліятэкі. Шкада толькі, што абсалютная бальшыня з іх ніяк не можа вызваліцца ад савецкай заідэалагізацыі і носіць імя зусім чужых, далёкіх ад беларускасці асобаў, што менш за ўсё павінны ўжывацца ў дачыненні да бібліятэк. Ім належыць насіць імёны толькі асобаў непасрэдна, цесна звязаных з жыццём Беларусі з тым, каб хоць гэтым трохі паспрыяць наданню яму нацыянальнага аблічча, у якім, да жалю, такі мізэр адметнага, самабытнага. Усё пажэрла праклятая дзяржаўная палітыка русіфікацыі дый так пажэрла, што цывілізаваны свет ніяк не можа глядзець на Рэспубліку Беларусь, як на суверэнную.

* * *

На кончыку языка так і круціцца сказаць: “Шаноўныя этнічна рускія дзяржаўныя і грамадска-палітычныя дзеячы на Беларусі і вашы рускамоўныя калегі беларускай нацыянальнасці! Ды навучыцеся ж вы нарэшце размаўляць на роднай мове карэннага народа дзяржавы Беларусь, якой вы кіруеце! Годзе смяшыць цывілізаваны свет. Яе ж мова для вас – гэта ж не кітайская ці японская альбо іўрыт. Пакуль на роднай мове свайго народа не загаворыць дзяржава, ніхто ў свеце не будзе лічыць яе незалежнай, суверэннай і самастойнай. Гэта аксіёма! Калі не станем на такі праведны шлях, дык як цяпер здзіўляем свет, так і надалей будзем здзіўляць яго сваім сцвярджэннем, што мы жывем у дзяржаве Беларусь. Яе прызнаюць за самастойную краіну толькі тады, калі яна набудзе адметныя, свае ўласныя культурна-моўныя рысы, сапраўднае, а не скапіраванае з іншага народа нацыянальнае аблічча. І фармаваць яго трэба пачынаць не заўтра, а сёння, лічачы гэта адной з найважнейшых функцый самой дзяржавы.

Паколькі, нягледзячы ні на што, наш народ усё ж пацягнуўся да рэлігіі, нам вельмі важна прыслухацца да прароцкіх слоў знанага палітычнага, грамадскага і культурнага дзеяча Антона Луцкевіча, не зважаючы на тое, што ім ледзь не сто гадоў (з’явіліся на старонках газеты “Наша ніва” ў 1914 г.): “Пакуль касцёл і царква ў Беларусі не зробяцца беларускімі, народ наш заўжды будзе дзяліцца на дзве часткі”. Касцёл трохі

павярнуўся да беларускасці, што ж датычыць праваслаўнай царквы, дык у яе дзейнасці не менш як дзевяноста працэнтаў усяго рускага і толькі каля дзесяці працэнтаў беларускага. І самае страшнае, што і ў перспектыве яна не збіраецца нічога мяняць на карысць беларускага нацыянальнага інтарэсу, ведаючы, што ў гэтым ніколькі не зацікаўленыя ні Маскоўскі патрыярхат, ні палітычнае кіраўніцтва сучаснай Рэспублікі Беларусь, паколькі галоўным у іх дзейнасці з'яўляецца давяршэнне да канца русіфікацыі беларусаў. Чакаць такога ўжо доўга не давядзецца ні першаму, ні другому.

* * *

Беларусь як краіна з адным тытульным народам павінна мець адну культуру і, зразумела, беларускую, для якой не патрэбная аніякая іншая мова, як толькі беларуская. Праціўнікі нашага самабытнага этнакультурнага жыцця ўвесь час дадавалі і дадаюць да яе яшчэ і рускую мову, чым толькі ствараюць канфліктную сітуацыю ў культурна-моўнай сферы, у якой перамога, дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, заўжды даставалася і дастаецца не роднай, а чужой рускай культуры. Таму нікога не павінен здзіўляць такі факт: калі ў ноч з 13 на 14 студзеня 2013 г., г. зн. на Новы год па старым стылі, ладзілася ў сталічным оперным тэатры свята, яно, як паведамлялася ў газеце "Літаратура і мастацтва" (18 студзеня), "пачалося а дзявятай гадзіне традыцыйным (падкрэслена мною. – *Л. Л.*) Рускім балем…" Во дажыліся, што і балю свайго не маем! І да якога ж часу будзем сарамаціць белы свет, калі ж гэта зробім сваю краіну краінай монаэтнічнай беларускай культуры?!

* * *

Я люблю, высока цаню рускую культуру, але я не прымаю апошняй з-за яе празмернага панавання (па волі далёкіх ад нашай нацыянальнай культуры палітыкаў і творцаў) на беларускай зямлі, бо гэта не дае развівацца, заглушае яе родную культуру, вядзе да культурна-моўнай русіфікацыі яе народа. Вінаватыя ў маім такім катэгарычна адмоўным стаўленні да запанаванай у Беларусі ўжо не адзін дзясятак гадоў рускай культуры ні хто іншы, як ідэолагі дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, свядома аддаючы ёй большую прастору, чым адзінай роднай на нашай зямлі беларускай.

* * *

Многім вядома, што Максім Гарэцкі ўлетку 1920 г. (найцяжэйшым ў сацыяльным плане для нашай Бацькаўшчыны час) выдаў уласным коштам кааператара Э.Будзькі і друкара У.Знамяроўскага сваю бессмяротную “Гісторыю беларускае літаратуры”, якая ніколі не перастане цікавіць чытачоў, прыносіць карысць. Ну а каб на творчым шляху М.Гарэцкага не сустрэліся такія дабрадзеі? Не выключана, што магла б і не пабачыць свету яго кніга. Шкада, што сёння, хаця мы і непараўнальна лепш матэрыяльна жывем, чым улетку 1920 г., у нас і днём з агнём не адшукаеш ні кааператара Э.Будзьку, ні друкара У.Знамяроўскага. Зараз, калі трэба нешта выдаць у інтарэсах нацыянальна-культурнага Адраджэння, аўтар, ведаючы, што па такой справе нельга звяртацца ў афіцыйныя структуры, усе выдаткі бярэ на сябе. Знайсці спонсара рэдка каму ўдаецца: адны багацеі грошай шкадуюць, другія – баяцца. Вось і давай плаці, аўтар, з уласнай кішэні за кампутарны набор тэксту, падрыхтоўку макета кнігі, працу з ёю рэдактара, карэктара і друкароў. Звычайна, далучаныя да гэтай справы асобы не стаяць убаку ад нацыянальнага адраджэння, але за працу над прысвечанай яму кнігай патрабуюць ад аўтара аплаты ў поўным аб’ёме, нават каб мець яшчэ і які-небудзь прыбытак. Нічога падобнага не атрымлівае толькі аўтар – ключавая фігура ў з’яўленні на свет кнігі. Мала каму ўдаецца пакрыць за кошт кагосьці хоць дзясятую долю запатрабаваных для выдання кнігі выдаткаў. Аўтара абдзіраюць, як ліпку, і не чужыя, а, як яны самі любяць заяўляць, людзі цвёрдай нацыянальнай арыентацыі, шчыра заклапочаныя цяжкім лёсам Бацькаўшчыны. Як бы многа яна выйграла, каб і гэтыя людзі на прыкладзе аўтара маглі дзеля яе інтарэсаў што-небудзь і бясплатна зрабіць. Пішу ўсё гэта дзеля таго, каб нашчадкі ведалі, у якіх неверагодна цяжкіх умовах даводзілася працаваць у першыя дзесяцігоддзі XXI ст. тэарэтыкам-ідэолагам беларускага нацыянальнага Адраджэння.

У святле вышэйсказанага не магу не прывесці і такога факта з сваёй уласнай практыкі. Адзін з маіх сяброў, што залічвае сябе да актыўных удзельнікаў нацыянальнага руху (і з гэтым я пагаджаюся) зрэдку пазвоньваў да мяне, каб даведацца, як я на дзявятым дзясятку гадоў даглядаю сваю паралізаваную, пасцельна хворую (ужо восьмы год) жонку. Пасля аднаго такога чарговага званка я паскардзіўся таму сябру, што з-за вострага дэфіцыту часу не магу наведаць якое-небудзь выдавецтва, каб перадаць кампутарны набор будучай кнігі.

– Ды ты не хвалюйся – пачуўся з трубкі бадзёры голас. – Я гатоў хоць заўтра за невялікую суму грошай лабіраваць выданне тваёй кнігі. У мяне процьма знаёмых сярод выдаўцоў.

Адказаў: “Дзякуй! Буду мець на ўвазе тваю сяброўскую ласку” і пастараўся як мага хутчэй спыніць размову, бо вельмі ж агідна было пачуць такое ад блізкага мне чалавека, дый яшчэ – “адраджэнца”. Цяпер я ў дачыненні да яго гэтае вялікага пазітыўнага сэнсу слова ўжываю толькі ў двукоссі.

Сёння, як ніколі раней, спаў гарт адраджэнскага руху. Яго ўдзельнікі выявілі сваю поўную бездапаможнасць хоць у чымсьці паспяхова супрацьстаяць магутнаму чыноўніцкаму апарату. Сваёй упартай русіфікатарскай палітыкай ён і кроку не дае зрабіць наперад беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню. Яно практычна стала зусім бесперспектыўным, трымаецца на энтузіязме адзіночак. Таму калі хто-небудзь з тэарэтыкаў хоча паслужыць гэтай святой справе выданнем неабходнай для абуджэння народа літаратуры, ім трэба ўсяляк садзейнічаць, а не старацца здабываць ад іх нейкую фінансавую выгоду. Мець патрэбную колькасць дабрачынных, пазаштатных карэктараў, рэдактараў і іншых работнікаў, што ўдзельнічаюць у выданні кнігі, не так-то ўжо і складана. Заклікаю ўсіх стаць вартымі нашых самааданых адраджэнцаў пачатку XX ст., у якіх на першым плане заўжды стаяў агульнанацыянальны, а не камерцыйны інтарэс, паміж якімі не вялося аніякай размовы пра заробак. Яго трэба атрымліваць з дапамогай іншых сродкаў, па-за нацыянальна-адраджэнскім рухам.

* * *

Для сусветнай цывілізацыі самай дарагой, жаданай каштоўнасцю з’яўляецца кожная адметная ад іншых, арыгінальная культура. З гэтым ніяк нельга не пагадзіцца. Бо і сапраўды, якой брыдзэнай стала б планета Зямля, каб усе яе народы прынялі англаамерыканскую альбо кітайскую, індыйскую, рускую ці яшчэ якую-небудзь культуру. Дзіву даешся, чаму ўсяго гэтага дазвання элементарнага не разумеюць нашыя палітыкі і абсалютная бальшыня інтэлігенцыі? Яны выкладваюцца проста да поўнага знемажэння – і даволі паспяхова, – каб Беларусь пераўтварыць у тыповую рускую культурна-моўную прастору, нібыта ў гэтым ёсць вялікая ўласная патрэба і жаданне цывілізаванага свету. І за якія гэта грахі Усявышні так сурова пакараў і карае беларусаў?

* * *

Карэннае насельніцтва Рэспублікі Беларусь мы надзейна выратуем ад русіфікацыі толькі тады, калі вызвалім ад рускай культуры ўсе тыя дзялянкі духоўнага жыцця, дзе адпаведна законам цывілізаванага нацыянальнага развіцця павінна непадзельна панаваць толькі беларуская культура. У дадзеным выпадку размова ж датычыць этнічнай тэрыторыі менавіта гэтай культуры, а не рускай. Апошняя тут не больш, як толькі госць. Свет цалкам апраўдае такое зусім не характэрнае для сучаснай дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь стаўленне да рускай культуры, бо гэта будзе рабіцца не з-за якой-небудзь непавагі, нянавісці да яе, а толькі ў інтарэсах выцягнуць беларускі народ з-пад празмернага ўплыву на яго чужой, занесенай звонку культуры. У рускай культуры такая велізарная прастора, што выключэнне з яе беларускай тэрыторыі не зможа прынесці ёй (рускай культуры) якойсьці шкоды, а вось беларускі народ выратуем ад этнічнай смерці. Як бачым, гульня вартая свечак.

* * *

Празмерная прысутнасць у нашым краі спачатку польскай, а затым рускай культуры ніколі не радавала яго сапраўдных патрыётаў, у іх ліку і славутага паэта Максіма Багдановіча. Наступныя яго словы: “Заносіць толькі чужое, не развіваючы свайго, – гэта значыць глуміць народную думку” сёння так актуальныя, што хацелася б іх давесці да ведама ўсіх, хто працуе ў сферы культуры, якая так бяздумна губляе пад сваімінагамі нацыянальную глебу пад няспынным уплывам русіфікацыі, прычым пераважна сваёй гадоўлі.

* * *

Беларусь ужо і сёння свядома, мэтанакіравана звёўшы свой народ з уласнага ў рускае культурна-моўнае рэчышча, больш нагадвае сабой агідны марыянетачны прыдатак Расіі, чым самастойную, суверэнную дзяржаву. Несумненна, такі прыдатак набудзе яшчэ больш завершанае аблічча, калі, не дай божа, адбудзецца поўнае палітычнае аб’яднанне Беларусі з Расіяй у адзінай саюзнай дзяржаве. Ідзе ж першая ў яе склад практычна з чужымі (рускімі), а не са сваімі ўласнымі духоўнымі набыткамі, з безназоўным народам. З ім нават ніхто з самых блізкіх сяброў не пажадаў бы лічыцца. У цывілізаваным свеце паважаюць толькі тых, хто разнастаіць яго культурную палітру, а не тых, хто толькі жыве з духоўных каштоўнасцяў іншых народаў.

* * *

Нацыянальна-культурнае вынішчэнне народа ёсць самае страшнае бедства для яго. Бо калі адбываецца пазбаўленне народа палітычнай незалежнасці, учыняецца яго эканамічнае закабаленне, дык няма гарантыі, што праз пэўны час не ўзнікне сітуацыя, калі гэтыя фактары перастануць дзейнічаць, і ён зможа скінуць з сябе і палітычныя, і эканамічныя кандалы. Такое немагчыма, калі адбылося поўнае нацыянальна-культурнае знішчэнне народа. Асаблівую небяспеку набывае яно тады, калі ў такой гнюснай акцыі бяруць удзел пэўныя пласты гэтага народа. Вось сённяшнія беларусы менавіта і сутыкаюцца з падобнай злачыннай з’явай. Зараз на карысць рускай культуры ў дзясяткі – сотні разоў працуе больш беларусаў, чым на сваю родную нацыянальную. Прычым на баку беларусаў рускай культуры стаіць сама дзяржава – галоўны віноўнік іх асіміляцыі.

* * *

О маці Беларусь! Твая будучыня толькі ў рэальнай палітычнай незалежнасці. Але трэба ведаць, што яе рэальнасць вызначаецца не магутнасцю ўзброеных сіл краіны, шырокай разгалінаванасцю дзяржаўнага чыноўніцкага апарату, высокаму прафесіяналізму спецслужбаў, вялікай колькасцю інтэлектуалаў. Усё гэта нуль у параўнанні з панаваннем у краіне нацыянальнай культуры. Бо калі вышэйпералічаныя чыннікі будуюць сваю дзейнасць на чужой, а не на нацыянальнай культуры, яны не ў стане забяспечыць сваёй дзяржаве палітычную незалежнасць, а, наадварот, ставяць яе (дзяржавы) народ у падпарадкаванне краіны, чыёй культурай ён сілкуецца.

### “Белая варона” ў сям’і славянскіх народаў

Такой ганебнай назвы ўжо даўно заслугоўваюць беларусы з-за таго, што ў масавым маштабе, ледзь не пагалоўна адышлі ад сваіх нацыянальна-культурных традыцый (няхай сабе і пад прымусам уладных структур, пад уплывам ідэалагічнай апрацоўкі) і спакойна сабе пасуцца на чужым рускім культурна-моўным полі. Мы часта незаслужана ўзносім братэрскую дружбу славян, не хочучы прызнаць, што найбольш культурна развітыя з іх не заўсёды лічыліся і лічацца з інтарэсамі тых, хто па розных прычынах не змог як след рэалізавацца ў духоўнай сферы. Калі ўзяць беларусаў, дык ніхто з неславянскіх народаў не нанёс ім такіх велізарных этнакультурных страт, як гэта дазволілі сабе такое зрабіць славяне-палякі і славяне-рускія. У выпадку, калі на ўсе 180$^{o}$ не зменіцца дзяржаўная нацыянальная палітыка Рэспублікі Беларусь, яе тытульны народ немінуча стане ахвярай асіміляцыйных працэсаў. Адбываюцца ж яны ў нашай краіне ў форме русіфікацыі, г. зн. маюць аславянены характар. Пад асіміляцыйным прэсам трацяць сваю самабытнасць, прычым на ўласнай этнічнай тэрыторыі, беларусы Беласточчыны, што знаходзяцца ў межах Рэспублікі Польшча. Палітычнае кіраўніцтва РБ ніколі не будзе крытыкаваць яе за гэта, бо само ж у непараўнальна большых маштабах за апошнюю дэнацыяналізуе (русіфікуе) сваё карэннае насельніцтва пад гучныя воплескі Маскоўскага Крамля. Ну ці ж гэта не “славянскае братэрства”?! Словам, ёсць над чым задумацца і паразважаць, прычым не толькі ў дачыненні да беларусаў.

* * *

Раздрай у палітычных колах славянства на доўгі перыяд затармазіў станаўленне дзяржаўнасці ў чэхаў, што ўмела выкарысталі ў сваіх інтарэсах немцы. У забеспячэнні свайго незалежніцкага палітычнага шляху чэхі-пратэстанты найбольш за ўсё разлічвалі на дапамогу катліцкай Польшчы. Апошняя – у значнай ступені з-за рэлігійнай неадпаведнасці – засталася раўнадушнай да лёсу славянскіх братоў-чэхаў, якім доўгі час даводзілася змагацца супраць габсбургаў. Чэхі-пратэстанты безвынікова звярталіся да сваёй польскай суседкі "па дапамогу ў імя агульнага славянскага паходжання абодвух народаў, чэшскага і польскага, марна ўказвалі на тое, што іх барацьба не рэлігійная, а нацыянальная, барацьба чэхаў-славян супраць наступу немцаў… Польскі кароль і Польшча як дзяржава не дапамаглі чэхам, ды дазволілі польскаму ваярству ўдзельнічаць у знішчэнні дзяржавы славянскіх "ерэтыкаў" у сярэдняй Еўропе, а заядлыя каталікі польскія радаваліся, што з дапамогаю польска-рускіх Лісоўшчыкаў чэхі-ерэтыкі леглі касцямі і што іх не выратавалі ні Гус, ні Жыжка, ні Кальвін з пекла…" [1]

* * *

Зусім не хацела слухаць вядомых беларускіх палітыкаў Польшча, якая пасля вызвалення ў 1918 г. з кіпцюроў расійскага двухгаловага арла пачала адбудоўваць сваю дзяржаўнасць. Каб надаць ёй жаданую магутнасць, вырашылі замахнуцца і на прымежныя да сябе беларускія землі. Польскія ўлады цалкам спынілі дзейнасць Беларускага міністэрства Літоўскай дзяржаўнай рады, якое вымушана было ўцячы ад рэпрэсій бальшавіцкага рэжыму ў Гародню. Узначальваў яго вядомы палітычня дзеяч, публіцыст Язэп Варонка. Не знаходзячы ніякага паразумення з палякамі, ён вымушаны быў 17 жніўня 1919 г. звярнуцца да ўрадаў ЗША, Вялікабрытаніі, Французскай рэспублікі, Італіі і іншых дзяржаў з Пратэстам з нагоды польскіх гвалтаў з беларусаў. Я.Варонка выказаў справядлівую прэтэнзію да краін Антанты за перадачу Польшчы беларускага Аўгустоўскага павета былой Сувалкскай губерні, за тое, што яны праяўляюць поўную абыякавасць да здзекаў палякаў з беларусаў захопленых Брэст-Літоўскага, Бельскага, Пружанскага, Белавежскага, Кобрынскага, Беластоцкага, Слонімскага, Сакольскага, Ваўкавыскага, Гродзенскага, Лідскага, Віленскага, Ашмянскага, Дзятлаўскага, Наваградскага паветаў. "Вялікія дзяржавы, – адзначалася ў Пратэсце, –

закончыўшы Вялікую Вайну вялікай жа для сябе перамогай, не ведаюць ці не хочуць ведаць, што робіцца на маленькай беларускай зямлі, у абдымках вялікай несправядлівасці; у краіне вось ужо шосты год паліваемай крывёю сваіх жа сыноў, дзе жыхары ўжо даўно забыліся на чалавечую ўсмешку, дзе праўда і права вывеліся з размоўнага лексікону, дзе павагу да асобы і грамадзянскай годнасці замянілі даўно забытыя, і можа быць нават незнаёмыя сярэднім вякам, нагайка, здзек і гвалт”. [2]

У той надзвычай складаны, непрадвызначаны час палякаў зусім не

---

[1] Первольф Иосиф. Славяне, их взаимные отношения и связи. Т. II. Варшава. 1888. С. 82.

[2.] Езовитов К. Белоруссы и поляки. Документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах. Ковна. 1919. С. 110, 111.

радавала, што беларусы дзеля свайго нацыянальна-дзяржаўнага, культурнага адраджэння паспрабавалі выкарыстаць сітуацыю, што склалася на іх зямлі ў выніку падзей Першай сусветнай вайны, кастрычніцкага перавароту 1917 г. Наш заходні славянскі народ усяляк перашкаджаў стварэнню і дзейнасці беларускіх нацыянальных школ, выданню на роднай мове кніг, газет і часопісаў, схіляў і прымушаў беларусаў пад час перапісаў залічваць сябе да палякаў, звальняў з працы тых, хто не валодаў польскай мовай. 1 чэрвеня 1919 г. палякі разброілі дыслакаваны ў Гародні 1-ы беларускі пяхотны полк. Усяго гэтага магло б не быць, каб палякі глядзелі на беларусаў, як на штосьці блізка роднаснае па крыві і духу. Братэрскім славянскім сяброўствам тут нікольскі не пахла.

* * *

Развал СССР нікольскі не аслабіў шматгранных сувязяў паміж беларускім і рускім народамі. Актыўны ўдзел у іх (сувязях) заўжды брала і бярэ самая элітарная катэгорыя грамадства ўсходняй нам суседняй краіны – інтэлігенцыя. Наведваючы наш край, яна выдатна разумее, у які тупік завяла нашую нацыянальную культуру варожая ёй дзяржаўная палітыка. Аднак ніхто з прадстаўнікоў рускай творчай інтэлігенцыі ні разу не выказаў сваёй заклапочанасці гібеллю славянскай беларускай культуры. Ствараецца ўражанне, што яны рады, згодныя з яе русіфікацыяй, што яны зусім абыякавыя да культурнай размаітасці славянскай этнічнай супольнасці.

Прысутнасць у культурна-моўнай прасторы славянскай краіны яшчэ якой-небудзь славянскай культуры і тым больш яшчэ не толькі нароўні, а

пад надзейным дзяржаўным пратэктарам – гэта не толькі алагічна, але і злачынна, бо пры пэўных абставінах апошняя можа адсунуць на задні план, спаралізаваць культуру карэннага этнасу, прывесці да яго асіміляцыі, што супярэчыць інтарэсам славянскай супольнасці, усёй сусветнай цывілізацыі. Калі не ўся,то амаль уся ўвага дзяржаўнай улады, грамадства кожнай славянскай краіны павінна сканцэнтравацца на забяспечанні росквіту яе прыроднай культуры і абарону апошняй ад размывання, дэфармацыі, нават калі такое адбываецца і пад уздзеяннем блізкароднаснай славянскай культуры. Гістарычная місія славянскай супольнасці не ў тым, каб усталяваць у ёй панаванне якой-небудзь адной культуры, а ў тым, каб у кожнай славянскай краіне бесперашкодна, без усялякай непатрэбнай канкурэнцыі развівалася, буяла толькі свая ўласная культура. Такой заслужанай увагі да сябе беларуская культура не мае нават і зараз, калі краіна ўступіла ў трэцяе дзесяцігоддзе суверэннага развіцця. Ёсць аб чым задумацца і вядома каму.

* * *

Мы ўжо прызвычаіліся, а многія і змірыліся з практычна поўнай адсутнасцю беларускага слова ў нашым сучасным афіцыйным грамадскім жыцці. А вось усе, хто прыязджае да нас, моцна здзіўляюцца з такой нехарактэрнай цывілізаванаму свету моўнай сітуацыяй у краіне з амаль 10-мільённым насельніцтвам і да таго ж яшчэ з багатай гісторыяй і адметнай ад суседніх народаў культурай. Думаецца, што людзі не ў меншай ступені здзівіліся б, каб, скажам, трапілі ў Балгарыю і скрозь чулі там польскую ці чэшскую мовы. Няхай Усявышні ратуе іх ад такой злыбеды, хопіць, што яна ўжо прыйшла ў адну з славянскіх краін – Рэспубліку Беларусь.

Ёсць шмат варыянтаў вяртання беларускай мовы на законны пасад. Зразумела, найбольшы эфект прынясе той, што некалі будзе праводзіць (і я ў гэтым упэўнены) сама дзяржава. Немалаважную ролю ў гэтым можа адыграць і Славянскі базар у Віцебску, для чаго ў першую чаргу неабходна: прыняць за правіла абавязковае ўжыванне беларускай мовы вядоўцамі праграмы. Для славянскага ўзаемаразумення такі варыянт не ўяўляе асаблівай складанасці. Да таго ж не пашкодзіць кожнаму, хто едзе ў Віцебск на Славянскі базар, хоць крыху пагартаць беларускамоўныя літаратурныя крыніцы, вывучыць 25 – 30 самых хадавых беларускіх слоў, што прынясе толькі карысць, павысіць аўтарытэт госця. Ва ўсе часы веданне моваў лічылася прыкметай высокай культуры і інтэлекту асобы. І сёння такія людзі ў вялікай пашане. Усяго гэтага мо толькі не

разумеюць беларусы і не разумеюць таму, што іх стагоддзямі цягнулі ў польскую і рускую культуры ў абход сваёй нацыянальнай.

* * *

У развязванні няпростых пытанняў славянскага адзінства і братэрства нам трэба зыходзіць з разумных пазіцый, якія выказаў у чэрвені 1998 г. на Усеславянскім форуме ў Празе старшыня Польскага арганізацыйнага камітэта "Усеславянскі з'езд – 98" Баляслаў Цяйкоўскі: "Славянская садружнасць як усебаковы саюз павінна захаваць нацыянальную самабытнасць і дзяржаўны суверэнітэт кожнага славянскага народа". [1.]

[1.] Славянскі набат. 1998. 18 – 24 чэрвеня.

Так і хочацца да прыведзеных слоў дадаць: найперш беларускага, бо ён знаходзіцца на мяжы этнічнага вымірання і не знаходзіць сабе падтрымкі ні з боку дзяржавы, ні з боку самога грамадства, у т. л. яго інтэлігентных колаў. У такой экстрэмальнай сітуацыі, што доўжыцца ўжо не адно дзесяцігоддзе, я лічыў бы зусім не лішнім абмеркаваць праблему выжывання, захавання і развіцця беларускай нацыі на бліжэйшым чарговым Усеславянскім з'ездзе. Не сумняваюся, што грунтоўным абмеркаваннем такой актуальнай не толькі для саміх беларусаў, але і ўсіх славян, усёй зямной цывілізацыі праблемы, гэты з'езд павысіў бы свой аўтарытэт у свеце, паказаў бы прыклад і іншым этнічным супольнасцям, як трэба шанаваць кожны народ, што ўваходзіць у іх склад і ў моц розных неспрыяльных абставін апынуўся ў асіміляцыйнай багне.

* * *

Ужо не першы год існуе пільная патрэба ў правядзенні навукова-практычнай канферэнцыі на тэму "Русіфікацыя славянскіх народаў у перыяд існавання Расійскай імперыі, СССР і на сучасным этапе". Акрамя прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі, у яе працы павінны ўдзельнічаць і самыя высокія дзяржаўныя асобы Украіны, Польшчы, а ад Беларусі – пераважна ідэолагі і кіраўнікі апазіцыйных партый і рухаў, бо афіцыйныя структуры, ведаючы пра сваё самае непасрэднае дачыненне да дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, напэўна адмовяцца ўдзельнічаць у такім славянскім форуме. Па заканчэнні працы канферэнцыі неабходна абавязкова прыняць Рэзалюцыю са строгім асуджэннем злачыннай палітыкі імперскай і савецкай уладаў, сучаснага палітычнага рэжыму Беларусі па асіміляцыі аднаго са

славянскіх народаў і вызначыць шляхі захавання яго ад поўнай дэнацыяналізацыі.

* * *

Мною даўно заўважана, што ў апошняе дзесяцігоддзе і нават раней Беларусь на ўсіх сустрэчах славянскіх народаў больш выступала ў ролі няпрошанага абаронца рускага, чым уласнага інтарэсу. Яна, бедненькая, не адважваецца і слова сказаць па-беларуску, а спрэс карыстаецца рускай мовай. Браты-славяне нават усур'ёз сумняваюцца ў існаванні ў прыродзе самой беларускай нацыі. І маюць на гэта дастаткова падстаў, бо калі нацыя па тых ці іншых прычынах не карыстаецца роднай мовай, гэта ўжо не нацыя, а нешта падобнае на натоўп. Такога ўпарта не хочуць прызнаваць толькі дзяржаўнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, згрупаваныя вакол яго ідэолагі і значная частка афіцыйнай інтэлігенцыі, па віне якіх за апошнія дваццаць гадоў амаль завершана русіфікацыя зусім не шараговага суб'екта славянскай супольнасці народаў – беларусаў з іх багатай гісторыяй, адметнай, непадобнай на іншыя культурай. Дай бог, каб такая нацыянальная катастрофа не напаткала яшчэ які-небудзь славянскі народ!

* * *

Я асабіста не прымаю частых выказванняў сучасных славянафілаў аб нейкім прыярытэце праваслаўя ў гэтай этнічнай супольнасці народаў, хаця і нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, ахрышчаны ў гэтай веры. У гэтым пытанні я цалкам падзяляю пазіцыю актыўнага дзеяча на ніве славянства, паляка Баляслава Цяйкоўскага: "…праваслаўе, каталіцызм, пратэстанства і іншыя канфесіі, якія адрозніваюць нас, з'яўляюцца другараднымі ў параўнанні з першынством нацыянальнай і славянскай садружнасці. Яны павінны ўступіць галоўнай нацыянальнай ідэі і славянскаму адзінству. Той факт, што я славянін важней, чым тое, што я праваслаўны, католік, пратэстант, атэіст або язычнік". [1]

* * *

Самае горшае, што можа адбыцца ў XXI ст. ва ўсходнеславянскай супольнасці народаў, – гэта поўная культурна-моўная асіміляцыя беларусаў. Дзяржаве, як галоўнаму арганізатару і праваднiку дадзенай злачыннай акцыі, у дзясяткі разоў лягчэй давесці яе да жаданага ёй (дзяржаве) канца, чым выратаваць свой тытульны народ ад стагоддзямі гвалтам, хітрасцю навязанай яму русіфікацыі. Лёгкасць ажыццяўлення

такой шкоднай для ўсяго славянства задумы ў значнай ступені тлумачыцца ўсеагульнай пасіўнасцю беларусаў, бо яны бясконца стаміліся ад змагання з такім антынацыянальным курсам уладных структур, а сёй-той звыкся з ім, прыцёрся. Выратаванне беларусаў ад этнічнага вымірання ў значнай ступені будзе залежыць ад поспехаў змагання з гэтым ліхам іх суседзяў украінцаў.

[1] Славянскі набат. 1998. 18 – 24 чэрвеня.

## 9. Будучыня выплывае з-пад ног беларускай нацыі

У наш час, як ніколі раней, стан нацыянальнага жыцця беларускага народа знаходзіцца ў страшэннай разбалансаванасці, якую не так-то проста пераадолець пры панаванні ў грамадстве пад самыя глыбокія карані зрусіфікаваных палітычных дзеячоў і інтэлігенцыі. Дзеля выратавання беларусаў ад канчатковай дэнацыяналізацыі патрэбны зусім іншыя і чыноўнікі, і інтэлектуалы, якіх можа даць толькі пабудаваная на ўласным культурна-моўным падмурку народная адукацыя. Такой ужо даўно ў нас няма і невядома, калі яна будзе. Таму вельмі мала надзей нават на самае мізэрнае паляпшэнне сітуацыі. Мы працягваем гібець без здаровага нацыянальнага ядра ў грамадстве. У іншых народаў такое ядро стваралі з дапамогай дзяржавы. У нас жа яна за апошнія амаль дваццаць гадоў і кроку не зрабіла дзеля выратавання беларускага народа ад нацыянальнага заняпаду. Хутчэй, наадварот, сама не раз піхала яго ў асіміляцыйную непралазную багну. У ёй зараз цялёпкаецца разам са сваімі “далёкаабачлівымі” палітыкамі, “геніяльнымі” інтэлектуаламі абсалютная бальшыня беларусаў.

* * *

Калі зыходзіць з нацыянальнага інтарэсу беларускага народа, дык ёсць усе падставы характарызаваць культурна-моўную палітыку сучаснага чыноўніцкага апарату не проста няўзважанай, неразумнай, але злачыннай. Злачыннай таму, што ў выніку яе ажыццяўлення рана ці позна беларускі народ немінуча закончыць сваё існаванне ў якасці самабытнага, адметнага ад іншых этнасаў. Па сутнасці ён ужо не

здзяйсняецца ў сваёй ролі, бо карыстаецца духоўнай стравай пераважна з чужога рускага карыта. Гатуюць жа яе і многія беларускія кухары.

* * *

Беларускае грамадства так “шчасліва” крочыць да фінішу канчаткова этнічнага заняпаду, што нават дзеячы культуры просяць, каб да іх падчас радыё- і тэлеперадач не звярталіся на мове тытульнай нацыі краіны. У дачыненні ж да палітыкаў такое з практыкі афіцыйных СМІ выключылі адразу ж пасля ўсталявання прэзідэнцкай сістэмы кіравання краінай, бо не жадалі падстаўляць іх.

* * *

Амаль глабальная аккультурацыя (пераход з роднай культуры на чужую) самых адукаваных, грамадска актыўных, палітычна ўплывовых пластоў карэнных жыхароў краіны аж да глыбокіх падвалін страшэнна зруйнавала яе самабытнасць. Беларускасць нашага народа падсілкоўваецца галоўным чынам толькі геаграфічным (назва тэрыторыі пражывання) і палітычным (назва дзяржавы) фактарамі, а самы галоўны этнічны фактар практычна не адыгрывае аніякай ролі. Гэтаму ўсяляк садзейнічаюць улады: яшчэ не паспеў які-небудзь эмігрант юрыдычна аформіць свае правы на пражыванне ў нашай краіне, а яго ўжо прапаноўваюць называць беларусам, а на самай жа справе такім асобам стаць сапраўдным беларусам куды цяжэй (трэба ж цалкам інтэгравацца ў традыцыі абранай краіны), чым з нізкім матэрыяльным дастаткам маладой сям’і пабудаваць падчас шалёнай дэвальвацыі ўласную трохпакаёвую кватэру ў прэстыжным месцы беларускай сталіцы.

Не дапускаючы беларускую мову ў дзейнасць дзяржаўных, адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, у элітарныя пласты адукацыі, культуры і навукі, нашы палітыкі хочуць таго ці не садзейнічаюць зніжэнню прэстыжнасці роднага слова тытульнай нацыі краіны нават сярод яго прыродных носьбітаў – беларусаў. Яшчэ і сёння многія з іх думаюць, што беларуская мова здольная задавальняць толькі элементарныя патрэбы сямейна-бытавых зносін, а не якіх-небудзь больш важных сфераў дзейнасці людзей.

* * *

Ва ўмовах нічым не абмежаванага панавання рускага фактару ў духоўным жыцці Беларусі ёй ніколі не ўдасца стаць культурна-суверэннай краінай, мець права прэтэндаваць на прыстойнае месца ў

цывілізаваным свеце. Сюды не прымаюць народаў, якія не ў стане тварыць, жыць з набыткаў уласнай культуры, а паразітуюць на чужой. І калі ж у дзяржавы, самых прагрэсіўных колах беларускага грамадства знойдуцца сілы і розум, каб адмовіцца ад такой заганнай практыкі?

* * *

Ад таго, што нашым уладам пры ўсебаковай падтрымцы інтэлігенцыі ўдалося схіліць народ на тое, каб мець для сваёй краіны не адну, а дзве дзяржаўныя мовы, ён нікольки не стаў разумнейшы, не вырваўся наперад у культурным жыцці ў параўнанні з суседзямі. Наадварот, назіраецца адставанне ад апошніх у паглыбленні працэсаў нацыянальна-культурнай кансалідацыі, у чым выключна важную ролю займае свая прыродная мова. Мы ж марна імкнемся гэтага дасягнуць з дапамогай мовы суседняй дзяржавы, а аб сваё роднае слова дзесяцігоддзямі выціраем брудны абутак.

* * *

Ніхто і ніштo не наносіць такой вялікай шкоды свайму народу, як яго засіміляваная частка людзей. Асабліва гэта датычыць палітыкаў, ідэолагаў, інтэлігентаў. Па розных прычынах адарваныя ад роднай глебы яны хочуць бачыць і ўсяляк імкнуцца да таго, каб такімі зневажальнікамі нацыянальнага станавілася як мага больш іх супляменнікаў, дзеля дасягнення чаго выкарыстоўваюцца любыя прыгодныя для асіміляцыйных мэтаў сродкі. А вось такія ўплывовыя прадстаўнікі іншых народаў звычайна не адважваюцца займацца такім злачынствам у дачыненні да карэннага насельніцтва той краіны, тэрыторыя якой стала для іх другой радзімай.

* * *

Не горад, а вёска стагоддзямі забяспечвала беларускаму народу захаванне на генетычным узроўні свае этнакультурныя адметнасці. Яе (вёскі) цяпер практычна няма. Тады хто ж павінен узяць на сябе такія лёсавызначальныя функцыі? Лічу, што дзяржава ў апоры на высокай нацыянальнай самасвядомасці інтэлігенцыю. Але ж яна адсутнічае ў нас. Дый сама дзяржава не адпавядае статусу нацыянальнай. Во мур, дык мур на шляху нашага выратавання ад этнічнага скону! То можа не варта, як робім мы, так пазніцца з пабудовай зарыентаванай на беларускую нацыянальную ідэю дзяржавы, з узгадаваннем нацыянальна самасвядомых маладых пакаленняў?

* * *

Калі цвяроза глянуць на ўсё, што нас акаляе, дык больш лагічным пры нагодзе ўсклікаць не любімы ўсімі пакаленнямі адраджэнцаў дэвіз “Жыве Беларусь!”, а горкія да болю словы “Мрэ Беларусь!” Але выкрыкнуўшы іх, трэба не бяздзейнічаць, спакойна рыхтавацца да этнічнай смерці, а рашуча брацца за святую адраджэнскую справу. Шкада толькі, што не ў апоры на дзяржаву, а толькі на сваю сілу. У гэтым, відаць, беларусы адзіны ў свеце народ, якіх прывялі амаль да поўнай асіміляцыі (русіфікацыі) уладныя структуры, а ратавацца ад гэтай навалачы даводзіцца без усялякай іх падтрымкі, самапасам, што не дае аніякіх пазітыўных вынікаў. Год ад году становішча нацыянальнага жыцця толькі пагаршаецца ў сувязі з узмацненнем на яго рускага ўплыву, якому ўсяляк дапамагаюць мясцовыя ўлады, абсалютная бальшыня творчай інтэлігенцыі, а апошнім часам не выключаючы і майстроў мастацкага слова.

* * *

У беларусаў рускай культуры няма аніякай надзеі на будучыню. Акрамя этнічнага вымірання іх у ёй нічога добрага не чакае. Такая ж трагедыя здарылася б з імі пры гвалтоўным ці дабраахвотным пераходзе ва ўлонне польскай, украінскай альбо якой-небудзь іншай культуры. Сусветная практыка даўно і вельмі пераканаўча засведчыла, што гаспадаром – панам народ на бацькоўскай зямлі пачуваецца толькі ў роднай культурна-моўнай стыхіі. Дый наш да краёў адмоўны ў гэтым вопыт жыцця значнай колькасці беларусаў паводле рускіх культурна-моўных стандартаў не пакідае сумненняў наконт шкоднасці такой практыкі. Пакуль яшчэ не позна, трэба рашуча адыходзіць ад яе, не шкадуючы намаганняў, сродкаў для павышэння ролі нацыянальна-беларускага фактару ў культурным жыцці краіны. Дакуль жа хадзіць у батраках, працаваць на чужое?

* * *

Як бы мы ні хацелі, але, на вялікі жаль, з-за сучаснага занядбання ўласнага культурна-моўнага фактару не можам звярнуцца да свайго народа з такімі паэтычнымі радкамі нашага любімага песняра:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромістай такой грамадзе?
– Беларусы.

Паводле галоўнага этнічнага крытэрыю – беларускай мовы – яны ўжо амаль зваліся са свету.

* * *

Нашыя палітыкі, асабліва высокага рангу, афіцыйныя ідэолагі, бальшыня ўзятых імі на службу інтэлігенцыі ставяць сабе ў вялікую заслугу, што змаглі, дзякуючы апоры на народ, надаць рускай мове статус дзяржаўнай, забяспечылі ёй пазаканкурэнтнае панаванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Аднак ніхто з іх не набраўся смеласці заявіць, што ўсё гэта дасягнута праз адпаведнае абмежаванне сацыяльнай ролі беларускай мовы – мовы тытульнай нацыі краіны. Сусветны парадокс: нахабна адабраць у беларусаў іх законнае права будаваць усё жыццё ў роднай мове, аддаць яго пад уладу рускай і ставіць гэта сабе ў заслугу! На такое здольныя толькі з нулявой нацыянальнай самасвядомасцю палітыкі і іх памагатыя.

* * *

Страшэнна здзівіла, калі ў газеце "Літаратура і мастацтва" (20.IV.2012) прачытаў, што ў Магілёве ёсць грамадскае аб'яднанне "Рускае культурна-асветніцкае таварыства". Здзівіла таму, што ўжо не першы год не толькі Магілёўшчына, а ўся Беларусь уяўляе сабой "Рускае культурна-асветніцкае таварыства", толькі яго трэба называць не таварыствам, а словамі больш шырокага плана: масіў, абшар, прастора. Разам з іншымі культурна-асветніцкімі асяродкамі Магілёва названае таварыства абвясціла літаратурны конкурс, прысвечаны 200-годдзю перамогі ў Айчыннай вайне 2012 г. пад назвай "Далекому мужеству вернось храня…" Прыкметная асаблівасць конкурсу: ён "праводзіцца выключна для рускамоўных аўтараў", відаць, з-за вялікай павагі да апошніх. Цікава, ці можна было б нешта падобнае правесці ў якой-небудзь іншай краіне?

* * *

Калі самым сур'ёзным чынам на дзяржаўным узроўні не заняцца выратаваннем беларускай нацыянальнай культуры і мовы, ім разам са сваімі носьбітамі не ўдасца ўхіліцца ад лёсу Атлантыды.Ужо на сёння непараўнальна больш беларусаў знаходзяцца пад вадой, чым на плаву. Не губляю надзею, што сур'ёзнасць такой пагрозы для нацыі калі-небудзь зразумеюць палітыкі і будуць рабіць рашучыя захады па яе

выратаванні. Гісторыкі некалі назавуць такія выратавальныя дзеянні дзяржавы Боскім пачаткам.

* * *

Нашаму нацыянальнаму інтарэсу, статусу беларускай суверэннай дзяржавы ніколькі не адпавядае прысутнасць на яе тэрыторыі цалкам залежнай ад маскоўскага патрыярхату Беларускай праваслаўнай царквы. Яго погляды на наш край, яго карэннае насельніцтва ніколькі не розняцца ад аналагічных поглядаў на гэтыя рэчы свецкіх уладаў Расійскай Федэрацыі, г. зн. скіравання на палітычную інтэграцыю Рэспублікі Беларусь у яе склад у якасці суб’екта адзінай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы. Кіраўніцтва БПЦ ніяк не хоча зразумець, і яму ва ўсім гэтым ахвотна дапамагаюць нашыя палітычныя вярхі, што ў гэтай дзяржаве Беларусь вельмі хутка растворыцца, страціць усялякія правы быць у ёй нават нейкай сімвалічнай аўтаноміяй, будзе на цэлы парадак каціравацца ніжэй за Татарстан, Башкіртастан, значны працэнт насельніцтва якіх яшчэ захоўвае, жыве паводле сваіх нацыянальна-культурных традыцый, што ўжо амаль зусім не ўласціва беларусам з-за высокай ступені русіфікацыі. Цалкам падзяляю пазіцыю добра вядомага ў нас ідэолага сучаснага беларускага нацыянальнага руху Анатоля Астапенкі: “Толькі незалежнасць нашых царкоўных інстытутаў ад Трэцяга Рыму (Масквы. – *Л. Л.*) можа стаць сапраўдным крытэрыем незалежнасці. А гэта мажліва толькі пры абвяшчэнні аўтакефаліі”, якая “рана ці позна здзейсніцца”, бо “гэта непазбежны гістарычны працэс”. [1]
Хацелася б, каб такое адбылося як мага хутчэй, пакуль яшчэ ў нашых людзей нешта захоўваецца ад беларускасці.

* * *

У мінскім выдавецтве “Рыфтур” у 2005 г. па ініцыятыве Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры СМ РБ выйшаў даведнік-буклет “Беларусь шматнацыянальная”. Там змешчаны артыкул Янкі Купалы (1919 г.) “Незалежная дзяржава і яе народы”. Але ў самім тэксце словы “народы” не ўжываюцца, ёсць толькі выразы: “… будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі”, “У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, татараў…” Назву буклета ніяк нельга прызнаць правільнай. Болей за тое, яна нават у нейкай ступені закранае нацыянальны інтарэс беларускага народа, бо ў нашай краіне толькі адзін ён належыць да народа, усе ж астатнія жыхары – гэта этнічныя меншыні. У буклет унесены толькі 16 з іх. Па-беларуску

матэрыялы ў яго далі пра сябе толькі латышы, літоўцы, палякі, татары, украінцы і яўрэі. Якой-небудзь адмоўнай рэакцыі беларусаў на назву буклета не даводзілася чытаць, бо, відаць, яны ўжо і самі сябе не адчуваюць гаспадарамі роднай зямлі, а лічаць яе шмат-, а не аднанацыянальнай беларускай. Во да чаго давяла народ антынацыянальная дзяржаўная палітыка.

* * *

Беларуская мова, загнаная ў выніку майскага рэферэндуму 1995 г. у Бермудскі трохкутнік, ніколі не выберацца з яго толькі высілкамі

[1.] Астапенка Анатоль. …Йгде зродилиса иоскормлены суть побозе… СПб. 2010. С. 652, 653.

адных сваіх шчырых нешматлікіх носьбітаў. Культурна-моўная асіміляцыя беларусаў, якую з сатанінскай упартасцю праводзілі ідэалагічныя службы бальшавіцкай партыі на працягу ўсяго часу свайго панавання, спрычыніліся да таго, што колькасць такіх носьбітаў дайшла да крытычнай мяжы. Адрадзіць, зрабіць беларускую мову гаспадыняй на сваёй этнічнай, гістарычнай тэрыторыі можна толькі праз мэтанакіраваную, свядомую дзейнасць дзяржавы. Выключна ўсе народы, якім калі-небудзь даводзілася выходзіць са стану дэнацыяналізацыі, ратавацца ад асіміляцыі пачыналі дасягненне гэтай высакароднай мэты са стварэння ўласнай дзяржавы (на шчасце, і ў нас яна ёсць), асноўнай функцыяй якой станавілася нацыянальна-культурнае адраджэнне свайго карэннага насельніцтва. Гэта толькі нам, беларусам, на здзіў усяму свету, не пашчасціла з такой дзяржавай.

* * *

Мне думаецца, што навуковая інтэлігенцыя яшчэ так і не давяла нашых дзяржаўных дзеячоў да глыбокага разумення, што сёння беларуская мова не проста знаходзіцца ў сябе дома на становішчы чужой, але падышла да крытычнай мяжы знікнення, бо каб яны ўсё гэта добра ўсведамлялі, авось мо рабілі б самыя рашучыя і тэрміновыя захады па выратаванні роднага слова беларусаў, са знікненнем якога ставіцца кропка на іх гісторыі, яны перастаюць існаваць як самабытны народ, будуць колькасна папаўняць той этнас, мова якога атрымала верх, выцесніла іх родную.

* * *

Наша духоўнае жыццё ў яго элітарных сферах да самых берагоў напоўнена набыткамі рускай духоўнай культуры, для стварэння якой прыкладвалі і прыкладваюць свой талент і беларусы. У такой сітуацыі практычна ўжо немагчыма гаварыць пра самабытнасць, адметнасць прафесійнай культуры Беларусі, аднак гэтага не хочуць заўважаць адказныя за яе стан афіцыйныя асобы. Праўда, ад адной з іх я чуў у прыватнай гаворцы, што стратнасць культурна-моўнай сітуацыі ў краіне многімі разумееца, але не бяруцца за яе выпраўленне толькі з-за страху перад Масквой. Пэўны рэзон ёсць у такім тлумачэнні. Як-ніяк беларускую культуру выціскае з яе гістарычнай тэрыторыі не польская, нямецкая, французская, амерыканская…, а руская і ўсялякае абмежаванне яе ў нас абавязкова выкліча рашучы пратэст з боку нашай усходняй суседкі і найбольш яе ўладаў, уплывовых культурных дзеячоў.

* * *

Калі нічога не мяняць у дзяржаўнай культурна-моўнай палітыцы(а яе па ўсім відаць вярхі не жадаюць, а нізы не могуць змяніць), беларусы праз не такі ўжо і працяглы час пераўтворацца ў нейкі сурагат паралельны рускай нацыі. Думаю ўжо незарана палітыкам і афіцыйным ідэолагам усур'ёз задумацца над пошукамі адпаведнай назвы для такога гора-сурагату. На найменне "беларусы" ён ніяк не можа прэтэндаваць з-за вымушанага ці добраахвотнага ўходу з беларускага культурна-моўнага поля, што карэнным чынам змяніла менталітэт нашых людзей, аднак цалкам не інтэграваўшы ў рускі. Нешта такое атрымалася, як у той прымаўцы: ні Богу свечка, ні чорту качарга.

* * *

Верыць у існаванне беларускай нацыі пры адсутнасці ў яе агульнасці мовы, самабытнай, арыгінальнай незасмечанай напоўніцу чужымі ўплывамі культуры, могуць толькі людзі з букварнымі ведамі сутнасці нацыянальнага пытання. Той, хто перашкаджае ўсталяванню беларускамоўнай агульнасці ў краіне, станаўленню, развіццю ў апошняй уласцівай толькі ёй адной культуры, нясе поўную адказнасць, што беларусы ніяк не могуць скласціся ў самабытную цывілізаваную нацыю, маюць у сваім нацыянальна-культурным жыцці столькі наноснага рускага, што пазбаўлены нават дастатковых падставаў насіць сваё імя беларусы. Пакуль яны не вызваляцца ад асіміляцыі – а гэта ёсць першарадная задача самой дзяржавы – ў рускай упакоўцы, нельга будзе лічыць іх за поўнавартасную беларускую нацыю. У шчырых

прыхільнікаў яе непачаты край напружанай стваральнай працы. І будзем цвёрда перакананымі ў тым, што часу на роздум у нас зусім няма! На сёння мы да такой ступені здэнацыяналізаваны, што да нас ніяк не дапасоўваецца прымальны для этнічна здаровых народаў дэвіз: “Выратаванне народа ёсць справа самога народа”. Мы такое можам здзейсніць толькі праз выкарыстанне на ўсю моц рэсурсу дзяржавы. І яна па логіцы павінна адважыцца на такі крок, бо беларусы адыйшлі ад свайго прыроднага ладу жыцця не самахоць, а ў выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай асімілятарскай палітыкі, якой сістэмна, з зайздроснай адказнасцю займаюцца і сучасныя ўлады. Сітуацыя амаль безнадзейная, улічваючы яшчэ поўную пасіўнасць народа да развязвання праблемы свайго нацыянальна-культурнага адраджэння.

## Замест эпілога

## Да канца змагацца за выратаванне беларускага народа ад этнічнага вымірання

Ніколі яшчэ не існавала такой рэальнай пагрозы страты беларусамі сваёй этнакультурнай самабытнасці, як у нашы дні. Народ амаль зусім развучыўся спяваць свае песні, спрэс гамоніць на чужой мове. І ўсё гэта з-за таго, што яго цела моцна спляжыў каток русіфікацыі, прычым не стыхійна, а ў выніку адпаведнай дзяржаўнай палітыкі. З апорай толькі на свае ўласныя сілы беларусы ўжо не ў стане нацыянальна адрадзіцца, як не ў стане чалавек сам саўладаць з прабадзеннем апендыцыта. І ўсё ж хоць самыя нікчэмныя шанцы на выратаванне беларускага народа ад этнічнай пагібелі яшчэ маюцца, толькі трэба, каб за гэтую справу актыўна ўзялася дзяржава, бо добраахвотныя грамадскія аб’яднанні, падобна, вычарпалі свае сілы. Яна павінна ўзяць на сябе адказнасць за ўсе папярэднія палітычныя рэжымы і ўласны, якія праводзілі і праводзяць ганебную палітыку русіфікацыі беларусаў і давялі іх да таго, што яны сталі непадобнымі самі на сябе, выступаюць у агіднай ролі пярэваратняў.  Як жа знайсці выйсце з такой архіскладанай, аварыйнай сітуацыі? Першае, што патрабуецца ад дзяржавы і яе кіраўніка, – гэта ў сваім звароце да народа пераканаўча паказаць, што прычынай яго адрыву ад культурна-моўных традыцый з’яўляецца не якая-небудзь фатальная непазбежнасць ці гістарычная заканамернасць, а тонка, дзе з розумам, а дзе і з хітрасцю праведзеная на афіцыйным узроўні, крайне зацяжная палітыка паланізацыі і русіфікацыі (апошняя яшчэ працягваецца).У

дасягненні яе канчатковай мэты вырашальную ролю адыгралі антыбеларуская сістэма адукацыі, дзейнасць зарыентаваных на Польшчу каталіцкага касцёла і на Расію – праваслаўнай царквы. Не заўсёды правільную пазіцыю ў пытаннях нацыянальна-культурнага жыцця беларускага народа займалі многія яго палітыкі і прадстаўнікі інтэлектуальных колаў. Дэнацыяналізацыі насельніцтва нашага краю садзейнічала ўваходжанне яго, часцей за ўсё прымусовае, у рознага роду палітычныя саюзы і аб’яднанні з суседнімі дзяржавамі. Карэнным нацыянальным інтарэсам Беларусі не адпавядала яе дзяржаўна-палітычнае становішча ні ў Рэчы Паспалітай, ні ў Расійскай імперыі, ні ў Савецкім Саюзе. Ва ўсіх гэтых дзяржаўных аб’яднаннях яна вымушалася больш думаць пра чужыя, чым свае ўласныя інтарэсы. У гэтым афіцыйным Звароце дзяржавы да беларускага народа з усёй пераканананасцю павінна быць абгрунтавана, што культурна-моўнае адраджэнне яго выходзіць далёка за нацыянальныя рамкі, ёсць праблема і агульнаславянская, і агульнаеўрапейская. Ні славянскай супольнасці, ні еўрапейскай цывілізацыі зусім неабыякава: будзе існаваць гэты старажытны самабытны беларускі народ альбо бясследна растворыцца ў рускім культурна-моўным акіяне.

Пасля апублікавання такога дзяржаўнага Звароту да народа ўвесь ідэалагічны апарат, велізарныя сілы навуковай, творчай, педагагічнай інтэлігенцыі павінны быць прыцягнуты да актыўнай растлумачальнай працы з тым, каб пераканаць калі не ўсё, дык пераважную колькасць насельніцтва краіны ў неабходнасці яе нацыянальна-культурнага адраджэння на прыроднай беларускай культурна-моўнай аснове. Людзям павінна быць даведзена, што не толькі беларусы, але і многія іншыя народы свету часта прыступалі да свайго нацыянальнага адраджэння ў ніколькі не лепшых умовах, але дзякуючы свайму няўмольнаму жаданню, вялікім намаганням у досыць сціслы тэрмін дасягалі прыкметнага поспеху на гэтым гістарычным шляху. Пасля правядзення такой глыбокапрадуманай культурна-асветніцкай працы, пра ход якой абавязаны падрабязна паведамляць усе сродкі масавай інфармацыі, створацца спрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення ўсіх самых буйнамаштабных мерапрыемстваў па нацыянальным адраджэнні. І самым першачарговым з іх павінна стаць стварэнне сваёй уласнай, сапраўды нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Трэба ведаць, што ў руках дзяржавы ніколі не было, няма і не будзе больш магутнага, дзейснага сродку фармавання грамадства ў патрэбнай для яе кірунку, як адукацыя. Шкода толькі, што яе вельмі часта не толькі

ў Беларусі, а і ў іншых краінах, выкарыстоўвалі ў мэтах разбурэння этнічнага патэнцыялу таго ці іншага народа. Магчыма гучыць гэта і парадаксальна, але асветаю ў самым шырокім сэнсе яе разумення з аблічча зямлі сцёртыя, як самабытныя этнічныя супольнасці, тысячы плямёнаў і народнасцяў. З удзелам асветы незаменныя ў сваім этнакультурным азначэнні страты панёс і нясе сёння беларускі народ. Аднак у асветы, калі гаварыць пра яе ў планетарным маштабе, усё ж несумненная перавага застаецца за станоўчымі набыткамі, асабліва калі ўлічваецца нацыянальны фактар. У свой час яго вельмі добра разумелі і максімальна выкарысталі ўсе славянскія народы, дзякуючы чаму ім удалося вырвацца з турэцкага, аўстрыйскага і нямецкага ярма. Можна прывесці нямала прыкладаў вырашальнай ролі нацыянальнай адукацыі ў адраджэнні і іншых народаў, у т. л. азіяцкага і афрыканскага кантынентаў. Калі ж такога адраджэння не адбылося з беларусамі, дык гэта ў найбольшай ступені толькі таму, што ў іх на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў практычна не было і сёння няма нацыянальнай сістэмы адуккацыі. Стварыць яе падуладна і нашай дзяржаве. Галоўнае – мець жаданне.

Сучаснае беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне сканала ў значнай ступені таму, што ў ім адсутнічае фактар навукі, хаця нам вельмі добра вядомая яе выключная роля ў перыяд міжваеннай беларусізацыі. Наяўнасць ў яе грунтоўнай тэарэтычнай базы – гэта найперш галоўная заслуга тагачаснага акадэмічнага сектара грамадазнаўчых навук, што ніяк не заўважаецца сёння. Праблемамі нацыянальнага адраджэння, а больш правільна будзе: нацыянальнага выратавання, беларускага народа займаюцца адзіночкі адарваных адзін ад аднаго навукоўцаў, выдаючы кнігі за ўласны кошт мізэрнымі накладамі, у выніку народ як не ведаў, так і не ведае, якая этнічная катастрофа чакае яго з-за нечувана маштабнага панавання рускага пачатку ў нашым духоўным жыцці. Прамы абавязак дзяржавы данесці народу ўсю горкую праўду пра сучасны трагічны стан яго нацыянальна-культурнага жыцця, інакш ён як быў, так і застаецца пасіўным сузіральнікам сваёй этнічнай пагібелі. Нацыянальныя страты ў беларускага народа каласальныя, але калі выратаванне яго ад згубных наступстваў русіфікацыі паставіць на дзяржаўную аснову, вынікі будуць пазітыўнымі. Толькі не трэба марудзіць!

## Дадатак

## Стварэнне Камітэта нацыянальнага выратавання Беларусі – патрабаванне часу

Такія словы ўжо не раз траплялі на старонкі нацыянальнага перыядычнага друку. Прысутнічалі яны і ў артыкуле галоўнага рэдактара газеты “Народная Воля” Іосіфа Сярэдзіча “Пасля прэс-каферэнцыі…” (Народная Воля. 18 студзеня 2013 г.). Названая публікацыя змяшчае шмат цікавай інфармацыі, вызначаецца зайздросным уменнем яе аўтара весці палеміку з палітыкамі самага высокага рангу. Але мяне найбольш за ўсё закрануў апошні абзац артыкула, у якім ёсць такія горкія словы: “… калі Беларусь стане сапраўднай Беларуссю і ці не згінем мы, беларусы, наогул? Настолькі глыбока трапілі ў пашчу “вялікага суседа”, што заўтра ўжо позна будзе і ратавацца. Сёння гэта трэба рабіць! Сёння!”, пасля якіх прапаноўвалася стварыць Нацыянальны камітэт выратавання Беларусі.

У гэтым я цалкам салідарны з аўтарам. З ласкі палітычнага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь культура і мова яе тытульнай нацыі апынуліся ў такім катастрафічным становішчы, у якім яны не былі ў час кіравання нашым краем царскім генералам Мікалаем Мураўёвым – “вешальнікам”, у перыяд сталінскіх масавых фізічных рэпрэсій, у гады фашысцкай акупацыі і тады, калі КПСС настойліва праводзіла выпрацаваны яе ідэолагамі курс на збліжэнне, зліццё савецкіх нацый і народнасцяў, іх культур і моваў. У час усіх гэтых суровых выпрабаванняў нашая культура працягвала хоць збольшага захоўваць сваё нацыянальнае

аблічча, у асяроддзі народа, пераважна сельскай мясцовасці, гучала яго родная беларуская мова. Сёння з такой з’явай мы ўжо амаль не сустракаемся. Спрэс пануюць, гаспадараць нібыта на сваёй уласнай зямлі руская культура і мова. Нават самі кіраўнікі, вядомыя дзеячы культуры не бачаць патрэбы прысутнасці ў ёй нацыянальнага, беларускага. Такім абыякавым да нацыянальных духоўных каштоўнасцяў стаў амаль увесь наш народ, але не сам па сабе. Яго зрабіла такім антынацыянальная дзяржаўная русіфікатарская палітыка. Прычым самы небяспечны, разбуральны характар яна набыла пасля ўвядзення ў краіне Прэзідэнцкай сістэмы кіравання, правядзення ў маі 1995 года рэферэндуму, унясення ў 1996 годзе ў Канстытуцыю РБ згубных правак у артыкул пра мову. Калі да гэтага няўхільна ішла на ўздым беларусізацыя адукацыі і культуры, з другой паловы 1990-х гадоў усё пайшло на спад. Ад таго часу народ не пачуў ад кіраўніка краіны аніводнай афіцыйнай прамовы на беларускай мове, што самым негатыўным чынам адбілася і на стаўленні да яе ўсяго чыноўніцкага апарату. Поўны вывад беларускай мовы з грамадскага ўжытку, амаль поўная замена ў прафесійных сферах беларускай культуры рускай прывялі нас на мяжу этнічнага вымірання. Зараз ужо не стасуецца да нас этнонім “беларус”, а да нашай краіны – “Беларусь”. Пагублялася ўсё гэта за час дэкаратыўнага дзяржаўнага суверэнітэту. Спадзявацца, што нашыя палітыкі нарэшце абдумаюцца, пачнуць вяртаць з забыцця нацыянальную культуру і мову тытульнага народа, няма аніякіх падстаў, бо яны не дзеля гэтага пусцілі іх на звод.

Выратаванне беларускага народа ад канчатковай русіфікацыі – справа рук людзей, моцна знітаваных з нацыянальна-культурнымі традыцыямі Бацькаўшчыны. Такіх людзей да болі вельмі мала. Апазіцыйным партыям, нацыянальным рухам не ўдалося стварыць крытычную масу адраджэнцаў, якім сталася б падуладным спыніць руйнаваныя русіфікатарскія працэсы. На барацьбу з імі патрэбныя нейкія новыя, больш дзейсныя партыі і рухі. Існыя на сёння паспелі зжыць самі сябе, што асабліва пацвердзілася падчас апошніх парламенцкіх выбараў. Ні ў аднаго з кандыдатаў не было як след вытрыманай у нацыянальным духу праграмы. Дарэчы, такое можна сказаць і пра тых, хто меціў заняць крэсла Прэзідэнта краіны.

У якасці новага сродку, падыходу да прадухілення нацыянальнай катастрофы, якую нясе беларусам дзяржаўная палітыка русіфікацыі, лічу, ёсць прамы сэнс выкарыстаць разумную прапанову Іосіфа Сярэдзіча аб стварэнні Камітэта нацыянальнага выратавання Беларусі. З

падобнай практыкай мела справу нямала народаў. Чаму ж і нам, беларусам, не адважыцца на такое? Справа, вядома, не з лёгкіх, патрабуе глыбокага, удумлівага падыходу. Для яе развязвання патрэбныя і дыскусіі, і навуковыя канферэнцыі, і “круглыя сталы”. А галоўнае – жаданне быць беларусамі, не заставацца бесструктурнай этнічнай масай для колькаснага папаўнення рускай нацыі.

## Асноўныя публікацыі аўтара (XXI ст.)

1. Беларуская ідэя ў постацях і здзяйсненнях. 2001.
2. Асвета на Беларусі ў 1772 – 1802 гг. 2001. (разам з Е.Андрэевай).
3. Шляхі сталення: да 70-годдзя ўтварэння Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. 2001. (разам з Е.Андрэевай).
4. Краязнаўства – крыніца ведаў і нацыянальнага сталення. 2004.
5. Хрысціянства ў этнакультурным жыцці Беларусі (ад старажытнасці да 1917 г.). 2005.
6. Эшалоны бягуць на захад. З гісторыі перавозак на чыгунках Беларусі (верасень 1943 – май 1945 г.). 2005.
7. Гісторыя культуры Беларусі са старажытных часоў да 1569 г. 2005.
8. Паблема захавання беларускай этнакультурнай самабытнасці ў славянскім свеце. 2006.
9. У асяроддзі славянскага свету. Старонкі з гісторыі татарскага жыцця на Беларусі. 2006.
10. . Татары Беларусі. На пераломах сацыяльна-палітычных эпох (XX – пачатак XXI ст.). 2007.
11. Гісторыя культуры Беларусі пад уладай Расійскай імперыі (канец XVIII ст. – 1917 г.). 2007.
12. Гісторыя культуры Беларусі (1917 – чэрвень 1941 г.). 2008.
13. Гісторыя культуры Беларусі. 3-е выданне, дапоўненае (разам з У.Навіцкім). 2008.

14. Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі (верасень 1943 – кастрычнік 1964 г.). 2009.

15. Беларуская нацыянальная ідэя: тэарэтычны і практычны аспекты. 2010.

16. Русіфікацыя. 2010.

17. Культура Беларуси: от самобытной к денационализованной. 2010.

18. Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект. 2010.

19. Варыяцыі на нацыянальную тэму. 2011.

20. Магільнае ў гады нямецкай акупацыі (чэрвень 1941 – ліпень 1944). Успаміны. 2011.

21. Нацыянальна-культурнае жыццё Беларусі на тэрыторыі функцыянавання нямецкага акупацыйнага рэжыму (чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.). 2011.

22. Яўрэйская культура Беларусі – яе агульны духоўны набытак. 2012.

23. Рускі прафесар на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння. Успаміны. 2013.

24. Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі. 2013.

25. Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў як варыянт захавання іх этнакультурнай самабытнасці. 2013.

26. Першаму з’езду беларусаў свету – 20 гадоў. 2013.

**27.** Адзін з аўтараў выдадзенага ў 2011 г. шостага тома “Беларусь у 1946 – 2009 гг.” шасцітомнай “Гісторыі Беларусі”. 2011.

**Змест**